Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№ 12 (4556) 26 сакавіка 2010 г.

## У нумары:





Здаецца, сёння ў крытыцы і літаратуразнаўстве сама па сабе адпала патрэба дзяліць творцаў на пакаленні. Пасля яркага творчага ўзлёту паэтаў-франтавікоў у літаратуру прызыў за прызывам пайшлі дзеці вайны і дзеці пасляваеннага часу. І ледзь не ўсе яны атрымалі творчае "хрышчэнне" на філфаку. Іх доўгі час так і называлі — "філалагічнае пакаленне". Ды не ў тэрміналогіі, безумоўна, справа. Проста ёсць у нас літаратура, у якой працуюць як старэйшыя, так і маладзейшыя творцы. У кожнага свой талент, свае тэмы, свае магчымасці. Творчасць аднаго з іх, маладзейшых, адзначана нядаўна высокай узнагародай: Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб узнагароджанні галоўнага рэдактара часопіса «Полымя» паэта Міколы Мятліцкага медалём Францыска Скарыны.



# Далягляд паэта

Мікола Мятліцкі — адзін з найбольш яркіх прадстаўнікоў тых, хто ў паэзію прыйшоў у 1970-я. Сваім паэтычным настаўнікам ён лічыць франтавіка Анатоля Вялюгіна. І ўжо гэта адно шмат пра што гаворыць. Бо не кожнага спяшаўся падтрымаць строгі і ўдумлівы настаўнік, якога калегі называлі "адміралам паэзіі". Сярод многіх ён выбіраў адзінкі вартых яго мастацкага блаславлення. Цаніў паэтычны майстра ў сваім вучні моцную повязь таго з роднай палескай прыродай, шчырае смакаванне дарагіх лясных нерушаў, пошук свежага і адметнага слова. Адчуваў тое і сам вучань і аднойчы нават паэтычна-знаходліва расчуліў Анатоля Сцяпанавіча, павітаўшы яго на шасцідзесяцігадовым юбілеі вянком з шасцідзесяці маладых сушаных баравічкоў. Так і начапіў яму на шыю той духмяны палескі грыбны вянок. Аж праслязіўся тады настаўнік. Паэт усюды павінен заставацца паэтам, падумалася тады. Мікола Мятліцкі быў яшчэ на пачатку сваёй творчай дарогі, шукаў, суразмерваў ды прыглядаўся.

Паэт, як правіла, прыходзіць у літаратуру і адразу задумваецца над тым, як сцвердзіць сябе ў часе, у якім яму выпала жыць і тварыць, ён пакутліва шукае свае арыенціры, сваю галоўную тэму. Але бывае, што і сам час выбірае паэта і дыктуе яму свае правілы. Невядома, якога б накірунку прытрымліваўся М. Мятліцкі ў сваіх творчых росшуках, калі б не здарылася Чарнобыльская трагедыя. Той страшны рэактар нібыта выбухнуў у сэрцы паэта. Яго родная вёска Бабчын зусім нечакана аказалася ў трыццацікіламетровай зоне, у зоне адчужэння. Вось тады і грымнула ў сэрца самая галоўная яго тэма:

Вёска і вечар.
Пыл над дарогай.
Моўчкі гляджу на траву.
Самаю чуйнай
у свеце трывогай
Дыхаю і жыву.

Хаты адступяцца.
Сціснецца нема
Горлейка ручая.
Грукае ў грудзі
галоўная тэма,—
Спеліцца песня мая.

Гэтыя радкі напісаны ў 1984 годзе, за два гады да таго, што здарыцца. А ў сённяшнім прачытанні ў іх чуецца нейкае балючае прадчуванне. У яго ўжо было некалькі кніг паэзіі, было імя, але 1986 год змусіў нібыта пачынаць усё з новага ліста. Яго новая тэма вымалёўваецца і сцвярджае сябе праз боль і пакуты ўсёй Айчыны. Паэтычныя кнігі Міколы Мятліцкага "Палескі смутак", "Бабчын" (адна з іх уганаравана Дзяржаўнай прэміяй Беларусі) — гэта не толькі сведкі паэтавага смутку, гэта яшчэ і кнігі мужнасці і сумлення. Мужнасць патрабавала гаварыць пра незвычайную бяду веку толькі шчырую праўду, хай сабе камусьці гэтага і не хацелася. Сумленне ж падказвала: нельга сядзець, склаўшы рукі, трэба шукаць нейкія выратоўчыя шляхі. Бо сам выбух атамнага рэактара — гэта толькі пачатак вялікай трагедыі. Тым жа сэрцам разумелася, што самае страшнае якраз — яго наступствы. Быў яшчэ і абавязак: пакінуць добрую памяць пра вёску і яе жыхароў для нашчадкаў.

"Выгнання дзень", "сіратлівая пустата" родных хат ідуць за паэтам услед ужо некалькі дзесяцігоддзяў. З гадамі не паменела ў сэрцы болю, але і не стала для яго адчужанай сама вёска:

Кут мой забыты,
безабаронна
Зорыш пагаслых
крыніц вачыма.
Некаму ты —
Ачужэлая зона,
Сэрцу майму ты да скону —
Радзіма!

Кажуць, што кожнай вясной і восенню ваколіцы Бабчына будзяць чароды шэрых жураўлёў, а сэрца паэта ловіць іх трывожлівае курлыканне нават праз далечы. Трагічным шляхам да Бабчына павязе аднойчы М. Мятліцкі сваіх сяброў і калег па пяры, і тады ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" з'явіцца вядомая калектыўная кніга "Прайсці праз зону".

З гэтага часу другім домам і добрым паратункам для паэта станецца казачная па сваёй прыгажосці мясціна на Астравеччыне, радзіма яго жонкі:

Тут прыдбаў я куток —
пажыццёва адзіны,
Перажыўшы другога
трагічную смерць,
Каб пад небам
святліста-гаючым Радзімы
Шмат падумаць
аб чым і чаго зразумець.

Што ж, передумалася нямала, ды і зразумелася таксама. Галоўнае, што сама дарога да сонечных і зялёна-шумных берагоў Віліі, дзе стаіць ратоўная хата, сталася сапраўды жаданай дарогай сяброўства для шмат каго з нашых пісьменнікаў. Памятае яна і Анатоля Вялюгіна, і Максіма Лужаніна, і Барыса Сачанку, і Уладзіміра Марука, і Алеся Пісьмянкова. Памятаецца яна і мне сваім салодкім бярозавікам, ды смакам непаўторных рыжыкаў, ды шчупаком з ляснога возера, ля якога аднойчы вельмі хораша, з чаркай ды вершамі, пасядзелі пры вогнішчы з тутэйшымі леснікамі. Ніколі не забудуцца і заезды ў славутае Крэва, да руін вялікага замка, дзе спавядаліся ўжо самой гісторыі.

Дык дзе ж ён і як яго акрэсліць, паэтычны далягляд паэта? Не, ён не замыкаецца рамкамі толькі двух памянёных куточкаў Беларусі. Абсяг паэта — гэта ўсё тое, што здольная ахапіць паэтычная думка, ён, магчыма, нават большы, чым свет.

У гэты абсяг я ўключыў бы і працу ў часопісе "Полымя" ў якасці галоўнага рэдактара. Менавіта дзякуючы М. Мятліцкаму часопіс стаўся не толькі галоўнай трыбунай для літаратараў, свой голас усё часцей і часцей падаюць тут і слынныя вучоныя. Шануючы традыцыі сваіх папярэднікаў, Мікола Мятліцкі шукае і новыя шляхі да чытацкіх сэрцаў. Мне даводзілася быць сведкам, як праходзяць пасяджэнні рэдкалегіі часопіса. Яны часам нагадваюць своеасаблівыя семінары, творча прадуманыя і карысныя. Тое ж самае можна сказаць і пра "круглыя сталы", якія часопіс часта наладжвае сумесна з вядомымі вучонымі. Я ўжо не кажу пра паездкі па рэспубліцы, сустрэчы з чытачамі, супрацоўніцтва з таварыствам дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі. Часам здзіўляемся, як на ўсё гэта ў паэта стае часу. Як бачым, стае, яшчэ застаецца і на новыя вершы, пераклады, што часта з'яўляюцца ў друку. А калі казаць пра ягонага сэрца прапіску, дык яна застаецца нязменнай. Гэта — тая зямля, у якой ляжаць паэтавы продкі. Нездарма калісьці М. Лужанін амаль жартам сцвердзіў:

Ён не еў бы і не спаў бы,
Каб куток уславіць матчын.
Цэлы слоўнік зрыфмаваў бы
Ён з радзімым
словам Бабчын.

Схілімся ж і мы ў добрай пашане перад куточкам, з якога пачынаецца шырокі далягляд паэта.

Казімір КАМЕЙША

Фота Кастуся Дробава

## Пунктірам

•Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з юбілеем народную артыстку Расіі Надзею Бабкіну, паведамілі ў прэс-службе Кіраўніка дзяржавы. Кіраўнік дзяржавы падкрэсліў, што Надзея Бабкіна ўнесла неацэнны ўклад у захаванне і прымнажэнне традыцый народнай песні, падняла яе на новую творчую вышыню і заваявала сэрцы мільёнаў людзей.

•У сувязі са смерцю народнай артысткі Расіі Валянціны Талкуновай Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка выказаў глыбокія спачуванні яе родным і блізкім, паведамілі ў прэс-службе беларускага лідэра. "Валянціна Талкунова, прысвяціўшы ўсю сябе служэнню мастацтву, карысталася сапраўды ўсенародным любоўю. Яе імя залатымі літарамі ўпісана ў гісторыю савецкай і расійскай культуры", — гаворыцца ў спачуванні. "На беларускай зямлі Валянціна Васільеўна заваявала прызнанне як выдатная спявачка і сапраўдны сябар нашай краіны. Яе сыход з жыцця стаў незаменнай стратай для ўсіх нас", — адзначыў Аляксандр Лукашэнка.

•Кніга "Жыццё на шляху праўды (Мітрапаліт Філарэт з роду Вахрамеевых)" выйшла ў Выдавецтве Беларускага Экзархата і прысвечана 75-годдзю Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі. У кнізе распавядаецца пра род Вахрамеевых. Аповед уяўляе сабой сямейную хроніку, якую склаў Варфаламей Вахрамееў, бацька Мітрапаліта. Змешчаны таксама ўспаміны Філарэта пра сваё дзяцінства і юнацтва, пачатак святарскага шляху і сваіх настаўніках. Друкуецца нарыс пра служэнне Мітрапаліта, пра падзеі царкоўнага жыцця, арганізатарам і ўдзельнікам якіх ён быў.

•На адно з самых лірычных, прыгожых і старадаўніх святаў беларусаў — Гуканне вясны — запрашае філіял Нацыянальнага гістарычнага музея нашай краіны "Дом-музей I з'езда РСДРП". Кожны ахвотны зможа даведацца пра ўсе таямніцы гэтага свята, паўдзельнічаць у веснавых абрадах і гульнях. У праграме — гушканне на арэлях, ваджэнне карагодаў, спяванне вяснянак. Ёсць выдатная магчымасць далучыцца да конкурсу на лепшую птушку — сімвал Гукання вясны. Птушку можна як прынесці з сабой, так і вырабіць на месцы падчас майстар-класаў з цеста ці паперы, а таксама па аздабленні вербачак, бо на гэтыя выхадныя прыпадае яшчэ і хрысціянскае свята — Вербная нядзеля. А ўсё дзейства будзе ладзіцца заўтра на пляцоўцы побач з Домам-музеем I з'езда РСДРП.

•Беларускага гісторыка Уладзіміра Ляхоўскага ўзнагародзілі прэміяй імя Льва Сапегі. Яго тэму даследавання "Этнапалітычныя працэсы ў заходняй Беларусі ў часы Першай сусветнай вайны" палічылі найбольш актуальнай. Цяпер лаўрэата чакае год працы ў архівах Польшчы. А таксама ён прачытае сем лекцый па тэме Першай сусветнай вайны ў пяці польскіх універсітэтах — Ягелонскім у Кракаве, Варшаўскім, Беластоцкім, Уроцлаўскім, Познаньскім імя Адама Міцкевіча. Прэмія імя Льва Сапегі заснавана ў 2006 годзе Уроцлаўскім Калегіумам Усходняй Еўропы і Цэнтрам усходнееўрапейскіх даследаванняў Варшаўскага ўніверсітэта.

•У Гродне адкрылася выстава "Фарбы Нёмана". На ёй прадстаўлены працы чатырнаццаці мастакоў з літоўскага горада Аліітус. Яна арганізавана пры падтрымцы генеральнага консульства Літоўскай Рэспублікі ў Гродне. Выстава ладзіцца ў гарадской выставачнай зале да 10 красавіка.

Падрыхтавалі Павел РАДЫНА і Віктар ЗАЯЦ

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Сёмыя, паэтычныя

Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі наладзіла ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы VII мінскія паэтычныя чытанні "Каб мне голас добры мець…", прымеркаваныя да 170-годдзя з дня нараджэння Францішка Багушэвіча і Сусветнага дня паэзіі.



Верш Ф. Багушэвіча "Мая дудка" стаў своеасаблівым эпіграфам да ўсёй імпрэзы, менавіта яго чытаннем аўтар праекта і вядучы — паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Міхась Башлакоў распачаў вечарыну. Як працяг лірычнай хвалі, узнятай вершам пачынальніка беларускай літаратуры, гучала музыка ў выкананні ансамбля народных інструментаў "Весялуха" Мінскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў пад кіраўніцтвам Вольгі Трамбіцкай.

Міхась Башлакоў прадставіў выступоўцаў паэтычнымі радкамі з іхніх вершаў. Творцам, які атрымаў першае слова, стаў Міхась Пазнякоў — старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Паэт прачытаў уласныя творы, напісаныя ў народным ключы, сугучныя па настроі з вершамі Ф. Багушэвіча.

Хораша чыталі свае творы сталыя паэты, удзельнікі мерапрыемства Ала Левіна, Таццяна Лейка, Аляксандр Новік, Лізавета Палеес, Мікола Шабовіч, Кацярына Русальская, Кацярына Санюк. Парадавалі гледачоў якасцю і шчырасцю сваіх паэтычных твораў і маладыя паэты Вікторыя Багрына, Вольга Злотнікава, Рагнед Малахоўскі, Ірына Чарняўская, Ксенія Шаржановіч, Ганна Навуменка.

Не абышлося свята паэзіі і без музыкі. Маладыя паэты і музыкі Радмір Веліч, Дзіяна Локцева, Вікторыя Крупянькова, Таццяна Ганчарык, Ганна Чумакова спявалі ўласныя песні, а таксама песні на вершы паэтаў М. Багдановіча, А. Ставера. Сапраўдным сюрпрызам стала музычнае выступленне паэта і барда Дзмітрыя Пятровіча, які напісаў музыку да вершаў прысутных у зале паэтаў. Аўтары слоў гэтых песень з задавальненнем спявалі разам з музыкам.

Марына ВЕСЯЛУХА

На здымку: Ксенія Шаржановіч, самы малады член Саюза пісьменнікаў Беларусі, чытае свае вершы.

Фота Кастуся Дробава

# Бібліятэцы — літаратурная прэмія

Не згасае памяць пра таленавітага Аляксандра Капусціна на яго малой радзіме. Штогод на Жлобіншчыне ладзяцца памятныя мерапрыемствы ў гонар пісьменніка і краязнаўцы. Сёлета яны прайшлі гэтак жа запамінальна.

На магілу празаіка на мясцовых могілках, дзе адбыўся кароткі мітынг-рэквіем, былі ўскладзены кветкі ад землякоў, родных, раённых уладаў ды калег з Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. А ў раённай цэнтральнай бібліятэцы прайшоў літаратурны вечар "Памяць назаўжды", прысвечаны жыццёваму і творчаму шляху земляка.

На літаратурным вечары быў паказаны дакументальны фільм пра пісьменніка-франтавіка, якому ўдзячныя землякі яшчэ пры жыцці прысвоілі званне "Ганаровы грамадзянін горада Жлобіна". Як пра чалавека, улюбёнага ў свой родны край, сапраўднага патрыёта, пісьменніка, які падараваў людзям выдатныя творы, гаварылі на памятнай сустрэчы намеснік старшыні райвыканкама Віктар Касцянкоў, старшыня Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, празаік і публіцыст Уладзімір Гаўрыловіч.

Райвыканкамам і грамадскай пісьменніцкай структурай заснавана абласная літаратурная прэмія імя Аляксандра Капусціна. Сёлета прынята сумеснае рашэнне аб прысуджэнні яе раённай цэнтральнай бібліятэцы. Менавіта супрацоўнікі мясцовай скарбніцы кніг зрабілі і робяць шмат па распаўсюджванні і прапагандзе спадчыны земляка, актыўна знаёмяць чытачоў з яго патрыятычнымі і высокадухоўнымі творамі, збіраюць біяграфічныя звесткі і матэрыялы, праводзяць сустрэчы з яго роднымі. Любіў бываць тут і сам празаік — праводзіў сустрэчы з чытачамі, гутарыў з супрацоўнікамі, дарыў свае новыя кнігі.

Улад ПРЫЯЗЁРНЫ

## Вечарыны

# Прытулак муз

У сталічнай бібліятэцы імя Цёткі адбыўся творчы вечар маладога, але, безумоўна, таленавітага паэта Рагнеда Малахоўскага. Зараз лёгка можна адказаць на найважнейшае для кожнага творцы пытанне: "Дзе знайсці музу?".



Музу, і не адну, можна знайсці ў вышэй згаданай бібліятэцы, бо менавіта такую назву мае фотавыстава, якая была адкрыта падчас творчай вечарыны.

Гэтая аматарская фотавыстава ўжо другая ў жыцці Рагнеда Малахоўскага. Паэт з'яўляецца прыкладам таго, што таленавіты чалавек таленавіты ва ўсім. Ён жа і аўтар музыкі, і фатограф. На вечарыне Р. Малахоўскі яшчэ паказаў сябе як аўтар-біёграф. Менавіта ў такой форме ён расказаў пра свой першы рамантычны вопыт фатографа. Трэба дадаць, што "Музы" — гэта не абстрактнае тут слова: мадэлямі для фотаздымкаў паслужылі знаёмыя дзяўчаты аўтара, яго сапраўдныя музы.

"Сёння большасць вершаў будзе пра каханне", — адрасу "папярэдзіў" аўдыторыю Р. Малахоўскі. "Любая заснула на плячы. Я шчаслівы…" — дэкламаваў паэт. У сваіх апавяданнях, вершах аўтар вельмі часта ўжывае слова "багіня". І як прыемна чуць гэтае слова ў наш не вельмі рамантычны час.

Выстава доўжыцца да пачатку красавіка.

Алена ІВАНЮШАНКА

На здымку: Рагнед Малахоўскі.

Фота Крысціны Рабенковай

## Паміж урокамі

# Жыве традыцыя!

Гэтымі днямі, падчас вясенніх школьных канікул, праводзіцца Тыдзень дзіцячай і юнацкай кнігі. Ва ўсіх бібліятэках, якія працуюць для маленькага чытача, арганізуюцца літаратурныя конкурсы, віктарыны, адкрытыя прагляды кніжных фондаў, дэманструюцца навінкі і тэматычныя падборы на выстаўках.

Як зазначыла загадчык аддзела бібліятэчнага маркетынгу цэнтралізаванай сістэмы дзіцячых бібліятэк горада Мінска Анжэліка Карзанава, у сталіцы налічваецца васемнаццаць дзіцячых бібліятэк і шэсцьфіліялаў. І ў кожнай з гэтых устаноў будуць ладзіцца мерапрыемствы, прымеркаваныя да Тыдня дзіцячай і юнацкай кнігі. У адных бібліятэках свята будзе доўжыцца некалькі дзён, у іншых — цэлы тыдзень.

Да ўвагі дзятвы падрыхтаваны разнастайныя мерапрыемствы, прыкладам, кніжны вернісаж "Увага — юбілей" — пра тое, якія юбілеі адзначаюць беларускія пісьменнікі ці кнігі, выстаўкі "Казка майго жыцця", "З павагай да кніг", "Падарожжа ў мора кніг", святы "Я добрую кнігу як цуд люблю", "Усе кнігі цудоўныя, але што выбраць для душы?", трэнінгі "Чытаем па-беларуску" з аглядам новых беларускіх выданняў, літаратурны красворд паводле казкі "Канёк-Гарбунок" да 195-годдзя П.Яршова, гульня-віктарына "Кніжкі вялікага казачніка" і шмат іншага.

Таксама ў гэтыя дні дзятву чакаюць сустрэчы з айчыннымі пісьменнікамі, супрацоўнікамі вядучых дзіцячых і маладзёжных перыядычных выданняў, выстаўкі-агляды літаратуры, кніжныя кірмашы, конкурсы чытальнікаў.

Галоўная мэта гэтых мерапрыемстваў — прапаганда кнігі, азнаямленне юных чытачоў з лепшымі ўзорамі айчыннай і замежнай літаратуры, садзейнічанне духоўна-маральнаму і патрыятычнаму выхаванню, эстэтычнаму развіццю маладога пакалення… І, зразумела, далучэнне дзяцей да кнігі.

Віктар КАВАЛЁЎ

## Хойнікі-2010

### Радзіме Івана Мележа — новае аблічча

Паважаныя сябры!

Штогод у першую нядзелю верасня наша краіна адзначае нацыянальнае свята — Дзень беларускага пісьменства. У гэты дзень мы аддаём даніну павагі нашым продкам, якія стварылі фундамент адукацыі і пісьменства, усім, хто на працягу стагоддзяў шанаваў і нёс у свет цудоўную беларускую мову, хто ўпрыгожыў айчынную і сусветную культуру сваімі бессмяротнымі творамі.

Сталіцай XVII Дня беларускага пісьменства ў 2010 годзе стануць Хойнікі. Гэты непаўторны край узгадаваў народнага пісьменніка Беларусі Івана Мележа, які на ўвесь свет праславіў родную зямлю сваёй "Палескай хронікай".

Каб Дзень беларускага пісьменства прайшоў на самым высокім узроўні, запрашаем усіх неабыякавых людзей прыняць удзел у яго падрыхтоўцы. Вялікіх затрат патрабуе добраўпарадкаванне Хойнікаў: неабходна рэканструяваць дзіцячую бібліятэку, Дом культуры, гарадскі парк, былую панскую сядзібу, дзе неўзабаве будзе адкрыты краязнаўчы музей. У горадзе з'явяцца скульптурныя кампазіцыі герояў твораў Івана Мележа. Асабіста мы запрашаем прыняць удзел у дабрачыннай акцыі тых жыхароў Хойнікшчыны, якіх лёс раскідаў па розных кутках нашай краіны.

Свае грашовыя ахвяраванні можна дасылаць на разліковы рахунак 3632401190110 у філіяле 326 АСБ "Беларусбанк" МФО 151501685, г. Хойнікі, вул. К. Маркса, 4 УНН — 400057081. ОКПО — 04063463.

Створым свята разам!

Гомельскі аблвыканкам, Хойніцкі райвыканкам

Літ-абсягі

# Рэжысёрам святаў — чаканы падарунак

У не па-вясноваму халодны вечар ва ўтульных сценах Літаратурнага музея Максіма Багдановіча было цёпла і прыемна. Сапраўдны святочны настрой удалося стварыць удзельнікам творчай сустрэчы з адметнай асобай — Мікалаем Макарцовым, які прэзентаваў сваю кнігу "Тэатр мой — Беларусь святочная". Узнёслы настрой стварыла песня "Мая Беларусь" на словы Мікалая Фёдаравіча, якая прагучала на пачатку мерапрыемства.

Запамінальны і яскравы быў выхад галоўнага героя імпрэзы. Арганічна ўпляліся ў яго прывітальнае слова вершы Максіма Багдановіча "Зімой" і "Перад паводкай". М.Макарцову без цяжкасцей удалося настроіць усіх на святочны лад. І не дзіўна! Бо Мікалай Фёдаравіч вядомы ў нашай краіне як стваральнік першага ў Беларусі фальклорнага тэатра "Жалейка", рэжысёр-пастаноўшчык больш як сотні рэспубліканскіх, абласных, гарадскіх і раённых тэатралізаваных святаў і фестываляў.

Усе ў зале яшчэ раз упэўніліся, што Мікалай Макарцоў таксама і артыст (дарэчы, свае здольнасці ён праявіў не толькі на тэатральнай сцэне, але і на экране і радыё). Гледачы ўбачылі ўрыўкі відэазапісаў святаў рэжысёра-пастаноўшчыка і фрагменты яго акцёрскай работы ў стужках "Новая зямля", "Анастасія Слуцкая". Парадаваў герой творчай сустрэчы і выкананнем сваіх уласных твораў. І ва ўсім яго выступленні адчувалася непадробная шчырасць, самааддача і неўтаймаваная энергія і любоў да Беларусі, якую М.Макарцоў імкнецца данесці, падарыць сваім слухачам.

Пра гэта неаднаразова заўважылі і ўспомнілі ў прамовах запрошаныя госці. Адзін з найбольш аўтарытэтных тэатральных крытыкаў, доктар мастацтвазнаўства, прафесар Анатоль Сабалеўскі, напрыклад, яшчэ згадаў і пра тое, што Мікалай Фёдаравіч апантаны збіральнік тэатральнага фальклору. Добрыя словы ў адрас М.Макарцова і пажаданні яму далейшага творчага імпэту, новых пастановак, сцэнарыяў і новых кніжак выказалі і іншыя выступоўцы, сярод якіх народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч, зямляк героя імпрэзы, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась Пазнякоў, паэтэса Ніна Загорская, былы аднакурснік, дырэктар кінатэатра "Масква" Аляксандр Літвіновіч, Міхал Загорскі і іншыя.

На рамантычна-ўзвышанай ноце закончылася сустрэча з Мікалаем Фёдаравічам. Кніга М.Макарцова "Тэатр мой — Беларусь святочная" для яго ных калег-рэжысёраў — неацэнная крыніца спасціжэння фальклорных традыцый, без выкарыстання якіх праведзенне святочных масавых мерапрыемстваў сёння не ўяўляецца.

Тацццяна ЛАБАДА, загадчык філіяла Літаратурнага музея Максіма Багдановіча "Беларуская хатка"



На здымку: Марыя Захарэвіч і Мікалай Макарцоў падчас творчай сустрэчы.

Фота аўтара

Арт-лінія

# Тэатр стварае герояў

Заўтра, 27 сакавіка, — Міжнародны дзень тэатра. Свята для ўсіх, хто шчыруе на сцэне, працуе за кулісамі ці прыходзіць у залу як звычайны глядач. Артысты-купалаўцы заўтра пачастуюць публіку фірмовым "капуснікам", пра што афіцыйна паведамляюць на сваёй афішы. Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр парадуе і маленькіх, і дарослых сваіх прыхільнікаў прэм'ерай сямейнага мюзікла "Чырвоны Каптурок. Пакаленне next", дасціпныя песенькі з якога ва ўсіх на слыху дзякуючы папулярнаму тэлефільму. Прэм'ерай адзначыць заўтрашняе прафесійнае свята і Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М.Горкага: "Пане Каханку".



Стваральнікі спектакля "Пане Каханку" драматург Андрэй Курэйчык і галоўны рэжысёр горкаўскага тэатра Сяргей Кавальчык зусім не прэтэндуюць на гістарычную праўдзівасць той сітуацыі, у якой апынуліся іх героі. Невыпадкова ж назву пастаноўкі суправаджае засцерагальна-тлумачальны радок: "Мастацкая выдумка ў 2-х частках". І ўсё ж, і ўсё ж... Спектакль мае дакладна пазначаныя час і месца дзеяння — XVIII стагоддзе, перыяд пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай, Нясвіж, легендарны замак. Ды і героі тут — хоць і легендарныя, але зусім рэальныя, вядомыя з гісторыі асобы: адзін з найбольш заможных і ўплывовых магнатаў тагачаснай Еўропы Караль Станіслаў Радзівіл па мянушцы "Пане Каханку" ды ўзведзены на каралеўскі трон, але "менш шляхетны" паводле сваіго паходжання Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Воляю драматурга героі сустракаюцца ў Нясвіжскім замку. Якая мэта каралеўскага візіту да хлебасольнага, дасціпнага і экстравагантнага Радзівіла і як адаб'юцца наступствы гэтай сустрэчы на далейшым развіцці гісторыі — нашай з вамі, беларускай гісторыі? Паглядзеўшы спектакль, напэўна, можна знайсці ў ім і адказ на яшчэ многія пытанні, якія ўдумлівыя беларусы часта задаюць адно аднаму або самім сабе... А якія пытанні задавалі сабе і адзін аднаму драматург і рэжысёр, пачынаючы працу над новым творам, — пра гэта яны распавялі журналістам напярэдадні прэм'еры. Не знайшоўшы адказу на пытанне, чаму беларусы амаль не ведаюць герояў сваёй багатай мінуўшчыны, гісторыі, больш далёкай за ваенныя падзеі XX стагоддзя, А.Курэйчык і С. Кавальчык вырашылі: герояў трэба ствараць і паказваць! "Мы зробім беларускую п'есу. Спачатку напішам, потым паставім — і гэта будзе найрэдкі выпадак у сённяшняй тэатральнай практыцы. Тэатр створыць беларускага героя і пакажа сваім сучаснікам", — удакладняюць яны амаль дуэтам. І аднадушна абвяргаюць пазіцыю тых рэжысёраў, якія, спасылаючыся на адсутнасць годнага беларускага драматургічнага матэрыялу, спрабуюць гаварыць пра нашы нацыянальныя праблемы праз пастаноўкі класічных або сучасных замежных п'ес. Гаварыць з беларусамі пра беларускія праблемы трэба праз беларускія п'есы з беларускімі героямі — пераканаsuccessful стваральнікі спектакля "Пане Каханку", які нарадзіўся ... на рускай сцэне. Праўда, ужо робіцца пераклад п'есы на беларускую, і яе аўтар (які, між іншым, пісаў "Пане Каханку", калі знаходзіўся ў ЗША, і гэта дапамагала арганізавацца ў працы) не выключае магчымасці новых пастановак у іншых тэатрах. А размова пра прэм'еру горкаўцаў, дзе ў галоўнай ролі можна ўбачыць Расціслава Янкоўскага або яго калегу Івана Мацкевіча, абавязкова працягнецца на старонках "ЛіМа".

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымку: драматург Андрэй Курэйчык і галоўны рэжысёр Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М.Горкага Сяргей Кавальчык падчас прэс-канферэнцыі напярэдадні прэм'еры.

Фота Віктара Кавалёва

Повязі

# Гістарычнае сугучча

Як вядома, сёлетняй культурнай сталіцай Беларусі абраны старажытны Полацк.
Гэта значыць, што і так багатае культурнае жыццё горада набудзе новае гучанне. Гэтымі ж днямі ў Мастацкай галерэі Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка рыхтуецца выстаўка "Польскае выяўленчае мастацтва другой паловы XVIII — першай паловы XX стагоддзя з калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь".

Польскае мастацтва XVIII стагоддзя, у прынцыпе, сугучна з беларускім жывапісам. Можна сказаць, што гэта і наша нацыянальнае мастацтва. Збор твораў польскай мастацкай школы, якія захаваліся ў нашай краіне, у прыватнасці, у калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея, здольны прадставіць як сусветна вядомых, так і мала вывучаных майстроў жывапісу, скульптуры і графікі.

Дадзеная выстаўка ўпершыню азнаёміць наведвальнікаў з мастацтвам польскага класіцызму другой паловы XVIII стагоддзя па творах Шымона Чаховіча (1689 — 1775). Майстар атрымаў адукацыю ў Італіі, у сценах рымскай Акадэміі св.Лукі. Традыцыі еўрапейскага класічнага мастацтва знаходзяць сваё адлюстраванне ў рэлігійных і алегарычных сцэнах, такіх як на палатне, прадстаўленым на выстаўцы, "Дабравесце". Вядома, што работа Ш. Чаховіча "Св. Ян Непамук" 1765 года знаходзілася ў Полацку ў касцёле Св. Стэфана.

Важную ролю ў польскім мастацтве адыгрывалі такія жанры, як партрэт і пейзаж. У экспазіцыі будуць "Партрэт Урсулы Мнішак" Канстанцыя Александровіча і "Партрэт Бенедыкты Антаніны Сафіі Барбары Асалінскай" невядомага жывапісца. Калі ў XVIII стагоддзі перавага надавалася парадняму партрэту, галоўнай задачай якога было падкрэсліць сацыяльны статус мадэлі, то ў канцы XVIII — XIX стагоддзі паўстае цікавасць да камернага партрэта, да перадачы ўнутранага свету аб'екта.



Імкненне расказаць пра жыццё і побыт сучаснікаў было той характэрнай рысай, якая прама ці апасродкавана перaважала ў пейзажных творах польскіх мастакоў сярэдзіны — другой паловы XIX стагоддзя. Значнае месца ў экспазіцыі зойме калекцыя польскай графікі, якая ўключае ў сябе рэпрадукцыйную гравюру, аўтарскі эстамп і арыгінальную графіку майстроў XIX — першай паловы XX стагоддзя.

Бронзавым барэльефам вядомага польскага пісьменніка Юзафа Ігнацыя Крашэўскага прадстаўлена на выстаўцы творчасць Леапольда Стэйнмана (Штэйманя) (1848 — 1897). Гэтыя барэльефы ўваходзілі ў склад серыі знаных дзеячаў Польшчы.

Такім чынам, палачане і госці горада маюць выдатную магчымасць азнаёміцца з унікальнымі творамі выяўленчага мастацтва суседзяў-палякаў са збораў Нацыянальнага мастацкага музея нашай краіны.

Віктар КАВАЛЁЎ

На здымку: фрагмент старадаўняй польскай гравюры.

З-пад пяра

У Гомельскім дзяржаўным універсітэце прайшла сустрэча студэнтаў філалагічнага факультэта з вожыкаўцамі: галоўным рэдактарам альманаха "Вожык" Ю.Зарэцкай, рэдактарам аддзела літаратуры П.Саковічам і нязтатным карэспандэнтам, адным з даўніх і актыўных аўтараў "Вожыка", пісьменнікам М.Кавалёвым (Слівай). Адбылася таксама прэзентацыя кнігі гумару М.Слівы "Віртуальнае каханне", што выйшла ў серыі "Бібліятэка "Вожыка". Ю.Зарэцкая распавяла студэнтам пра гісторыю стварэння амаль 70-гадовага "Вожыка", які "вырас" з газеты-плаката "Раздавім фашысцкую гадзіну". П.Саковіч дадаў, што першая рэдакцыя часопіса была размешчана якраз у г.Гомелі (у Навабеліцкім раёне) і што варта было б адшукаць той будынак да юбілею альманаха, які будзе адзначацца ў 2011. Рэдактар аддзела літаратуры выказаў надзею на падтрымку студэнтаў у гэтай справе. П.Саковіч прачытаў свае пародыі, якія выклікалі гучны смех студэнтаў. М.Кавалёў распавёў студэнтам, калі, чаму і "як ён стаў Міхасём Слівай". Цытаваў найбольш цікавыя гумарэскі з кнігі "Віртуальнае каханне", узгадваў гісторыі іх стварэння.

Тацццяна ФІЦНЕР

Ужо не першы год Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў дорыць аматарам тэатра, жывапісу і кіно прыемныя імгненні сустрэч з прыгожым. Не так даўно ў акадэміі адбылася прэм'ера дыпломнага спектакля студэнтаў чацвёртага курса спецыяльнасці "Акцёрскае мастацтва драматычнага тэатра і кіно". Пастаноўку здзейсніла і аформіла студэнтка шостага курса спецыяльнасці "Рэжысура драмы" Вольга Бураўлёва. Госці і "гаспадары" акадэміі з цікавасцю назіралі за падзеямі сацыяльна-псіхалагічнай драмы "Парог" паводле п'есы Аляксея Дударава. Студэнцкае тэатральнае мастацтва — адметная з'ява, якая мае шматлікія прыхільнікаў у маладзёжным асяроддзі сталіцы.

Уладзімір СТАРАСЦЕНКА

У мінскім Доме міласэрнасці адбылася творчая сустрэча намесніка галоўнага рэдактара часопіса "Полымя", паэта Уладзіміра Мазго з людзьмі з абмежаванымі магчымасцямі, якія займаюцца літаратурнай творчасцю. Арганізавала і правяла яе Ірына Тарасік. Пачалася яна з малітвы, якую прачытаў святар, айцец Андрэй. Уладзімір Мазго расказаў прысутным пра выданні РВУ "Літаратура і Мастацтва", падрабязна спыніўся на новых публікацыях і бліжэйшых планах часопіса, прачытаў свае вершы і адказаў на шматлікія пытанні. Пры канцы сустрэчы са сваімі творамі выступілі і людзі з абмежаванымі магчымасцямі, многія з якіх маюць уласныя кнігі і публікацыі ў літаратурна-мастацкіх выданнях.

Улад КАШЫКЕВІЧ

Адбылася творчая сустрэча вучняў школы і жыхароў вёскі Махро з пісьменнікамі Анатолем Крэйдзічам і Васілём Жушмай. А.Крэйдзіч расказаў, як стваралісяя яго кнігі, над чым працуе цяпер, якія творчыя планы мае. Распавёў таксама пра ідэю стварэння аповесці "Богаў сон", галоўнай асобай якой з'яўляецца беларускі мастак з Моталя Янка Рамановіч. В.Жушма расказаў шмат незвычайных гісторый, якія адбыліся з ім падчас фотапалявання. Фотапейзажы гэтага творцы заваройваюць сваёй прыгажосцю. Яны вучаць любіць прыроду, свой родны край. Літаратурныя творы пісьменніка таксама прысвечаны тэме прыроды. Падчас сустрэчы была арганізавана выстава кніг згаданых аўтараў.

Валянціна МАНЮК

№ 12 26 сакавіка 2010 г. ЛіМ

Набалелае

# Звёны аднага ланцужка




Фота Кастуся Дробава. Калаж Віктара Калініна

### «Пачэму вы гаварыце па-беларускі?..»

Адпачываў летась у санаторыі "Лётцы". У гэтай здраўніцы лечыцца і адпачывае шмат народу з Расіі — на той час і з Санкт-Пецярбурга, і з Курска, і са Смаленска, і нават з Прыморскага краю. Але большасць — беларусы.

Неяк аказаўся сярод двух адпачываючых. Гаварылі абодва па-руску. Але па тым, як прамаўлялі яны рускія словы, было зразумела, што мае суразмоўцы — беларусы. І тут адзін з іх пытаецца ў мяне: "Пачэму вы гаварыце па-беларускі?" Прызнацца, адразу і не прыдумаў, што адказаць. А каб француз запытаўся ў француза, чаму той гаворыць па-французску?.. Гавару! Бо так гаварылі мае бацькі, аднавяскоўцы, людзі з навакольных вёсак… Я ж — беларус, нарадзіўся і рос у беларускай сям'і, на беларускай зямлі.

Зайшоў на пошту. "Калі ласка, мне стрыжань для ручкі", — папрасіў. І тут работніца (як аказалася, беларуска) з такім здзіўленнем пытаецца: "А вы что, разговариваете по-белорусски?". Цяпер са шкадаваннем падумаў пра сябе…

### Шыльды па-беларуску? Было б жаданне!

Вёска Камаі, у якой я жыву, у параўнанні з казацкімі сёламі на Доне ці Кубані, невялікае паселішча — каля 800 жыхароў. Але калі ў навакольных вёсачках усяго адна, максімум дзве вуліцы, то ў Камаях іх ці не дзесяць, і шыльды на ўсіх вуліцах — на рускай мове. Можа, у вёсцы Камаі асноўная маса насельніцтва — рускія? Ды не, іх вельмі мала, можна сказаць, адзінкі. Дарэчы, назвы вуліц у нашай сталіцы, у Мінску, напісаны на беларускай мове. А што ў Камаях? Толькі на адным доме, дзе жыве настаўніца мясцовай школы Ірына Уладзіміраўна Кісель, шыльда напісана па-беларуску: "Вуліца Гагарына". У Камайскім лясніцтве таксама ўсе шыльды зроблены на беларускай мове. Ды яшчэ шыльда на будынку Камайскай сярэдняй школы радуе вока беларускімі словамі. А больш нідзе — ні знадворку памяшкання, ні ўнутры яго, ці то гэта кантора СВК ці будынак фітнес-клуба, ці то пункт бытавога абслугоўвання, надпісаў на роднай мове няма. Нават на дзвярах бібліятэкі красуецца "Библиотека". На ўсіх магазінах шыльды толькі па-руску.

У Камаях я жыву ўжо 24-ы год. Не так даўно на нашым доме з'явілася шыльда — "Улица "40 лет Победы". Я нічога не маю супраць рускай мовы, ёй у нашай краіне нададзены статус дзяржаўнай. Але ж па Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і беларуская мова дзяржаўная. Тады, выходзіць, шыльды трэба пісаць на дзвюх мовах, прытым першаснасць пакідаць за роднай мовай. Спадзяюся ўбачыць на сваім доме надпіс — "Вуліца "40 год Перамогі".

А, зрэшты, самі назвы вуліц? У гонар каго яны? Між іншым, на паўночнай ускраіне Камаяў з'явілася новая вуліца, забудаваная катэджамі, назвалі яе ў гонар Альфрэда Ромера, выдатнага мастака, ураджэнца нашай вёскі. І зноў жа — на шыльдах назва вуліцы напісана па-руску. Хаця людзі самі заказваюць шыльды ў Паставах за свае грошы.

Перафразуючы Пушкіна, хацелася б сказаць, маючы на ўвазе свае Камаі: "Тут беларускі дух, тут Беларуссю пахне". Ды так сцвярджаць — грашыць супраць праўды.

### «Шастога дзекабра я прыехала с Мінска…»

Даю словы сказанага ў тым вымаўленні, у якім пачуў іх у гарадскім аўтобусе ў Паставах. Гаварыла сярэдніх год жанчына, прыстойнага выгляду, штосьці расказваючы сваёй спадарожніцы. Чаму яна не сказала шостага снежня? Не ведала слова снежань? А, можа, саромелася ўжываць яго, каб не падацца "дзеравеншчынай"? А тое, што жанчына сказала с Мінска (па-беларуску — з Мінска), выдала яе з галавой: яна — беларуска.

Мы, і часта не без гонару, называем сябе беларусамі. Але ж які ты беларус, калі, скажам, у Камаях, Паставах, Віцебску, Мінску — адным словам, у Беларусі, на беларускай зямлі, дзе стагоддзямі жылі твае продкі, не гаворыш так, як над тваёй калыскай гаварыла твая маці? Возьмем вось нашых чыноўнікаў. Кожны, хто займае дзяржаўную пасаду ў Беларусі, павінен, безумоўна, валодаць і рускай, і беларускай мовамі. Гаворыць наведвальнік на беларускай мове — і ты гаворыш па-беларуску, звяртаецца наведвальнік да цябе на рускай мове — і ты з ім гаворыш па-руску. Але на практыцы далёка не так.

Як часта можна назіраць абыякавасць беларусаў да свайго, роднага, нацыянальнага. Але ці можам назваць сябе беларусамі, калі не ведаем сваёй мовы, сваёй гісторыі?

### Як цябе калечаць, родная мова!..

Крыўдна і іншае. З аднаго боку, беларуская мова на сёння дастаткова ўнармаваная ў сэнсе арфаэпіі, акцэнтуацыі, словазмянення. Ды з другога боку... Чаго толькі не пачуеш з вуснаў шмат каго з тых, хто гаворыць у той ці іншай аўдыторыі на беларускай мове.

Прывяду толькі некаторыя словы і словазлучэнні: няправільныя націскі (былі, сабраліся, адзінаццаць, прынятая рашэнне, маленькія пасажыры), няправільныя канчаткі назоўнікаў у родным слове (конкурса, спорта, калектыва, параду), рускія словы замест беларускіх (астаўляйце паведамленні, накоплены вопыт, распутныя дзеянні, ноль, места), перакручаныя словы (дзевяцёра дзяцей замест дзевяцера), няправільнае чаргаванне зычных (яны прадставяць вашай увазе, па навуке, замест — яны прадставяць вашай увазе, па навуцы).

Складваецца ўражанне, што людзі не ведаюць звычайнай школьнай граматыкі дый не заўважаюць гэтых хібаў. Але ж ёсць знаўцы беларускай мовы, якім баліць, што так калечыцца беларуская мова.

Будзем няволіць сваю мову, пагарджаць ёю — нам ніколі не быць НАРОДАМ АДМЕТНЫМ. Зрэшты, народ без сваёй мовы, што самалёт без апазнавальных знакаў: адносіны да цябе ўсюды насцярожаныя.

Аркадзь НАФРАНОВІЧ
Пастаўскі раён

Прэзентацыі

## Урок патрыятызму

Важнай падзеяй у літаратурным жыцці Быхаўшчыны стала выданне кнігі нарысаў журналіста і пісьменніка, галоўнага рэдактара раённай газеты "Маяк Прыдняпроўя" Мікалая Леўчанкі "Урокі мужнасці".

Асаблівасць выдання ў тым, што на яго старонках прасочваецца лёс землякоў, ураджэнцаў Быхаўшчыны, якія падчас Вялікай Айчыннай вайны на франтах і ў партызанскіх атрадах змагаліся з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Аўтар у розныя гады запісваў іх успаміны, погляды і меркаванні на падзеі тых абпаленых вайной часоў. Шмат каго з герояў нарысаў ужо няма ў жывых. Але ўсцешвае тое, што сёння гэтыя матэрыялы сабраны ў адным выданні і даступныя шырокаму колу чытачоў.

Работнікі раённай цэнтральнай бібліятэкі горада Быхава арганізавалі прэзентацыю "Урокаў мужнасці", падчас якой Мікалай Уладзіміравіч распавёў гісторыю стварэння кнігі, падзяліўся далейшымі творчымі планамі. З першых вуснаў пра найбольш яркія моманты перадваеннага і ваеннага жыцця даведаліся старшакласнікі мясцовай сярэдняй школы № 3 ад удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны А. Данілкіна і А. Вядзерніка. Падчас прэзентацыі ладзілася выстаўка "У росквіце творчых сіл", на якой былі прадстаўлены іншыя творы Мікалая Леўчанкі.

Таццяна КАРЖОВА,
загадчыца аддзела бібліятэчнага маркетынгу Быхаўскай раённай цэнтральнай бібліятэкі

# Інтэрнет-крама: за і супраць

Традыцыйна лічыцца, што Інтэрнет не спрыяе развіццю літаратуры, а ўсеагульная даступнасць інфармацыі і празмерная колькасць тэкстаў, выкладзеных у сусветным павуцінні, зніжае іх якасць і пазбаўляе чытача цікавасці да кніг у іх звычайным выглядзе. Але нягледзячы на ўсе недахопы сеціва і яго адмоўныя ўплывы на чытацкія густы, у межах інтэрнэт-прасторы існуюць з'явы, што спрыяюць распаўсюду не толькі "сеціратуры", але і літаратуры. У ліку такіх феноменаў можна назваць Інтэрнет-кнігарню.

Паняцце "Інтэрнет-гандаль" увайшло ва ўжытак у сярэдзіне 90-х гадоў мінулага стагоддзя, калі з'явілася магчымасць ажыццяўляць таварна-грашовыя адносіны з дапамогай сродкаў сеціва. Сёння толькі ў рускамоўнай інтэрнэт-прасторы існуе каля трох мільёнаў крамаў, спецыялізаваных на гандлі кнігамі.

Кніга — прадукт унікальны па сваёй сутнасці, то бок нельга раман "Майстар і Маргарыта" замяніць аналагічным раманам таго самага ці іншага аўтара, але нават гэтая акалічнасць не перашкаджае лічыць кнігі перспектыўным таварам. Тым болей, што існуюць і інтэрнэт-кнігарні, спецыялізаваныя на продажы антыкварных і унікальных кніг. А як жа ацаніць якасць такога прадукту? — спытаецеся вы. Зусім проста: нядаўна ў такіх кнігарнях з'явілася функцыя "азнаямленне" ці "прагортванне", з дапамогай якой можна падрабязней пазнаёміцца і са зместам кнігі, і ацаніць якасць друку і ступень яе унікальнасці.

Апошнім часам у кніжным інтэрнэт-гандлі назіраецца тэндэнцыя да стварэння выдавецтвамі ўласных кнігарняў. Гэта, з аднаго боку, дапамагае размяркоўваць зоны ўплыву на патэнцыйнага пакупніка, з іншага ж боку, скарачае шлях кнігі ад выдаўца да чытача і зніжае яе кошт.

Функцыянуюць інтэрнэт-кнігарні і на Беларусі. Але гандлююць яны ў асноўным кнігамі расійскіх выдавецтваў (а калі і беларускіх, то на рускай мове). Першая ж афіцыйная Інтэрнет-кнігарня, якая спецыялізуецца на продажы беларускай літаратуры, з'явілася прыкладна паўгода таму. І нягледзячы на тое, што патэнцыйнаму пакупніку ўсё ж давядзецца прыйсці па тавар у паштовае аддзяленне або на склад кнігарні (з-за адсутнасці ў кнігарні кур'ера і недасканаласці плацёжнай сістэмы), праект гэты можна лічыць паспяховым і патэнцыйна прыбытковым. Паліцы, адведзеныя для беларускіх кніг у традыцыйных кнігарнях, звычайна не здзіўляюць ні колькасцю літаратурных навінак, ні іх разнастайнасцю. Да таго ж, у шэрагу кніг няўважліваму пакупніку часам бывае дастаткова складана адшукаць патрэбны яму асобнік, ды і прадаўцы не заўсёды дастаткова абазнаныя ў колькасці і асартыменце наяўных у кнігарні літаратурных навінак, таму ўзнікае варыянт бездапаможнасці пакупніка ў сітуацыі выбару.

Іншая справа — інтэрнэт-кнігарня. Дасканалая пошукавая сістэма заўсёды надзейна падкажа, ці ёсць патрэбная кніга ў наяўнасці на складзе, апіша памер, вагу тавару, колькасць старонак у кнізе, дасць ёй кароткую анатацыю, пакажа выяву вокладкі. А калі ствaральнік каталога кніг не паленаваўся, то ў стандартнае апісанне кнігі будзе ўключаны яе змест, а магчыма, і прадмова. Падкажа "пошукавік" і наяўнасць іншых кніг цікавага чытачу аўтара, а таксама зборнікаў, у якіх змешчаны яго творы.

Бясспрэчна, стандартнай інфармацыі пра кнігу не заўсёды дастаткова для прыняцця рашэння аб яе набыцці. У гэтым выпадку карыстальнік сайта з дапамогай спецыяльнай пісьмовай формы можа звярнуцца да адміністратара кнігарні, які абавязкова дасць адказ на ўсе дадатковыя пытанні.

Несумненна, такі спосаб набыцця кніг дастаткова зручны. З аднаго боку, ён эканоміць час, неабходны пакупніку для пошуку тавару на паліцах традыцыйных кнігарняў, дае магчымасць не хвалявацца пра наяўнасць тавару ў кнігарні. Але з іншага боку, ён пазбаўляе аматараў чытання той своеасаблівай атмасферы кніжнай крамы, таго спецыфічнага паху новых кніг, што нязменна пануе ў кнігарнях.

Інтэрнет-кнігарня — для тых, хто ведае, якая дакладна кніга ім трэба, для тых, хто не хоча марнаваць час на прагляд астатніх кніжных навінак, для тых, каму нецікава ў звычайных кнігарнях.

А тыя людзі, што любяць натхнёна і павольна праглядаць кніжныя паліцы ў пошуках патрэбнага фаліянта, каго выпадкова прачытаны радок зусім не патрэбнай яму на дадзены момант кнігі не можа натхніць на яе набыццё, хто не прымае навінак тэхнікі і не хоча змяняць звыклых завядзёнак, — будуць з задавальненнем карыстацца традыцыйнымі кнігарнямі, якія таксама маюць права на існаванне ва ўмовах тэхнагеннага грамадства.

Марына ВЕСЯЛУХА

Ізраільскі дыпламат, музычны крытык і аўтар некалькіх кніг Йосі Тавор разважае пра тое, чаму журналістыка кіруе культурай, што слухаюць таксісты ў Тэль-Авіве і чаму для таго, каб зацікавіць аўдыторыю класікай, часам можна карыстацца метадамі поп-культуры.

# Йосі Тавор: «Культура не менш папулярная, чым футбол»

Спадар Тавор нярэдка гасцюе ў Мінску. Ён любіць сустракацца са студэнтамі, журналістамі, часта запрашае на свае паэтычныя і музычныя вечарыны аматараў незвычайных мелодый і гісторый. Ён умее трымаць аўдыторыю. І калі нехта перастае яго слухаць, Йосі пачынае расказваць "старую добрую гісторыю", якую немагчыма прапусціць міма вушэй. А нашу размову пра культуру і мас-медыя ён пачынае з… футбола.

— Стэрэатыпна лічыцца, што футбол больш цікавы за культуру, больш запатрабаваны сярод чытачоў і слухачоў. Няпраўда! Проста пра футбол больш гавораць, яго больш паказваюць…

І пераходзіць на тэму сучаснай ізраільскай культуры:

— Сёння ізраільская культура — адна з самых дынамічных у свеце, паколькі адбываецца пастаянны прыток новых сіл. І гэта культура, якая сілкуецца ад іншых вельмі шмат, але адбірае толькі тое, што ёй падыходзіць. Найбольш яркімі прыкладамі з'яўляюцца опера, тэатр і харэаграфія. Яўрэі на працягу шматлікіх стагоддзяў аддавалі свае сілы і творчасць культурам розных народаў, яны імкнуліся ўпісацца ў іх і нярэдка мелі проста эпахальнае значэнне. Прыкладам можа служыць французская опера — Афенбах, Меербер, Галеві, нямецкі тэатр — Макс Рэенхард, англійскі тэатр — Пітэр Брук. Бернстайн і Гершвін — у амерыканскай музыцы, Дунаеўскі — савецкая аперэта. Лёгкая музыка ўвогуле — Фельцман, Фрэнкель і іншыя. У сімфанічнай музыцы гэта, безумоўна, Майсей Вайсберг. Літаратурныя таленты — Джозэф Хэлер, Ісак Зінглер, Барыс Пастэрнак, Генрых Гейнэ… Пералічваць можна бясконца! Цяпер у яўрэяў з'явілася унікальная магчымасць стварыць сваю ўласную культуру, і яны не прамінулі гэтым скарыстацца. Менавіта ў Ізраілі за апошняе дзесяцігоддзе ўзнікла дзіўная з'ява — ізраільская харэаграфія — ансамблі "Бат-Шэва", "Бат-Тор", ансамбль "Ідо Тадмор". Апроч таго, праслаўленым на ўвесь свет з'яўляецца Ізраільскі філарманічны аркестр і драматычны тэатр "Гешэр".

Йосі Тавор прыйшоў на ізраільскае радыё каля 40 год таму. Калі ён сказаў свайму кіраўніцтву, што збіраецца займацца культурай, яму адказалі: "Можаш нават не спрабаваць! Гэта нікому не цікава". Але ён не паверыў у гэта, бо пераканы, што на любую тэму знойдзецца аўдыторыя.

— І я быў упэўнены ў сваёй аўдыторыі. Лічыцца, што паспяховая для продажу інфармацыя — гэта крымінал, жахі, тое, што можа



паграджаць чалавеку. Размясціўшы крывава-сенсацыйнае паведамленне на першай паласе, лёгка знайсці спажыўца. Але нельга забывацца, што ёсць мы — журналісты, якія могуць змяніць гэту сітуацыю. Таму пры правільным падыходзе і тэмы культуры могуць выходзіць на першыя палосы самых буйных выданняў.

Йосі Тавор доўгі час працаваў радыёжурналістам, а таксама журналістам-аглядальнікам у друкаваных СМІ. Але ў яго ёсць і музычная адукацыя. Калісьці ён хацеў стаць прафесійным музыкантам і збіраўся паступаць у мінскую кансерваторыю, якая заўсёды лічылася вельмі прэстыжнай. Але лёс склаўся па-іншаму. І сёння ён разважае наконт узаемаадносін культуры і журналістыкі:

— Калі мы кажам пра культуру і мас-медыя, часам становіцца незразумела, хто ад каго залежыць. Таму што культура мае патрэбу ў СМІ. Калі вы не з'явіліся на экране тэлебачання — вашага канцэрта не было. Але з іншага боку, калі знікнуць канцэрты, імпрэзы, выставы, пра што будуць пісаць газеты, што будзе трансліраваць тэлебачанне? То бок гэта сімбіёз — вельмі важны і патрэбны. Але адбылася цікавая метамарфоза, калі хвост пачаў віляць сабакам — мас-медыя ўсталявалі свае правілы для культуры і пачалі сцвярджаць, што добра, а што дрэнна. І тут, на мой погляд, павінна спрацоўваць прафесійная этыка журналіста, якая падказвае, што ён не можа дыктаваць правілы, а можа толькі канстатаваць факты.

Спадар Тавор распавядае пра тое, што ў Ізраілі неаднойчы ўзнікала сітуацыя, калі з-за эканоміі былі спыненыя датацыі пэўным радыёстанцыям — тым, якія лічыліся незаўважанымі аўдыторыяй.

— І вось калі вырашалася, якія гэта будуць каналы, у першую чаргу казалі пра культурныя хвалі. Маўляў, хто іх слухае, каму яны патрэбныя? Але каб здзейсніць такое, трэба пацікавіцца ў народа, ці насамрэч гэты канал ім непатрэбны. І праведзеныя сацыялагічныя апытанні паказалі, што так, сапраўды, у гэтых каналаў аўдыторыя значна меншая за тую, якая аддае перавагу спартыўным навінам, напрыклад. Але калі паглядзелі, хто складае аўдыторыю культурных каналаў, меркаванне рэзка змянілася. Бо асноўная аўдыторыя — гэта людзі ўлады: чыноўнікі, кіраўнікі, старшыні, а таксама ўся творчая інтэлігенцыя краіны. Уплывовасць гэтых людзей, іх значнасць не даюць знікнуць культурным медыя.

Але не толькі прадстаўнікі ўлады ці інтэлігенцыя цікавяцца культурнымі падзеямі:

— Аднойчы я ехаў у таксі, дзе кіроўца слухаў радыё, якое транслюе класічную музыку. Я вельмі здзівіўся, бо звычайна такія людзі аддаюць перавагу року, поп-музыцы ці шансону. І тады я запытаў у кіроўцы: "Штосьці здарылася? Чаму вы слухаеце менавіта гэту музыку?" І ён адказаў вельмі проста і шчыра: "А яна мяне супакойвае. Ніякіх дрымца-дрымца, удараў і шумаў. Нічога не раздражняе". Мяне гэта вельмі ўразіла, бо менавіта таксісты лічацца прадстаўнікамі тыповай грамадскай думкі.

Супрацьстаянне масавай культуры і культуры элітарнай актуальна ва ўсім свеце. Йосі Тавор прывёў прыклад, якія непаразуменні ў яго былі з дачкой; яна доўгі час не цікавілася класічнай музыкай, балетам, операй. Бацьку гэта натуральна засмучала, але ён не мог нічога зрабіць, бо дэмакратычнае выхаванне, якое было ў сям'і, прадугледжвала, што кожны мае права на сваё меркаванне. Але ўсё змянілася, калі Йосі пісаў чарговую рэцэнзію на джазавы канцэрт, а яго дачка слухала ў суседнім пакоі Брайна Адамса.

— У той час распачаліся гастролі італьянскіх дзіваў оперы, якія сваімі канцэртамі збіралі стадыёны.

Трэба сказаць, што крытыкі неадназначна ўспрынялі такое рашэнне мэтраў. Ідэю не падтрымліваў і музычны аглядальнік Йосі Тавор:

— Першы час мне здавалася, што гэта глупства — прыцягваць увагу да класікі спосабамі поп-індустрыі. Але маё меркаванне змянілася ў той вечар, калі мая дачка прыйшла ўзрушаная да мяне ў пакой.

Яна паглядзела канцэрт, дзе выступаў Паварoці. І, дзіва, ёй вельмі спадабалася.

— Калі я спытаў, што здарылася, яна ўзрушана сказала: "Ён спяваў разам з Адамсам!" І вось з таго часу мая дачка цікавіцца класічнай музыкай. Так што метады поп-культуры могуць быць прыдатнымі для прыцягнення ўвагі да класічнай музыкі, тэатра, кіно, літаратуры.

На развітанне непасрэдны і бескампрамісны Йосі Тавор кажа, што любіць прыязджаць у Мінск.

— Мне падабаецца хадзіць па вашых вуліцах і бачыць, што мне ўсміхаюцца. У Маскве мне груба сказалі б: "Што вясёлага?". А ў Мінску адчуваецца добразычлівасць, нейкая прастасць, ад якой прыемна на душы.

Адар'я ГУШТЫН

На здымку: Йосі Тавор.

## З пошты «ЛіМа»

# Не быць абыякавымі!

Калі ў асяроддзі людзей сталага веку заходзіць гаворка пра сучасную моладзь, то часцей за ўсё ў яе бок чуваць папрокі ў прагматызме, перавазе матэрыяльнага над духоўным, нярэдка — у абыякавых адносінах да радзімы, роднай культуры.

Шмат гадоў працую са студэнцкай моладдзю, і таму, зразумела, не магу раўнадушна ставіцца да такіх меркаванняў. Аднак павінна пагадзіцца, што ёсць у іх пэўная доля праўды. Не можа не хваляваць, якім вырасце новае пакаленне, як будзе расстаўляць у сваім жыцці прыярытэты. І, урэшце, — што трэба рабіць, каб выхаваць іх, маладых, сапраўднымі грамадзянамі, патрыётамі сваёй зямлі. Вырашэнне гэтай задачы залежыць не толькі ад намаганняў тых, хто непасрэдна звязаны з працэсам выхавання і навучання — бацькоў, настаўнікаў, выкладчыкаў. І ўсё ж галоўнае, як мне здаецца, — не быць абыякавымі, і тады кожны на сваім месцы можа зрабіць многае, каб нам не было сорамна за нашу моладзь.

Ніхто не будзе аспрэчваць той факт, што фарміраванне маладога чалавека як асобы ў многім залежыць ад акружэння, у якім ён знаходзіцца, ад тых людзей, з якімі сустракаецца, бавіць вольны час. Думаецца, што не апошняе месца сярод разнастайных сродкаў вырашэння гэтай няпростай выхаваўчай задачы належыць сустрэчам моладзі з цікавымі людзьмі, з беларускай творчай інтэлігенцыяй, якая па-сапраўднаму любіць сваю бацькаўшчыну, захоўвае яе лепшыя культурныя традыцыі.

У гэтай сувязі мне хочацца падзяліцца з чытачамі любімай газеты ўласным досведам, расказаць пра адну з такіх сустрэч, якая, спадзяюся, застанецца ў памяці маіх выхаванцаў. Мы са студэнтамі II курса геаграфічнага факультэта БДУ наведалі майстэрню Уладзіміра Сулкоўскага. Мы рыхтаваліся да сустрэчы і ўжо ведалі, што жывапісныя палотны спадара Сулкоўскага ўпрыгожваюць многія музеі Беларусі, ён рэгулярна прымае ўдзел у шматлікіх рэспубліканскіх і замежных мастацкіх выставах. Не абыдзены Уладзімір Якаўлевіч і ўвагай мастацтвазнаўцаў і крытыкаў. Яго творчасці прысвечаны шматлікія артыкулы ў "Беларускай энцыклапедыі", "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі", "Гісторыі беларускага мастацтва". Да таго ж, многія школьныя падручнікі па беларускай мове і літаратуры ўпрыгожваюць рэпрадукцыі карцін мастака.

Уладзімір Якаўлевіч адну за адной паказваў нам свае работы, часам акцэнтуючы ўвагу на некаторых дэталях, распавядаючы пра цікавыя моманты, гістарычныя факты. Ён ахвотна адказваў на пытанні моладзі, нярэдка задаваў свае, што пэўным чынам уплывала на характар сустрэчы — нязмушаны і цёплы. Парадавалася за мастака: як удала ён умее весці дыялог з моладдзю. Ды, урэшце, гэта і не дзіўна. Уладзімір Сулкоўскі — адзін з тых мастакоў, якія паспяхова сумяшчаюць творчую і педагагічную дзейнасць. Ужо шмат гадоў ён выкладае на кафедры мастацкай і педагагічнай адукацыі БДПУ, і маладзёжная аўдыторыя для яго блізкая і зразумелая. Мы любаваліся маляўнічымі краявідамі розных куточкаў Беларусі, і ў душы нараджалася непаўторнае эмацыянальнае пачуццё: гэта наш лес, наша возера, рака, поле. Гэта — наша Беларусь!

Акрамя пейзажаў, Уладзімір Якаўлевіч пазнаёміў нас з галерэяй партрэтаў вядомых беларускіх пісьменнікаў, дзеячаў культуры: Якуба Коласа, Янкі Купалы, В. Дуніна-Марцінкевіча, С. Манюшкі, Р. Барадуліна і інш. А калі зайшла гаворка пра любімыя тэмы, мастак падзяліўся з намі сваёй працай паводле творчасці Якуба Коласа, якой ён прысвяціў серыю з 24 карцін.

Успамінаючы прасветленыя твары маіх студэнтаў, хочацца верыць, што гэта сустрэча не толькі падарыла ім прыемныя хвіліны высокай духоўнасці, якія нясе нам сапраўднае мастацтва, але і нарадзіла пачуццё гонару за родную зямлю, адчуванне сваёй далучанасці да яе лёсу, адказнасці за яе дзень — сённяшні і будучы.

Людміла ХРЫШЧАНОВІЧ

## Кніжная паліца



У выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшла кніга легендаў і паданняў "Востраў русалак". Укладанне, апрацоўка і прадмова У. КАСЬКО. У зборнік увайшлі легенды, якія захоўваліся ў архівах навуковых цэнтраў і ўстаноў, аддзелах рэдкіх кніг бібліятэк Мінска, Масквы, Санкт-Пецярбурга, Вільнюса, надрукаваныя ў фальклорных зборніках Е. Раманава, Г. Пяткевіча, П. Шэйна, на старонках беларускіх, польскіх, літоўскіх газет і часопісаў, а таксама творы, запісаныя складальнікам гэтай кнігі ў час навуковых фальклорных экспедыцый у розных кутках Беларусі.



У выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў серыі "Залатое пяро" выдадзена кніга паэзіі Віктара ГАРДЗЕЯ "Трыадзінства". Таленавіты паэт – адзін з найбольш яркіх прадстаўнікоў сучаснага сярэдняга пакалення ў беларускай паэзіі. У творчасці гэтага вядомага аўтара надзвычай цеснае спалучэнне часу, месца і дзеяння, што дыктуецца абвостраным адчуваннем чужой і сваёй бяды і самоты. У выданне ўвайшлі вершы паэта, напісаныя цягам 1961 — 2007 гадоў. Прадмова Алеся Марціновіча.



У выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў серыі "Беларуская паэзія XXI стагоддзя" пабачыла свет кніга Віктара ШНІПА "Проза і паэзія агню". Трэба адзначыць, што проза ў гэтым выданні мае лірычныя і непарыўныя сувязі з паэтычнай творчасцю вядомага аўтара. У кнізе змешчана 170 балад, прысвечаных гістарычным і літаратурным асобам нашай Айчыны — ад Еўфрасінні Полацкай да Анатоля Сыса. У раздзеле "Роднае і вечнае" змешчаны празаічныя мініяцюры філасофскага характару, а для тых, хто любіць чытаць пра каханне, — аповесць "Паэт, у якога ўсе дома".



У выдавецтве "Чатыры чвэрці" выйшла кніга вершаў Валерыя ХІХІЧА "Жураўліны клін".У зборнік увайшлі вершы розных гадоў. Аўтар з замілаваннем піша пра родную Беларусь і пра сваю малую радзіму — Мядзельшчыну. "Галоўнае, што імпануе — гэта свой погляд на рэчы і з'явы жыцця, імкненне праўдзіва, без гульні ў хованкі са сваімі пачуццямі ды сумленнем, падзяліцца з землякамі, з усімі людзьмі тым, што перажыў", — піша ў прадмове да кніжкі вядомы паэт Мікола Чарняўскі.



У выдавецтве "Кнігазбор" выйшаў том "Выбраных твораў" Рыгора КОБЕЦА. Гэта пяцьдзесят першая кніга "Беларускага кнігазбору". У яе ўвайшлі кінасцэнарыі, якія ніколі не друкаваліся, артыкулы, успаміны, лісты з ссылкі, ліставанне з роднымі, сябрамі, успаміны яго сучаснікаў. Уключаны і фотаілюстрацыі з сямейнага архіва Р. Кобеца. Укладанне, прадмова і каментарыі А. Кобец-Філімонавай.

## Палеміка

# Дзеля чаго?

"Быть любезным —
не моя специальность".
М. Салтыкоў-Шчадрын

За 10 гадоў літаратурнага крытыканства я начытаўся і наслухаўся ў свой адрас рознага. Пераважна негатыўнага. Што цалкам апраўдана і зразумела: апалагеты кампліментарна-талерантнай псеўдакрытыкі пакуль не гатовыя і не здольныя ўспрымаць непаліткарэктную метадалогію, якая грунтуецца на звышвысокай патрабавальнасці да абсалютна любога мастацкага твора.

Сёння, у час татальнай дэвальвацыі духоўных каштоўнасцей, маральных прыярытэтаў і ацэначных крытэрыяў нельга карыстацца састарэлымі і малапрадуктыўнымі сродкамі барацьбы з пасрэдна-халтурнымі, графаманскімі тэкстамі, напісанымі нават мэтрамі. Лагодна-паблажлівая крытыка павінна застацца ў мінулым, калі мы не хочамператварыць літаратуру ў фікцыю і прафанацыю. А тэндэнцыі апошняга часу сведчаць менавіта пра гэта.

Я ніколі ні перад кім не апраўдваўся і апраўдвацца не збіраюся. За творчага чалавека гавораць ягоныя творы. Калі яны адвочна слабыя, з'яўляюцца высакародныя заступнікі, якія ў гнеўна-бяздумным запале распачынаюць устрывожаную валтузню на пустым месцы. Шаноўная Лада Алейнік любіць падмяняць сур'ёзны аналіз эмацыянальна-павярхоўнымі развагамі на іншыя тэмы. Гэта, напрыклад, прасочваецца ў абмеркаванні акварэльных малюнкаў У. Сцяпана "Дзед". У артыкуле "Замест рэцэнзіі на раман-эсэ Андрэя Федарэнкі "Мяжа" ("ЛіМ", 26 лютага 2010 года) Л. Алейнік таксама не здолела, у адрозненне ад апанента, разгледзець непасрэдна мастацкі твор, а скіравала гаворку на інтрыгана С. Грышкевіча. Нягледзячы на шматгадовы вопыт, даследчыца, на жаль, так і не зразумела, што пісаць уласны матэрыял па матывах чужога недарэчна і проста сорамна.

Больш за тое, Л. Алейнік не аспрэчыла ніводную (!) маю крытычную тэзу, выказаную ў адносінах да твора А. Федарэнкі. Калі не ўмееш спрачацца, навошта выстаўляць сябе ў дзіўным амплуа ды яшчэ называць апанента дэмагогам? Падмена паняццяў стала звыклай нормай у змесце многіх артыкулаў, якія прэтэндуюць на званне крытычных.

Л. Алейнік называе мае артыкулы авантурнымі, а іх аўтара параўноўвае з легендарным персанажам майго любімага пісьменніка А. Мрыя Самсонам Самасуем. Шчыра кажучы, я так і не зразумеў, дзеля чаго гэта было зроблена. Калі аўтарка хацела прадэманстраваць свой кампаратывісцкі досвед, то лепш скіравала б увагу на больш вартых таго прадстаўнікоў айчыннага літаратурнага бамонду.

Л. Алейнік адчайна нахапала розных цытат з маіх ранніх артыкулаў і з радасцю супаставіла іх з самасуеўскім стылем паводзінаў. Замест таго, каб аспрэчваць канкрэтныя агрэхі артыкулаў апанента, аўтарка захапілася самадзейным псіхааналізам ягонай сціплай персоны. Дзеля чаго?!

У сваёй авантурнай метадалогіі я заўсёды гранічна шчыры і катэгарычны ў высновах. Зразумела, гэта многім не падабаецца. І што з таго? Падладжваюцца пад нейкія сумніўныя густы я не збіраюся. Не факт, што ў маіх апанентаў яны правільныя і бездакорныя...

Крытыкуючы шкодную вульгарызатарскую методыку і заганныя мізантропскія піяр-тэхналогіі С. Грышкевіча, Л. Алейнік, акрамя нейкага правінцыйнага графамана У. Лебедзева і А. Федарэнкі, усё ж не рызыкнула ўсумніцца ў мастацкіх ацэнках творчых набыткаў іншых ахвяр апанента. Выходзіць, метад не даспадобы, а яго вынікі па сутнасці апраўданыя? Так, у свой час я пісаў пра А. Казлова, А. Каско, В. Дэбіша, А. Крэйдзіча, З. Дудзюк, В. Быкава, Ю. Станкевіча, М. Купрэева, М. Южыка, Я. Дашыну, С. Прылуцкага, В. Гапеева, А. Паплаўскага... Чаму ж Л. Алейнік выступіла з адвакацкай абаронай толькі аднаго У. Лебедзева? Чаму не заступілася за іншых пакрыўджаных? Адказ відавочны: каб не выглядаць зусім смешнай і канчаткова не дыскрэдытаваць свае літаратуразнаўчыя амбіцыі. Куды лягчэй абвінаваціць апанента ў плагіяце, чым пагадзіцца з яго забойна-доказнымі аргументамі, зразумелымі большменш адукаваным людзям. Любая лінгвістычная экспертыза дакажа, што ў выказваннях С. Грышкевіча і Д. Бугаёва пры знешнім падабенстве розны моўны почырк.

Калі аўтарка хацела напісаць творчы партрэт С. Грышкевіча (а не карыкатуру сумніўнай якасці), для гэтага не трэба было прыкрывацца А. Федарэнкам, які так і не дачакаўся адваротнага разгляду свайго твора. Дык чыя ж у такім разе метадалогія лепшая, шаноўная Л. Алейнік? Двайныя стандарты ў запечку не схаваеш. Улічыце гэта, калі будзеце пісаць чарговы псеўдааналітычны матэрыял з непраканаўчай фактурай. Можа, варта калі-нікалі прыслухоўвацца і да апанентаў? Тады не ўзнікнуць пытанні кшталту: "Дзеля чаго ўсё гэта напісана?".

Сяргей ГРЫШКЕВІЧ

# Патаемнае

* * *

У беларускай прозе з'явіўся новы раман, прысвечаны далёкім, трагічным часам калектывізацыі беларускай вёскі.

Напісаны ён з пазіцый сённяшняга дня, нашым сучаснікам, прадстаўніком постіндустрыяльнага грамадства.

І — неардынарным, таленавітым пісьменнікам, які пачынаў сваю літаратурную дзейнасць Паэтам.

Таму існуе высокая верагоднасць, што для чытача гэты твор будзе актуальны і цікавы.

Гартаючы старонкі падчас чытання, мы сустракаемся з рэдкім, але вельмі плённым у нас раманам-легендай. Яркія прыклады — "Дзікае паляванне караля Стаха", "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" Уладзіміра Караткевіча, "Літоўскі воўк" Алеся Наварыча і іншыя.

Мастацкае пераўвасабленне народнай легенды ў твор свецкай літаратуры патрабуе ад майстра слова высілкаў скульптара. Такога скульптара, які працуе не з мармуровай глыбай, а з цвёрдым, шурпатым каркасам (легенда) і мяккай шляхетнай глінай (раманны жанр).

* * *

Перад намі гісторыя сям'і Караленяў, найперш маладога яшчэ гаспадара Ігнася, які трагічна гіне — кідаецца падчас канваіравання ў балотную твань — у канцы твора. І такім учынкам як бы замыкае сюжэт гэтай палескай легенды і свой любімы свет, які не хоча аддаваць новай, як на яго погляд, нялюдскай сіле, у абдымкі.

* * *

"Новая зямля", якую абставіны вымагаюць Ігнася "вынайсці", дакладней, сваёй працай і кемлівасцю "выбудаваць" на Воўчай выспе, надзейна схаваный хліпкай багнай ад людскіх вачэй, — прыгожая ідэя-фікс адзінокага, абмежаванага ў ежы і адзенні героя. Героя-селяніна і хрысціяніна. Дарэчы, імя жонкі Ігнася — Хрысціна.

Парадаксальна, што мова твора — з любоўю і веданнем справы падабраныя лексіка, граматыка, сінтаксіс — з'яўляецца аўтарскім гімнам прыродзе, язычніцкім вераванням і сялянскім традыцыйным рамёствам.

(Магчыма, у гэтым парадоксе, як у няпэўнай чароўнай усмешцы Моны Лізы, хаваецца разгадка незразумелай прыцягальнасці ўсяго намаляванага майстрам раманнага палатна?)

* * *

Клопат пра магчымы пераезд сюды сям'і, пасля і сваякоў, аднавяскоўцаў дапамагае Ігнасю заставацца чалавекам і выжыць на працягу многіх месяцаў. Абазнаному ў класіцы чытачу падаецца, што галоўны герой рамана "Воўчая выспа" працуе тут, на лясным "лапіку надзеі", з пачуццём Рабінзона, выкінутага на бязлюдны бераг гняўлівым морам, на гэты раз людскім.

А яго Пятніца — гэта яго уласны здзічэлы сынок-маўглі Янка. Ігнась спрабуе далучыць сваё беднае дзіцянятка зноў да чалавечай цывілізацыі.

* * *

Цьмяны будучы лёс яго маленькага сына Янкі — гэта зерне трывогі нашай. Тое, што ён адзін з двух хлопчыкаў-блізнят (другі застаўся ў жывых, там, у вёсцы разам з маці), толькі падкрэслівае міфалагічную аснову твора.

А яшчэ — прымушае ўспомніць легенду аб заснаванні Рыма, правесці некаторыя паралелі з гісторыяй нашых палескіх герояў. І ўплесці ў своеасаблівы «вянок» чытацкіх асацыяцый і пачуццяў царскія сінія валошкі пакланення перад героямі і волатамі духу.

* * *

Перад намі нібыта лес лёсу, падножжа якога пакрыта багатымі імхамі мовы. Бясконцая народная крыніца тварэння ласкальных формаў слоў: вароцы, маладзічок, ямкі, дрэўцы, азярцо, палонкі, траўка, парасяткі, яблынькі і грушкі, дробненькі дождж, рабенькая галоўка, грамадка людзей, думкі-мроі, куры-гусі, барана-раскірака і г.д.

Гэтак гавораць (а чуйныя пісьменнікі — пішуць) міжволі, калі адчуваюць любоў.

Любоў да Свету прыроды і традыцыйнай вясковай культуры. Іх час існавання заканчваецца (вось адкуль аўтарскі боль). Сапраўдным заваёўнікам нечуваных рэсурсаў усіх апетых з любоўю прастораў выступае Свет найноўшых тэхналогій цывілізацыі мегаполісаў. Вось чаму кніга пра калектывізацыю сёння вельмі актуальная.

І мы ясней разумеем колішнія цьмяныя вобразы паэта Алеся Разанава, аднойчы ранкам убачаныя здалёк: "паляванне ў райскай даліне", "заваёўнікі".

* * *

Раман часам нагадвае лісты, напісаныя ў "акопах" вайны цывілізацый.

Калі ты чытаеш іх, у тым ліку і мае "паштарскія квітанцыі", ведай: мы ўсе на адным баку.

* * *

Якое пасіўнае ты, сучаснае жыццё! Мы нібыта ў глядзельнай зале з пашпартамі-білетамі. Чакаем у нецярплівасці, ці дастаткова меладраматычнае (жахлівае, смешнае, камфортна для вуха агучанае, пераканаўча касцюміраванае і г. д.) кіно нам пакажуць...

Дарэчы, "Воўчую выспу" добра было б экранізаваць. У яе вялікі патэнцыял!

* * *

Кніга "Воўчая выспа" Кастуся Цвіркі вельмі падобная да згаданага партрэта Моны Лізы — карціны "Джаконда" Леанарда. Жанчына на ёй убраная ў строгія і ў той жа час вельмі адкрытыя, хвалюючыя карычневыя строі на фоне ўрачыстага горнага пейзажу.

І падобныя гэтыя творы не толькі злучэннем у адно мастацкае цэлае супрацьлеглых рэчаў, эфектам "двайстасці". А яшчэ і (якое містычнае супадзенне!) сваёй выдавецкай вокладкай: мяккай, карычневага колеру, са светлай авальнай плямай (пад назву) пасярэдзіне — як выраз дэкальтэ, што адкрывае мяккія, пяшчотныя грудзі. Патаемнае...

І яшчэ.

Пасля прачытання кнігі ўвесь час мяне не пакідае пытанне: "усміхнецца" яна чытачу — ці не?

Людка СІЛЬНОВА

## Віншуем

З 85-годдзем Віктара Мікітавіча Шведа, беларускага паэта, заслужанага дзеяча культуры Польшчы.

З 80-годдзем Паўла Уладзіміравіча Сцяцко, беларускага мовазнаўцу.

З 75-годдзем Уладзіміра Антонавіча Папковіча, беларускага паэта, празаіка, перакладчыка.

З 75-годдзем Аляксея Уладзіміравіча Рагулю, беларускага літаратуразнаўцу.

З 75-годдзем Аляксандра Мікалаевіча Булыку, беларускага мовазнаўцу.

З 60-годдзем Зінаіду Іосіфаўну Дудзюк, беларускую паэтэсу і драматурга.

## Юбілейны каляндар

210 гадоў Восіпу Іванавічу Сянкоўскаму, пісьменніку, мовазнаўцу, журналісту, падарожніку.

170 гадоў Францішку Бенядзікту Казіміравічу Багушэвічу, беларускаму паэту, празаіку, публіцысту, перакладчыку.

160 гадоў Войславу Савіч-Заблоцкаму (Вайніславу Казіміру Канстанцінавічу Суліму-Савіч-Заблоцкаму), паэту, празаіку, публіцысту.

145 гадоў Старому Уласу (сапр. Уладзіслаў Пятровіч Сівы-Сівіцкі), беларускаму паэту, празаіку, збіральніку беларускага фальклору.

120 гадоў Вінцуку Адважнаму (сапр. Язэп Станіслававіч Германовіч), беларускаму паэту і каталіцкаму святару.

115 гадоў Васілю Пятровічу Сташэўскаму, беларускаму празаіку, драматургу.

100 гадоў Хведару Ільяшэвічу, беларускаму паэту, празаіку, гісторыку, крытыку, грамадска-культурнаму дзеячу.

95 гадоў Васілю Іванавічу Матэвушаву, беларускаму паэту.

90 гадоў Аляксею Васільевічу Пысіну, беларускаму паэту, перакладчыку, заслужанаму работніку культуры Рэспублікі Беларусь.

90 гадоў Аркадзю Нічыпаравічу Марціновічу, беларускаму празаіку, паэту, заслужанаму работніку культуры Рэспублікі Беларусь.

80 гадоў Яраславу Сільвестравічу Пархуту, беларускаму паэту, празаіку, гумарысту, нарысісту.

…Калісьці на лекцыі па гісторыі крытыкі выкладчык не стрымаў эмоцый: заходні даследчык, аналізуючы беларускую літаратуру, пераблытаў факты і прычынна-выніковыя сувязі ў літпрацэсе, чым выклікаў у спецыялістаў натуральную рэакцыю: “Гэта кніга не пра нас”. Так яшчэ са студэнцкіх гадоў я мела пэўную запраграмаванасць да замежнага погляду на беларускую літаратуру. Натрапіўшы на манаграфію Катажыны Бартноўскай і толькі зірнуўшы на назву «Białoruski postmodernizm: Liryka „pokolenia Bum-Bam-Litu”, я замацавалася ў сваім меркаванні: постмадэрнізм у беларускай літаратуры — з'ява дыскусійная, а некалькі дзесяткаў бумбамлітаўцаў загучна называць пакаленнем.

# Суседскі погляд на «пакаленне Бум-Бам-Літа»: канфлікт літаратуразнаўчай тэорыі і паэтычнай практыкі

І хоць аўтар адразу патлумачыла назву: і постмадэрнізм у нас адмысловы, беларускі; і ўмоўны тэрмін “пакаленне Бум-Бам-Літа” ўзяты для зручнасці і ў двукоссі, у гэтую кнігу я “ўваходзіла” з пэўнай насцярогай. Прадмова Яна Козьбяла, цвелячы маю патрыятычную пільнасць, бянтэжыла адкрытай бязлітаснасцю (“Скончыўся працэс еўрапеізацыі беларускай літаратуры, распачаты на мяжы XIX і XX ст. Максімам Багдановічам. “Дэфіцыт пяці стагоддзяў у літаратуры лёгка заўважаецца” і г. д.).

Першы раздзел кнігі, у якім пакаленне “Бум-Бам-Літа” апісвалася і параўноўвалася з тоеснымі пакаленнямі ў іншых краінах, падаваўся хадой па мінным полі: адна няправільная інтэрпрэтацыя ці некарэктная ацэнка — і чаканая рэакцыя: “Гэта кніга не пра нас”. Але аўтарка не расчаравала. Больш за тое, я, як выпускніца філфака БДУ і даследчыца сумежнай навуковай тэмы ў падраздзеле пра беларускія даследаванні “пакалення Бум-Бам-Літа”, злавіла сябе на думцы, што ніхто не забыты: згаданы ключавыя тэксты, працытаваны асноўныя даследчыкі тэмы (В. Акудовіч, І. Багдановіч, С. Балахонаў, А. Бязлепкіна, П. Васючэнка, С. Дубавец, М. Жбанкоў, Д. Жукоўскі, І. Кур'ян, А. Макмілін, Л. Сінькова, І. Скарапанава, Г. Тычко, М. Тычына, А. Хадановіч і многія іншыя). Мяркуючы па сабе (а я не маю прэтэнзій да таго, як у манаграфіі працытаваны аўтарэферат маёй дысертацыі), адзначу, што К. Бартноўская карэктна спасылаецца на беларускіх даследчыкаў і пры патрэбе доказна не пагаджаецца, паралельна адзначаючы “нацыянальную спецыфіку” беларускага літаратуразнаўства: тэрміналагічную неўпарадкаванасць (часта — з прычыны залішняга даверу да тэарэтычных выкладак самых аўтараў). Зрэшты, аўтарка сама даверліва цытуе тэзіс В. Акудовіча пра тое, што ББЛ — першае згуртаванне аўтараў, сфарміраванае на падставе агульнасці эстэтычных поглядаў. Але “пакаленне Бум-Бам-Літа”, “сфармуляванае” К. Бартноўскай, выглядаючы рэпрэзентатыўнай карцінай маладой беларускай літаратуры, не тоеснае суполцы ББЛ. І відавочна, што Віктар Жыбуль і Змiцер Вішнёў з аднаго боку і, напрыклад, Рагнед Малахоўскі і Аксана Спрынчан з другога задаюць занадта разнародны матэрыял для аналізу, бо з'яўляюцца полюсамі сучаснай беларускай паэзіі.

Магчыма, з прычыны неабдымнай усеахопнасці аб'екта даследавання адна з мэт манаграфіі — упарадкаваць тэрміналогію — не дасягаецца, інакш і назва кнігі была б іншай, “упарадкаванай”. Зрэшты, ці магчыма наогул дасягненне гэтай мэты? Сітуацыя паскоранага развіцця літаратуры зрабіла сваю справу — і эстэтычная эклектыка стала нашай літаратурнай штодзённасцю.

Нашмат важнейшым і цікавейшым клопатам апынулася стварэнне партрэта лірычнага суб'екта пакалення, калі шараговыя, непрыкметныя, нават слабыя вершы раптам, пры трапным ракурсе разгляду, узбуйняюцца і становяцца неабходным фрагментам вялікай мазаікі, і тады відавочна, як лірычны герой “пакалення Бум-Бам-Літа” вагаецца ад закамплексаванасці да нарцысізму (“комплекс Бога”): ад акудовічаўскага “мяне няма” ў Вікі Трэнас, “мяне няма і я паўсюль” Віктара Жыбуля, “я не існую” Змітра Вішнёва, “я не ведаю, хто я і што” Міхася Башуры, “я не памятаю свайго імя” Змітра Пляна, “я тоненькая як твае вейкі” Вальжыны Морт, “я маленькая кропелька вады” Вольгі Гапеевай да “я — звышманументальны і больш такіх няма”, “я сяду за Пульт Кіравання Галактыкай” і “я хачу быць пупом неба” Віктара Жыбуля і “я ўжо не чалавек — сучасны міт” Андрэя Хадановіча.

Лірычны герой маладой беларускай паэзіі мае праблемы з самаўспрыманнем, адзначае К. Бартноўская. Малапрыемная аўтарэфлексія, цяжкасці з самаўспрыманнем (то літота, то гіпербала), жаданне шакіраваць рэцыпіента твора, псіхічныя праблемы і нават вар'яцтва лірычнага героя, фіксацыя ўласнай слабасці і бяссілля, жаданне ўцячы з гэтага свету, інфантыльнасць (“афрыканізацыя беларускай літаратуры”) і падкрэсленая наіўнасць,




паэтычная інтравертнасць — усё гэта ёсць вынікам спецыфічнага светаадчування “пакалення ББЛ”: там эстэтызуецца бессэнсоўнасць жыцця і бескаштоўнасць любых дзеянняў.

Натуральна, некаторыя з'явы “маскіруюцца” ў кнізе тэрміналогіяй (“новая літаратурная камунікацыя”, “іншае разуменне ролі творцы” — гэта ўсё па сутнасці фіксацыя шоўцэнтрычнасці і павярхоўнасці паэзіі гэтага пакалення). Пры гэтым аўтарка разумее сваіх паддоследных: гэтае пакаленне не вучыць сваіх чытачоў і гледачоў, яно толькі забаўляе іх. Але гэта вынік не асабістай неглыбокасці, а хутчэй — вялікай разгубленасці перад жыццём. Яны самі не ведаюць, як жыць, і таму не могуць навучыць іншых. Гэта пакаленне творцаў, якія пішуць не для чытача-беларуса, а для чытача-чалавека. К. Бартноўская заўважыла, што касмапалітычны падыход у творчасці паэтаў, малая ўвага да гістарычнай тэмы прывялі да адсутнасці цэласнага вобраза краіны, і мне чамусьці здаецца, што заўважыць гэта можна толькі пры поглядзе звонку, бо кожны беларускі чытач, маючы ўласны вобраз краіны, распаўсюджвае яго і на тэксты, дзе гэты вобраз выяўлены слаба, а таму не адчувае гэтага недахопу.

Нечаканымі падаліся развагі пра стаўленне паэтаў да палітычных і рэлігійных пытанняў. Аўтарка не проста зафіксавала з'яву, экстрапаляваную на цэлае пакаленне, яна досыць пераканаўча паспрабавала вытлумачыць прычыны з'явы: чаму менавіта такі лірычны герой, чаму менавіта такі чытач, чаму менавіта так успрымаецца свет, якое стаўленне ў паэтаў да Бога, кахання і мастацтва і чаму менавіта такое. І гэтае вытлумачэнне, лаканічнае і дакладнае, грунтуецца не толькі на мастацкіх творах, але і на беларускіх грамадска-палітычных і культурных рэаліях.

Падчас працы над дысертацыяй, якая і склала аснову манаграфіі, К. Бартноўская прапанавала паэтам, чыю творчасць аналізавала, анкеты. Але мяркую, што свядомая адмова ці выпадковая неахайнасць маладых літаратараў, якія так і не адказалі на пытанні анкеты, пайшла на карысць працы (зрэшты, а як адказаць на пытанне пра прысутнасць уласнай творчасці ў сучасным літаратурным працэсе? Адзначу, што ў аўтаркі не было “інфармацыйнага голаду”: гэтае пакаленне, у адрозненне, напрыклад, ад пакалення “Тутэйшых”, пакінула па сабе шмат слядоў у друку і Сеціве, якія патрабуюць большых намаганняў па інтэрпрэтацыі, чым адказы на анкету, але, магчыма, менш суб'ектыўныя.

Погляд збоку вельмі важны тым, што заўважаюцца моманты, якія нам самім падаюцца зразумелымі, звыклымі і натуральнымі (так, я, адпаведная па ўзросце “пакаленню Бум-Бам-Літа”, у паасобных сацыялагічных фрагментах лавіла сябе на думцы, што гэта кніга не толькі пра сучасную лірыку і літаратурны працэс, але і кніга пра мяне і маё пакаленне), але назіральнік/даследчык збоку рызыкуе не заўважыць існаснае ці няправільна ацаніць маштабы з'яў, уплываў і ролю. Кніга Катажыны Бартноўскай мае ўсе вартасці і ніводнага значнага хібу погляду звонку. Верагодна, на “прабеларускасць” даследчыцы паўплывала наяўнасць кансультантаў з беларускага боку — прафесара Міхалая Хаўстовіча і прафесара Сяргея Кавалёва, а таксама шэрага старэйшых калег з Польшчы, заангажаваных у беларускае літаратуразнаўства, падзякі якім выказваюцца аўтаркай у прадмове. Але для прафесійнага чытача важны сам тэкст. І манаграфія Катажыны Бартноўскай Białoruski postmodernizm: Liryka „pokolenia Bum-Bam-Litu” — гэта выданне, якое цяпер нельга абмінуць пры даследаванні сучаснага беларускага літаратурнага працэсу і пры выкладанні сучаснай літаратуры ў вышэйшых навучальных установах.

Такая кніга магла (і павінна была) быць створанай у Беларусі (шэраг нявыдадзеных дысертацый не лічыцца). І зразумела, чаму прадстаўнікі “пакалення Бум-Бам-Літа” ўхапіліся за магчымасць перакласці і выдаць манаграфію ў Беларусі. “Гэта кніга пра нас”. Толькі я спадзяюся, што з перакладу не знікне апошні сказ манаграфіі: “З'яўляючыся аднак толькі творамі генерацыйнымі, яны не маюць універсальнага, агульначалавечага значэння, і напэўна таму прадстаўнікі гэтага пакалення у многіх краінах Еўропы дагэтуль застаюцца ў ценю сваіх старэйшых калег”.

Аксана БЯЗЛЕПКІНА

## Калонка Міхася Южыка

# Пачуць цішыню



Служэнне муз, як вядома, мітусні не церпіць. І здаецца, што асноўная задача паэта – пісаць; дарэчы, неабавязкова за пісьмовым сталом. Можна пры гэтым і гуляць па вуліцы, парку, лесе. Але ж неадменная ўмова паэтычнай творчасці – надзвычайная засяроджанасць на сабе, на сваім унутраным свеце, зберагане, калі хочаце, гэтага далікатнага свету ад навакольнага тлуму. Мне могуць запярэчыць, што паэт павінен «глаголом жечь сердца людей», то бок запальваць сваім словам вялікія аўдыторыі, як гэта рабілі біблейскія прарокі, якія таксама былі паэтамі. Што ж, з гэтым можна пагадзіцца пры ўмове, што шматлікія паэтычныя выступленні і паходы «на людзі» не замінаюць паэту займацца ўласна творчасцю. А то некаторыя нашы вершаскладальнікі, захопленыя ўвагай слухачоў іхняй творчасці, падсядаюць на гэтую ўвагу як на наркотык.

Зрэшты, я зусім не пра тое. А пра новы паэтычны зборнік Таццяны Лебедзевай «Молчание» («Кнігазбор», 2010 г.), чалавека, на мой погляд, нешараговага лёсу і таленту. Лебедзева зрэдку друкуе свае вершы ў часопісах «Нёман» і «Новая Немига литературная», на пачатку тысячагоддзя выдала дзве невялікія кнігі паэзіі. Каля ста вершаў, што ўвайшлі ў зборнік «Молчание», напісаны цягам апошніх васьмі гадоў. Піша Таццяна не часта, па дзесяць–пятнаццаць вершаў у год, доўга і пакутліва выношваючы іх у сваёй датклівай душы. Паэтычны свет Лебедзевай своеасаблівы, чытаючы яе кнігі, можна падумаць, што аўтар перабывае ў нейкай прастрацыі, татальнай адарванасці ад вонкавага свету, з яго часавым і культурным каларытам, з палітыкай, агульнанацыянальнымі ды іншымі ідэямі – усім тым, чым жыве большасць людзей. Аднак, чытаючы яе вершы і праз сто, і праз трыста гадоў, упэўнены, уяўны чалавек будучыні падумае, што яны і пра яго сучаснасць. Менавіта з-за адсутнасці прывязкі паэзіі Лебедзевай да часу і наваколля. Бо гаворка ў іх вядзецца выключна пра жыццё душы чалавека, і пра духоўнасць у яе вышэйшым, не апошленым маралізаваннем і павучаннямі разуменні. Душы людзей, па вялікім рахунку, адвеку жывуць аднымі і тымі ж парываннямі, праблемамі ды турботамі.

Адметна і тое, што паэзія Лебедзевай, скажам так, не традыцыйна жаночая. Некаторыя вершы нават наўпрост пішуцца ад мужчынскай асобы. І міжволі паўстае пытанне, ці ёсць пол у душы? Любоўная лірыка Лебедзевай (якая не частая госця ў яе вершах) гранічна цнатлівая, за ёй, так бы мовіць, не бачыцца натуральнага плоцевага пожаду. Добра гэта ці дрэнна – не бяруся адназначна судзіць. Але скажу, што абслугоўванне паэзіяй інстынкту роду, што назіраецца ў так званай традыцыйнай жаночай паэзіі, асабіста мяне раздражняе.

Некалькі слоў пра прыроду таленту. Сама па сабе паэтычная адоранасць рэдка становіцца гарантыяй таго, што на ёй узрасце выбітны паэт. І наўрад ці тут дапаможа ўпартая праца па ўдасканальванні паэтычнай тэхнікі. Вывучыць разнастайныя паэтычныя канструкцыі і напрактыкавацца ў рыфмаванні – справа няхітрая. Гэта толькі вонкавая абалонка паэзіі. Значна важней – як, наколькі арыгінальна, а галоўнае, глыбока і тонка паэт адчувае жыццё ў яго самым шырокім разуменні. Талент павінен пакласціся на лёс. Трэба многае вытрываць і перапакутаваць, многае пераасэнсаваць, перажыць, як гэта ні страшна, боль, страты і роспач, каб талент расквітнеў і заззяў. Паэтаў гладкіх як яйка, і шчаслівых як немаўляты папросту не бывае ў прыродзе. Калі гэта, зразумела, паэты, а не версіфікатары.

Таццяна Лебедзева пачала пісаць позна, бліжэй да саракагадовага ўзросту, калі ўжо душы немагчыма было маўчаць, і калі, заўважым, душы было што выказаць. Таму яна абышлася без наіўнага пачатковаўства і пустапарожняй летуценнасці, а практычна адразу ўвайшла ў паэзію з дастаткова сфарміраваным, па-філасофску насычаным унутраным светам. У разгар свайго паэтычнага станаўлення, гадоў пяць–шэсць таму, літаральна з паўтара года яна пахавала траіх самых родных людзей: бацьку, маці і мужа. Хто вынесе такое, не падламаўшыся? Таццяна выстаяла, працягвала тварыць, напружана жыць паэтычным словам у апусцелай кватэры. Пра гэта кніга «Молчание». Бо нават у цішыні чуюцца, а можа, нават найболей выразна чуюцца гукі Паэзіі.

Я наўмысна не стаў вышморгваць са зборніка цытаты, вершы Лебедзевай не церпяць купюраў. Таму прывяду толькі адзін верш, але цалкам. Зацікаўленыя ж, спадзяюся, прачытаюць увесь зборнік.

Не вспоминать. Пережить, перемочь
День одиночества, вечер и ночь.
Не вспоминать. Научиться не ждать
Слова родного: «Ты жди меня в пять»
Крикнуть от боли, но в доме пустом
эхо напомнит: «Вы были вдвоем».
Как же мне память свою растоптать.
Молча ничком упаду на кровать.
Не вспоминать. Пережить, перемочь
День одиночества, вечер и ночь.



**Расціслаў БЕНЗЯРУК**

## Агледзіны

Не ведаю, скуль пачынаць
Жыцця свайго агледзіны —
З дзяцінства, як ішла вайна,
А можа быць, з сярэдзіны,

Калі падрос, на ногі ўстаў,
Калі дабіўся нечага,
Была як пройдзена вярста
З тых многіх, што намечана.

Вучыўся выжываць і жыць
Каля кавадла з молатам,
Каб словам праўды даражыць,
Пазнаць: маўчанне — золата!

Няспешна крочыў па зямлі
Няпростай сцежкай, звілістай.
Дзесь мары мохам параслі,
А дзе — закаласіліся.

Штодня здаваў жыццю залік…
А колькі мне адведзена?
Ці выпадзе яшчэ калі
Рабіць жыцця агледзіны?..

## Паводка на Палессі

Мы дачакаліся вясны,
А з ёй — шумлівае паводкі.
Зноў пераселі людзі ў лодкі
У поймах Прыпяці і Цны.

Брыдзе жанчына па вадзе
У ботах тых, што сын рыбачыць.
У снах у мокрай хаце бачыць,
Што раніцай вада спадзе,

Як сонца ветла паглядзіць,
Прыносячы старой Надзеі
На шчасліўейшы дзень надзею:
— Пара ўжо градачкі садзіць!..

## Слова

Памяці Уладзіміра Калесніка

Было гадзіны дзве ці тры,
Калі ў дрымоце соннай мроіў,
Сказаў мне голас унутры:
"Што ж, выбірай для бітвы зброю,
Калі змагаешся са злом,
Каб выкідаць яго на злом!"

Акрыўся б рыцарскім плашчом,
Калі б валодаў адмыслова
Я шпагай, шабляй ці мячом.
"А ты вазьмі за зброю слова! –
Мне той жа голас напрарочыў. –
Шчэ людзі спяць, адкрый ім вочы!"

Узяў я слова і панёс
Народу, каб не ўмёрла праўда.
Нялёгкі мне дастаўся лёс,
Ды адступаць не маю права.
Гартую слова, быццам сталь,
А зло смяецца, правіць баль.

## Да назвы вёскі Хмелева

Івану Арабейку

У карчме Марціна Цеслі
Дым густы з сінечаю,
Не знайсці пустога месца:
П'юць, гуляюць з вечара.

Хоць няма ў жывых Марціна,
Але справы гожыя:
Удава-карчмарка чынна
Між сталоў паходжвае.

— Што за стан, якія рукі!
Так да ласкі й просяцца…
Абдымі — і здымеш мукі,
Прыгажуня Зосечка!

А другі:
— Чаму ж, ты, Зося,
Гэтак заірдзелася?
Зося ў такт:
— Каб лепш пілося
Ды яшчэ й хацелася!..

Трэці:
— Эх вярнуць бы лета,
Як была ты дзеўкаю!
— Не хваліся. Я на гэта
Адкажу прыпеўкаю:

Коля коле
Паша паліць,
Я ля грубкі грэлася.
Аніколі
Не кахалі
Гэтак, як хацелася б!..

Праспявала — і кашмары
Ўадначас узвіліся:
За прывабную карчмарку
Дзецюкі пабіліся.

Грэх пасля ў душы насілі,
Колькі Богам велена…
Звеку ў вёсцы хмель любілі
І назвалі Хмелева.

## Летні спакой

Вецер аціх. Задумена стаяць
Елкі, асіны, бярозкі.
Моўчкі ў ваду,
бы ў люстэрка, глядзяць
І папраўляюць прычоскі.

Недзе ў зацішку спіць гром малады,
Каб не парушыць спакою.
Хмаркі зачэрпнуць крынічнай вады
І ўсё жывое напояць.

---



**Ігар КАНАНОВІЧ**

## Крывавая траекторыі

Аціхне легкаважны смех,
Астылы, зразумееш чыста:
Юнацтва – несвядомы грэх,
Далей – наўмыснае злачынства…

## Калыма

(праглядаючы архівы 90-х гадоў XX ст.)

Пакаленне бацькоў…
Тупіковасць савецкай эпохі
Пакрышыла ідэі і мары звяла на зямлю:
Адпрацуй, пагуляй…
Але варта задумацца трохі,
Параўнаць – атрымаеш выснову:
"Не тое раблю".

…Я не тое раблю.
І не страціла вытрымка сілы
Ад маральных атак
пакалення чырвоных сцягоў.
Да лапатак прыладзіўшы дужыя,
дзёрзкія крылы,
Падымаюся ў ноч –
да разгулу вышынных вятроў.

Чалавечая зайздрасць пільнуе
радарамі волю,
І зенітчыкі подласці
пусцяць імклівы зарад:
Мой узровень – нясціплы.
Ім гэта даводзілі ў школе –
Тупіковай савецкай!
Вучылі ваўкі зайчанят…

Пакаленне бацькоў:
двое з трох – ні сяло і ні горад.
Заблукаўшыя лёсы.
Пустэльня. Прарока няма.
І ў кілішках — нянавісць,
таму што не спраўджаны голад
Чалавечай душы.
Бо навокал яе – Калыма…

## Кроплі міру

(пасля праслухоўвання
пропаведзі а. Кірыла)

Адраджаюцца клеткі згарэлай душы…
Гэты першасвятар – надзвычайны.
Прамаўляе, і верыш: дарэмна грашыў.
Праваслаўя чароўныя тайны.

Адкрываюцца – мне!
Крушня падае з плеч.
Калі прыйдзе Апостал Усходу
І сюды, я аддам акрываўлены меч
У абмен на Малітву і Згоду.

Чымсьці добрым,
нарэшце, частуе экран –
Праваднік прапаганды, распусты.
Новы першасвятар выкрывае падман
З пачуццём, разуменнем і густам.

Беларусь:
тут дзве праўды кіруюць людзьмі.
Меч вібрує – пачуў "іншаверца"…
Але з фільтраў свядомасці крапае… мір
На маё закарэлае сэрца…

## Пяхота

Нехта, і подлы, і хіжы, клятву
паўторыць тваю:
"Біцца за праўду і выжыць,
нібы салдат у баю!"
П. Панчанка

То "чорны дзень" агортвае спякотай,
То адзінота выстудзіць душу…
Грамадства беларускага пяхота!
Я рады, што ў табе яшчэ служу!

Нямала сярод нас фігураў шэрых,
Нямала за спіной тылавікоў…
І ўсе-ткі –
нам трымаць гвардзейскі шраг,
Нам за Айчыну –
першым – траціць кроў!

Пагляду штых,
граната важкай фразы,
Імгненнае рашэнне ў галаве…
Жыццё аддам —
па частках ці адразу:
Няхай краіна родная жыве!

## Смерць на першай праталіне

Б.К.

Стрэліла.
Бясклапотна, наўскід…
Трапіла ў апошняе
сэрца…
Так – жорсткі, я
паміраю – мякчэю…

Сутарга шчасця
працінае знутры.
Курчуся на
першай праталіне,

а насупраць вачэй
з зямлі выпаўзае
трава зычліва –
Насмешлівым шэптам:
"Кахххаешш!.."

Батарэя ледзяшоў
Даважвае кроплямі:
"зноў… зноў… зноў-зноў…"

## Жончыны словы

(фота з сямейнага архіва)

– Мае шчасце
прыслала… вайна!-
весела зазначае
прабабка Гэля
з пажоўклага
фотаздымка…

– Ну, канешне,
бязногае,дзеткі! –
Каб не сышло
ад мяне
нікуды!
Каб усё жыццё
Грэла!

А прадзед Саўка –
інвалід Сусветнай бойні, –
пыхкаючы махрой
у расчыненым акне,
усміхаецца –
шчыраму лету,
жончыным словам…

## Секундант

(абазнаным у простых
правілах двубою)

Гром. І стогн.
Схапіўся ворог за плячо.
Я спыняюся, чакаючы адплаты.
Трапіў. Ды не напавал.
І стаў ключом
Да гісторыі –
калі невінаватых

Выпраўляе да дзядоў паганы час
Бо не моляцца на ідалаў эпохі…
Што ж, давай…
Ты меркаваў пачуць: "Я пас…"
(Нечаканым і свінцовым быў адказ.)
Ну, шаноўны, –
засталося яшчэ трохі…

Уздымай свой ненажэрны пісталет!..
Ад рукі вяльможнай
подласці "гаранта"
Колькі душаў маладых змянілі свет?!
Не забыўся? Не?
А помніш секунданта? –

…Перамогшы боль
і блізкай смерці жах,
Усміхаючыся ціха, пранікнёна,
На маіх, крывёй абпырсканых руках
Патухаў выдатны лірнік Апалона.

Я вярнуўся –
падарыў нагоду Бог –
Даказаць, што Гонар
Мужнасць не зрэдзіся.
Я вярнуўся і зрабіў усё, што мог.
Ну! Страляй! –
Паміж вачэй, якіх баішся!



Фота Аляксандра Вашчанкі

# Жыццёвае



26 сакавіка, акурат сёння, вядомаму беларускаму паэту Віктару Анатольевічу Шніпу спаўняецца 50 гадоў. Спадзяёмся, што гэты паэт яшчэ доўга застанецца маладым, — для нашай крытыкі і літаратуразнаўства. Калі акрэсліць яго сённяшні статус, то можна з упэўненасцю гаварыць пра "моднасць" і "заўважнасць" Віктара Шніпа. Ён шмат выступае перад аўдыторыяй, прычым самай рознай. Па творчасці Віктара Шніпа пішуцца курсавыя і дыпломныя работы, абараняюцца дысертацыі. А гэта азначае, што яго слова сёння надзвычай патрэбнае нашаму грамадству.

Нядаўна паэт звярнуўся і да прозы. Мяркуем, што выдрукаваныя ніжэй аўтабіяграфічныя замалёўкі дапамогуць пададзь рысы характару юбіляра ў новым святле, а для некага і адкрыць у паэце нешта зусім нечаканае.

Лімаўцы далучаюцца да віншаванняў у адрас Віктара Шніпа і зычаць юбіляру творчага плёну, здароўя і бадзёрасці духу.

Рэдакцыя штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва"

## Мініяцюры

### Мароз і пошта

1974. Зіма. На вуліцы добры марозік. Час ад часу, паглядаючы ў размаляванае марозам у воблакі акно, чакаю паштальёнку. А яе ўсё няма. Можа, прагляздзеў? Не абуваючыся, басанож выбягаю на вуліцу да брамкі ў двор, дзе на слупку вісіць паштовая скрынка. Газет няма. Бягу назад. І так некалькі разоў, пакуль не дачакаюся пошты. Цяпер, успамінаючы сваю беганіну па снезе па газеты, адчуваю нагамі той холад, якога тады, здаецца, і не адчуваў. А можа, я так хутка бег, што той мароз мяне дагнаў толькі цяпер?

### Кніга

1972. Кнігарні ў маіх Пугачах няма і ніколі не было. У магазіне, акрамя хлеба, кансерваў і гарэлкі, заўсёды можна было купіць яшчэ сёе-тое, але толькі не кнігу. А мне так хацелася купіць кнігу! І хаджу я ў наш магазін амаль кожны дзень. І ўглядаўся на паліцы за шырокім прылаўкам, і пытаўся ў прадаўшчыцы, ці ёсць казкі. Цётка здзіўлена глядзела на мяне і аднойчы сказала: "Каску можна купіць у Ракаве, дзе матацыклы прадаюцца..." Я не зразумеў прадаўшчыцу, як і яна не разумела мяне. І ўсё ж у класе сёмым я ўсё-ткі ўгледзеў на адной з паліц сярод пляшак "чарніла" кнігу. Невялікую, крыху пажаўцелую і памятую, з канкрэтнай назвай – "Кніга". Некалькі дзён я хадзіў каля зернясклада і шукаў пустыя пляшкі, здаваў іх у магазіне і, калі назбіраў паўтара рублі, звярнуўся да прадаўшчыцы з просьбай: "Дайце мне кнігу..." Цётка не адразу зразумела, што я прашу, і перапыталася: "Што ты хочаш?.." "Кнігу..." – паўтарыў я і паказаў, дзе яна стаіць. Прадаўшчыца, паглядзеўшы на "Кнігу", пачырванела, зняла з прылаўка і нейкую хвілю патрымаўшы яе ў руцэ, закрычала: "А што ж я табе гэта, паразіт ты гэтакі, зрабіла?! Во ўжо вывучыўся! Кнігу яму давай!" Доўга не думаючы, я выскачыў з магазіна і з плачам пабег дахаты. Вечарам вярнулася мама з працы і адразу да мяне з пытаннем: "Ты гэта што там у магазіне ўтварыў?" "Нічога. Я толькі хацеў купіць кнігу..." "Якую кнігу?" "Тую, што на паліцы стаіць..." "Дык гэта ж "Кніга скаргаў..."

### Агонь

1965. Зімовымі вечарамі ў бабулі Ганны збіраліся суседкі. І пакуль хапала газы ў лямпе, пралі воўну і спявалі. Я, залезшы на печ, глядзеў, як круцяцца калаўроты і як час ад часу ў лямпе жанчыны папраўляюць кнот, каб добра гарэў агонь. Пад не вельмі вясёлыя песні і пошум калаўротаў я засынаў. І цёпла мне было на печы, у якой жыў агонь, якому ўсе пакланяліся ў хаце. І сёння, успамінаючы той далёкі час, я, нібы матыль, што ляціць да агню лямпы, лячу душою ў дзяцінства і апальваюся аб тое, чаго ўжо няма і больш ніколі не будзе.

70-я. Нядзеля. У школу ісці не трэба. Бацькоў няма дома. І я, дастаўшы з шафы ўсё лякарства і адэкалон, займаюся хіміяй. Мае малодшыя брат з сястрой, паразінаўшыся, толькі і глядзяць, што будзе далей. А далей я ўзяў прадзеныя ніткі, намачыў іх у сваёй "хіміі", і падвесіўшы іх да бэлькі, падпаліў. Ніткі гарэлі добра і дымна. Брат з сястрой аж пішчэлі ад новых уражанняў. Але зайшла суседка і я ўцёк з хаты ў лес. Сядзеў там да цямна... Назаўтра мама прывяла мясцовага міліцыянта, які мяне доўга палохаў турмой. Здаецца, напалохаў, але праз нейкі тыдзень я расклаў агонь каля сцяны хаты. Ізноў мне дасталося ад бацькоў, ізноў прыходзіў міліцыянт і раіў мяне весці да знахара: "У яго нейкая мана да агню! Баюся, што ён нам усю вёску спаліць..."

### Сала

1964. Зіма. Лягезы. Дзядзькі Віця і Ваня па заснежаным двары бегаюць за кабаном. Я не разумею, што гэта яны сабраліся рабіць з ім, і таму з цікаўнасцю назіраю за імі праз вакно. І раптам бачу, як мае дзядзькі валяць кабана на снег і ён, упаўшы, пачынае вішчэць. Я затыкаю халоднымі пальчыкамі вушы, але віск, пранікшы ў маю галаву, не знікае. Ён расце, як лядзяш, што ў час адлігі звісае са страхі перад вакном майго пакоя. Ад жаху я зажмурваю вочы і ўцякаю ад вакна ў другі пакой да бабулі Ганны. І чую: "Не бойся, унучак..." Але і па сённяшні дзень, калі прыязджаю дамоў у вёску дапамагаць калоць кабана, на двор выходжу толькі тады, калі трэба ўжо яго смаліць.

### Снягурачка

1972. Гэта было даўно, калі ў нас яшчэ не было тэлевізара. У суседкі быў — невялікі, чорна-белы і ўсяго з адной тэлепраграмай. А мне, малому, так хацелася паглядзець мульцікі! Праўда, зрэдку выпадалі шчаслівыя дні, калі суседка пускала дзяцей у хату на кіно. І мы ўжо сядзелі каля тэлевізара, нібы каля вогнішча, у якім пяклася бульба, і чакалі. Кожны чакаў нечага свайго. А мяне клікала мама дахаты, каб ішоў дапамагчы агледзецца. Часцей за ўсё выпадала напаіць карову і даць ёй сена. Я рабіў гэта з ахвотай, бо пасля зноў мог збегчы да суседкі. І ўсё ж тэлевізара мне не хапала, і ён мне часта сніўся, як далёкія цёплыя краіны, якія, часам, даводзілася бачыць па тым жа тэлевізары. І вось у адзін зімовы дзень суседка некуды з'ехала і пакінула маёй маме ключы ад хаты. Мама, зрабіўшы ўсё ў суседкі па гаспадарцы, павесіла ключ на цвічок. А я гэтага толькі і чакаў. Мама з хаты, а я за ключ і хутчэй да суседкі. Уключыў тэлевізар і гляджу. Якраз паказвалі казку пра Снягурачку. Снягурачка прыгожая-прыгожая, аж, калі яна ў канцы фільма прапала, я заплакаў. І вырашыў, доўга не думаючы, ісці ў лес і шукаць Снягурачку, каб прызнацца ёй у каханні. Напачатку хацеў знесці з хаты вазон, каб у знак свайго кахання падарыць Снягурачцы, але перадумаў, бо мама заўважыць прапажу. Ідучы ў лес, склаў верш для Снягурачкі. Доўга лазіў па гурбах, клікаў прыгажуню, але яна так і не паказалася. "Відаць, баіцца", – вырашыў я і сказаў Снягурачцы, што калі я ёй спадабаўся, то няхай яна забярэ мой верш сабе на памяць, а я заўтра прыйду за адказам. І, напісаўшы верш на снезе, пайшоў дамоў. Спаў дрэнна, чакаў раніцы і, як толькі развіднела, пабег у лес. Верша на снезе не было. І я яшчэ больш паверыў у Снягурачку і нават зусім не падумаў, што ночу была мяцеліца, і яна замяла і мой верш, і мае сляды.

### Малако

x x x

малако гэта святло
якое было ў росных травах
а цяпер яно ў збане
на стале як поўня на небе
малако белае
як пялёсткі рамонкаў
і я люблю піць малако
як вяртацца ў дзяцінства
дзе ў небе Млечны Шлях
як анёламі пралітае малако
якое яны неслі сваім дзеткам

1967. Квітнее сад. З калодзежа, што на загумені, дастаю бляшанку з малаком. Назад у калодзеж гучна падаюць кроплі вады, нібыта ідзе першы вясновы дождж. Бляшанка цяжкая і халодная, як шэры кавалак лёду, які застаўся ад зімы...

1972. Раніца. З бацькам пасу радоўку. Хочацца спаць. І я, прытуліўшыся да купіны, драмлю і слухаю, як каровы скубуць траву. Навокал духмяны цёплы туман, як малако…

1972. Прачынаюся ад голасу мамы: "Віця, сынок, я праспала. Ужо амаль пяць. Уставай... Дапаможаш даіць кароў..." Я хуценька апранаюся і іду за мамай праз восеньскую халадэчу да святла, якое ільецца з сумнага ліхтара, што над дзвярыма кароўніка. Вяртаемся дамоў яшчэ зацемна. Мама задаволеная тым, што я дапамог ёй, а я – тым, што ўволю напіўся сырадою...

1990. Прывёз з горада маме некалькі пакетаў малака. "А навошта ты навёз гэтай хіміі!" – кажа мама, гледзячы на мае гасцінцы. "Другі раз не павязу!" – злуюся і хаваю пакеты ў халадзільнік. А мама, пагладзеўшы праз вакно на вуліцу, дзе з ночы ідзе красавіцкі дождж, ужо весялей: "Скора наша кароўка ацеліцца. Будзе смятанка, масла. Дзецям завязеш…"

1975. Кожны ранак па Пугачах ездзіць воз з бідонамі – цётка Манька збірае ў калхоз малако. Мы здаём шэсць літраў. Часам меней, часам і больш. Малака для сям'і пакідаецца нямнога, але яго хапае. Некаторыя вяскоўцы здаюць разбаўленае вадой малако. Усе пра іх ведаюць, гавораць, але ніхто на іх не скардзіцца начальству…

1997. Захварэў сын Максімка. Баліць горла. Трэба піць паранае малако, а ён не хоча. І я, паклікаўшы сына на кухню, сачыняю-прыдумляю яму новае лякарства: "Глядзі, Максімка, вось у кубку паранае малако. Я ў яго сыплю крышку соды, лыжачку мёду і лыжачку масла і ў нас атрымоўваецца "Сонейка", якое лечыць горла. Максімка, уважліва паслухаўшы мяне, бярэ кубак і п'е лекі. І, відаць, яму яны спадабаліся, бо ўжо праз пару дзён, калі Максімка паправіўся, ён ужо сам проста прасіў: "Тата, зрабі мне з Веранікай "Сонейка"!

1995. Карова на цяленні. І мама ўжо тыдзень кожную ноч па некалькі разоў устае і ходзіць у хлеў. І сёння хадзіла. "Павінна ацяліцца. Ужо тэрмін прайшоў. Пераносіць на трэці дзень. Відаць, бычочка прывядзе..." – кажа мама. Я слухаю і няспешна збіраюся ў Мінск. А тут бацька зайшоў у хату: "Ніна, ідзі! Карова целіцца!". Мама тут жа ўсхопліваецца з канапы і кліча мяне дапамагчы: "Хутчэй у паветцы бяры вяроўкі!". Забегшы ў паветку і схапіўшы богведама якія вяроўкі, бягу за мамай у хлеў. "Прывязвай цяляці за ногі!" – камандуе што рабіць мама. Я спяшаюся, але рукі трасуцца і вяроўка падае на гной. Падымаю, зноў губляю. Мама злуецца і адбірае ў мяне вяроўку і сама прывязвае за ногі цяляці. Карова паслухмяна стаіць, час ад часу азіраецца на нас і махае хвастом. "Цягні!" – крычыць мама. Я цягну з усяе сілы, але нічога ў мяне не атрымоўваецца. "А дзе той бацька схаваўся! Толя, ідзі памагай!" – гукае бацьку мама. Мокрая вяроўка выслізгае з маіх рук. Гляджу на далоні. Яны ў гнаі і ў крыві. "Стой, кароўка. Стой, мая харошая. А ты цягні!" – паўтарае мама. І я, як дзед, што цягнуў рэпку, недзе хвілін пятнаццаць мучыўся і мучу карову, цягнучы з яе за ногі цялё. А бацька час ад часу падыходзіў да хлева і пытаўся: "Ну што там у вас? Ацялілася ці не?"

1974. У суседкі карова не доіцца, і яна кожную раніцу прыходзіць да нас за літрам малака. Мама з цёткай на кухні падоўгу гавораць, і я ў другім пакоі, затаіўшы дыханне, слухаю іх размову. "У яго яшчэ малако на губах не абсохла, а ён ужо за дзеўкамі лётае…"– кажа суседка. Я на нейкі момант палохаюся, але, пачуўшы, што размова ідзе пра Сашку Балотніка, супакойваюся і міжволі праводжу даланёй па губах, нібы выціраю малако…

2005. "Ніна, ты ўсё яшчэ трымаеш карову! А я збыла. Дзеці казу купілі, і мне са старым малака хапае. Загадай свайму хлапцу, хай і табе купіць…" – кажа цётка, сустрэўшыся на вуліцы. "Яшчэ чаго не хапала! Пакуль можам, будзем карову трымаць. А казінага малака я век не піла і не буду!" – адказвае мама і звяртаецца да мяне: "Ты гані карову дахаты, а я схаджу да Зосі пагляджу, што там за каза ў яе". Прыгнаўшы карову дамоў, я запытаўся ў бацькі: "А чаму б нам казу не купіць? Ад яе малако вельмі карыснае…" Бацька нічога не адказаў, а толькі засмяяўся…

1972. Амаль сярэдзіна лета. Гарачыня. З лёдасховішча, што каля піларамы, дапамагаю бацьку вазіць лёд на кароўнік, каб у бітонах не псавалася малако пакуль яго не забяруць у Валожын на перапрацоўку. Едучы да кароўніка, усю дарогу з белых глыб лёду цурчыць вада, а над возам клубіцца пара. І, каб не было мне сумна, я ўяўляю сябе і бацьку на вяршыні гары, пакрытай лёдам...

1976. Мінскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум. На вялікім перапынку з сябрамі аднакурснікамі бяжым у гастраном, што праз вуліцу, купіць паесці. Выбар прадуктаў невялікі, але мы і не выбіраем – кожны раз бяром трохкутны пакет малака і булачку. І гэта ўвесь наш абед...

2008. Малочныя рэкі і кісельныя берагі... Дзе яны? У якіх краях? Калі быў малым хлапчуком, я ведаў адказ на гэтыя пытанні, а цяпер мне больш хваляюць звычайныя рэкі і іх берагі, на якіх усё радзей можна знайсці месца, каб застаца аднаму і ні пра што не думаць...

# Зверым пачуцці?

**Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа паставіў п'есу Аляксандра Астроўскага «На ўсякага мудраца даволі дурасці».**





Прэм'еру спектакля коласаўцаў “Мудрацы…” паводле знакамітай камедыі я ўспрыняў як сцэнічнае ўвасабленне твора высакаяснай нацыянальнай драматургіі. І ніякага парадоксу ў такім вызначэнні няма. Пастаноўшчык і сцэнограф спектакля — мастацкі кіраўнік тэатра Рыд Таліпаў звярнуўся да п'есы рускага класіка ў перакладзе майстра беларускай нацыянальнай драматургіі Кандрата Крапівы, які сцвярджаў, што “свой тэатральны досвед” ён “набыў менавіта падчас працы над перакладамі”. Новы сцэнічны твор — этапная праца для коласаўцаў — арганічна ўвабраў у сябе мудрасць двух братэрскіх народаў, вярнуў на сцэну мову вялікага беларускага байкапісца, паспрыяўшы вяртанню да тэатральных традыцый. Тэатральная лексіка А. Астроўскага надзвычай ёмістая і шматзначная. А сакавітасць і трапнасць мовы персанажаў дапоўнена жывым нацыянальным каларытам перакладу К. Крапівы. Дарэчы, у 1930-я гады актуальнасць п'есы гэтак уразіла К. Крапіву, што ён выкарыстаў класічны драматургічны прыём А. Астроўскага для стварэння шэдэўра беларускай сатырычнай камедыі “Хто смяецца апошнім”. І Р. Таліпаў, прытрымліваючыся традыцыі нацыянальнай сатырычнай камедыі, паглыбляе і пашырае дыяпазон асэнсавання рэчаіснасці. Тэатр мастацкімі сродкамі з выключным пачуццём меры і надзвычай тактоўна даследуе прычыны цяперашняй сітуацыі ў нашым жыцці, ні на хвіліну не выпускаючы з поля зроку грамадзянскую пазіцыю асобы ў дзяржаве. Рэжысёра цікавіць, што перашкаджае чалавеку заняць годнае месца ў грамадстве. І публіцыстычны пафас відовішча вынікае з глыбока прадуманага, псіхалагічнага разбору характараў дзейных асоб. Агульная танальнасць спектакля атрымалася лёгкай, вясёлай, без дыдактыкі і павучальнасці, што дае магчымасць нават неспрактыкаванаму гледачу ўважліва сачыць за сцэнічнымі падзеямі, жыва адгукаючыся на гумарыстычныя пасажы.

Прадуманы да дробязяў тэатральны жывапіс спектакля. На сцэнічнай пляцоўцы няма ніводнай лішняй дэталі. Усё працуе на звышзадачу пастаноўкі. На амаль пустой прасторы сцэнічнага круга размяшчаюцца элементы інтэр'ераў, у якіх дамінуюць гадзіннікі рознай канфігурацыі — сімвалічнае вызначэнне месца пасялення людзей. Стрэлкі на некаторых цыферблатах даўно спыніліся. А ёсць гадзіннікі, якія нават напалову “сышлі” ў зямлю, патанулі ў пяску мінулага. Адчуванне такое, быццам яны з дакорам “цікуюць” за тым, што адбываецца на сцэне. Толькі вялізны пясочны гадзіннік паказвае на хуткаплыннасць часу. Дэманструючы гэтыя хранографы, Р. Таліпаў дае магчымасць гледачу больш востра адчуць бясплоднасць інтарэсаў і бессэнсоўнасць існавання персанажаў, якія бяздумна спальваюць час. Колькі б тыя ні мітусіліся, іх гадзіннікі спыніліся. Філасофскі вобраз страчанага часу...

У аснове гукавога вобраза спектакля — фрагменты з сімфанічнай фантазіі М. Глінкі “Камарынская” (музычнае афармленне Аляксандра Крыштафовіча). Зухаватае спалучэнне розных рытмаў, характараў і настрояў музычных мініяцюр арганічна ўліваецца ў тэмпарытм сцэнічнага твора коласаўцаў, узмацняе ўспрыманне агульнай атмасферы дзеяння, надаючы пікантнасць характарыстыкам дзейных асоб.

Перад намі — панаптыкум персанажаў, якія запаўняюць пустэчу свайго жыцця бессэнсоўнымі ўчынкамі, гэтаксама, як пясок у гадзінніку перацякае ў пусты рэзервуар. Чаго варты, да прыкладу, Мамаеў. Самазабыўна насалоджваючыся сваёй значнасцю, цемрашал і ханжа, Ніл Федасеевіч імкнецца выправіць норавы кожнага пасобнага чалавека. Акцёр Віктар Дашкевіч пераканаўча перадае фанабэрыстасць і славалюбства, глупства свайго персанажа. Удала знойдзены грым сівавалосага старога ў вялікіх бакенбардах з прыжмурам наіўнага немаўляці ў спалучэнні з запаволенай пластыкай дае магчымасць выканаўцу стварыць выразны вобраз. Мамаеў выклікае да сябе дваістае стаўленне: з аднаго боку, пагарду, а з іншага — шкадобу да бездапаможнасці старога, які і жонку сваю пхне ў рукі пляменніка з-за боязі, што яна — дасведчаная “сакавітая” кабета — можа сысціся “з катаржным”.

Бліскучае выкананне Тадэвушам Кокштысам ролі Круціцкага. Шматгранны талент дапамагае акцёру ярка прадставіць гэты персанаж. “Марш” сучаснага вайсковага кампазітара Валерыя Халілава, скарыстаны пастаноўшчыкамі ў якасці музычнай тэмы Круціцкага, трапна адцяняе прыроду душэўнага складу састарэлага “жыўчыка” ў генеральскіх лампасах. Мінуўшчына хвацкага гусара выяўляецца ў яго адносінах з Турусінай, паблажлівасць — у стасунках з Мамаевым, фанабэрыя і пампезнасць — перад Глумавым. Круціцкі атачае сябе бюстамі вялікіх людзей і ўпэўнены, што ён — адзін з такіх. Сведчаннем таму — цудоўна сыграная Т. Кокштысам сцэна прыёму Глумава. Пранізлівае маўчанне Круціцкага і яго выразны недвухсэнсоўны погляд, рашуча накіраваны на калонападобны пусты пастамент, бянтэжаць гледача... самім прадчуваннем верагоднасці наступнага: неадкладнага аддзялення галавы ад тулава трагікамічнага генерала і ўстанаўлення на прызначанае для яе месца!



Уражлівы і грунтоўны вобраз франтаватага пустаслова і фразёра Гарадуліна ў выкананні Аляксандра Базука. Прадстаўніка “чацвёртай улады”, прайдзісвета Галутвіна сыграў Юры Цвірка, які з эпізадычнай ролі робіць выразны і псіхалагічна абгрунтаваны вобраз, гэтак падобны да сучасных папарацы. Абаяльны шукальнік багатых спадчынніц, пераканаваны альфонс Курчаеў, атрымаўся ў Максіма Каржыцкага...

У спектаклі каларытныя і гарманічныя жаночыя вобразы. Паводле задумы рэжысёра, вобраз Мамаевай, па сутнасці, выяўляе тры якасці адной і той жа іпастасі: неўтаймаваны запал маладой паненкі, невынішчальную жарсць закаханай кабеты, нястрымны клопат пра сваячку ў спалучэнні з уласнымі ілюзіямі, якія сарамліва затуляюць бурнае мінулае гераіні. Усе гэтыя жаночыя праявы, волю драматурга, персаніфікуюцца ў Машаньцы (мінулае Мамаевай), самой Мамаевай (яе сучаснасць) і Турусінай (будучыня Мамаевай).

Актрыса Анжаліка Баркоўская віртуозна справілася з задачай пастаноўшчыка і стварыла арганічны псіхалагічны партрэт Мамаевай, паказаўшы найтонкія нюансы пачуццяў: ад расчаравання ў шлюбе па разліку і незапоўненасці жыцця да акрыленасці каханнем. У росквіце гадоў, ды пры старым мужу-зануду, Клеапатра Львоўна зусім ужо страціла надзею пакахаць. У першых сцэнах выбеленыя вейкі і бровы, адсутнасць памады на вуснах, пучок валасоў з прыкметнай сівізной і кружкі акуляраў, якія нягегла сядзяць на носе, робяць твар Мамаевай несамавітым, шэрым, казённым. Яе выгляд дапаўняе нязграбная пластыка. Але з якой паспешлівасцю і настойлівасцю Мамаева А. Баркоўскай успрымае жаданае за сапраўднае і праз гэта змяняецца ўсё аблічча гераіні. Як ёй хочацца верыць у каханне юнака, удвая маладзейшага за яе! Хаця фактычна Мамаева “купляе” свайго ўмілаванага ў яго маці, каханне акрыляе, робіць жанчыну прыгожай, рашучай. І… пазбаўляе розуму. Мамаева пераацэньвае сябе, не адчувае фальшу ў адносінах з Глумавым. Нават выпадковая знаходка дзённіка Ягора не астуджвае яе пачуццяў.

Машанька ў выкананні Ніны Обухавай бязлітасна агаляе матывацыю ўчынкаў прыгожых спадчынніц пры самотных цётачках. Актрыса ўслед за рэжысёрскім пасылам выкрывае болевыя кропкі сучаснай “залатой моладзі”: вар'яцкае марнатраўства і ўтрыманства, бязмозглую ўпартасць і карыслівасць. Рамантыка пачуццяў, адухоўленасць першага пацалунка, устрыманасць, сціпласць і выхаванасць не ўласцівыя пляменніцы Турусінай. Курчаеў або Глумаў патрэбныя Машаньцы як ключ, што адамкне, нарэшце, “залатую клетку”, і яна выпырхне на волю і зможа скарыстацца сваім пасагам — як сёння гавораць, “па-сапраўднаму адвязацца і чадзець”.

Турусіна — “плён” фарміравання характару жанчыны з якасцямі Мамаевай і Машанькі, завяршэнне эвалюцыі былых уладалюбных какотак і ператварэнне іх у асоб, якія пакутуюць ад усеагульнай амаральнасці. Рэжысёр Рыд Таліпаў і актрыса Галіна Букацiна знаходзяць адзіна правільныя пастэльныя фарбы для абмалёўкі натуры гэтай гераіні. Праз паўтоны і намёкі выканаўца ролі тонка, з далікатным гумарам выкрывае праўдзівае аблічча Турусінай. Сэнс уласнага жыцця і будучыні сваёй пляменніцы яна знаходзіць у паранармальных з'явах: “Я ведаю адно, што на зямлі праўды няма, і з кожным днём усё больш у гэтым пераконваюся”. Адсюль яе дабрыня да “ўбогіх вандроўнікаў”, варажбітак і празорцаў, якія за невялікую ўзнагароду і ўзводзяць Турусіну ў “святыя пакутніцы”. І толькі зрэдку ментарская інтанацыя ў дачыненні да пляменніцы змяняецца гуллівым і какетлівым тонам пані, якая памятае пра свае былыя выхадкі.

Каго толькі не сустрэнеш у багамольным доме Турусінай! Вакол яе “тусуецца” натоўп “набожных” людзей, а прасцей —дармаедак. Тут і прадказальніца Манефа, чый вобраз маляўніча створаны актрысай Ларысай Антосевай. У яе персанажы столькі вядомага і сёння: флёр напускной таямнічасці, замацаваны градусам спіртнога, арганічна спалучаецца з самадурствам, увішнасцю і празмернай меркантыльнасцю.

Ролю маці Глумава з поспехам выконвае Раіса Грыбовіч. Глафіра Клімаўна не можа пахваліцца шляхетнасцю паходжання, добрым выхаваннем і прыстойнай адукацыяй, а таксама хоць якім-небудзь банкаўскім рахункам. Затое, хай сабе недалёкая і дагодлівая, Глумава надзеленая прыроднай кемнасцю і ахайнасцю, працавітасцю і цярпеннем, дабрынёй і сумленнасцю, адсутнасцю амбіцый і прагматызмам ды бязмерным матчыным каханнем і клапатлівасцю. Выканаўца асучасніла, “мадэрнізавала” вобраз Глумавай, дадаўшы да яго некаторыя тыпова мужчынскія якасці, што абумовіла вялікую вагу ролі Глумавай у развіцці інтрыгі “Мудрацоў...”. Прычым, гэта не проста акцёрскае самавыяўленне, а сапраўды зададзены наватарскі рэжысёрскі прыём, вельмі важны для вырашэння канфлікту спектакля. У вобразе Глумавай Р. Грыбовіч прадставіла гледачу “грымучую сумесь” з матчынага кахання без межаў, авантурызму, зайздрасці, балбатлівасці і беспрасветнай дурасці. Маці, жадаючы дапамагчы сыну, перашчыравала ў сваёй ініцыятыве, у фантазіях пра гарачае каханне Ягора да Мамаевай: “Ночы не спіць, прыйдзе ад вас, кідаецца, кідаецца…”. Глумава цешыцца сваёй хлуснёй, а рэакцыя разгарачанай ад прадчування любоўнай пяшчоты і абяззброенай Мамаевай робіцца неадэкватнай. Абедзве жанчыны быццам страчваюць адчуванне рэальнасці. Аднак кожная не забываецца на свае інтарэсы.

Усе гэтыя персанажы, упіваючыся сваёй “абранасцю” і “унікальнасцю”, беспардонна выкарыстоўваюць адно аднаго дзеля ўласнай выгады і ўсё больш патанаюць у балоце заган, руйнуючы сябе, разбэшчваюць людзей, якія побач, ператвараючыся ў суцэльную генетычную недарэчнасць. Не зрабіўшы ў жыцці нічога годнага і карыснага для грамадства і нацыі, яны крытыкуюць і зневажаюць сваю краіну, прыніжаюць супляменнікаў, лічаць, што маюць права вучыць усіх... На жаль, мамаевы, круціцкія, манефы, глумавы, турусіны ды і гарлахвацкія — унутры і нашага жыцця.

А як жа нармальнаму і разумнаму, актыўнаму і сумленнаму маладому чалавеку выжыць у асяроддзі такіх “мудрацоў”? Драматург не даваў ніякіх рэцэптаў. Вось і коласаўцы проста выносяць на суд гледачоў гісторыю маладога чалавека — Ягора Глумава, расказаную не зларадна, з добрай іроніяй.

Рэжысёр угледзеў рысы гэтага персанажа ў зусім маладым акцёры тэатра, студэнце-выпускніку Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Юрыі Гапееве, і даручыў яму найскладанейшую ролю Глумава. Дасканала выбудоўваецца логіка паводзін маладога славалюба, так што глядач са здзіўленнем успрымае натуральнасць пражывання акцёра ў сцэнічным вобразе і прастадушна спачувае яго персанажу, пачынае нават апраўдваць яго паводзіны: хіба магчымы іншы кар'ерны шлях для маладога чалавека ў падобных абставінах?

Вось самаатэстацыя Глумава: “я разумны, злы і зайздрослівы”, “я толькі злаваўся і пісаў эпіграмы на ўсю Маскву, а сам бібікі біў”. А вакол яго адны двурушнікі і эгаісты. Усе дрэнныя. Няма з каго прыклад браць. Няма ідэалу. Затое ёсць маладосць, энергія, незвычайны розум і неверагоднае жаданне ў людзі выйсці. Ён засвоіў, што плаваць супраць ветру — сабе даражэй. Што “з дурных людзей не трэба смяяцца, трэба ўмець карыстацца іх слабасцямі”. Большасць тых, хто ў зале, сапраўды не зможа абвергнуць довады Глумава. У цяжкі час перабудовы жыцця маладзейшыя ці спрытнейшыя засвойваюць рынкавыя законы канкурэнцыі, вастрэй адчуваюць заганы людзей, недасканаласць свету. І глядач не можа вызначыць, завошта асуджаць юнака, які шчыра хоча дамагчыся поспеху ў жыцці: грамадства ж вымушае яго быць такім.

Глумаў Ю. Гапеева ў розных сітуацыях — Хлестакоў або Тарцюф, у якога для кожнага ёсць свая маска: для маці — адданы сын; для Мамаева — старанны вучань; для Мамаевай — закаханы хлопчык; для Круціцкага — умелы рэдактар; для Гарадуліна — кемлівы хлопец, здатны хвацка гаварыць і пісаць прамовы і г. д. У яго няма гамлетаўскага жадання перакроіць свет, каб даказаць сваю слушнасць дзеля помсты ўсім навакольным. Гэта тыповы славянскі тып, які з практычных меркаванняў хавае свой розум, прыкідваючыся прасцячком, што пакутуе ад нястачы мудрых парад. Глумаў гатовы быць добрым, калі сустрэне чалавека, якога зможа паважаць. Ён адкрыты да бескарыслівага і чыстага кахання. І калі ў п'яўкі-Тарцюфа ці максімаліста Чацкага няма будучыні, дык у Глумава ёсць аб'ектыўная магчымасць выправіцца. Але ён пакуль толькі навучыўся, як губка, усмоктваць у сябе заганы навакольных...

З пастаноўкі коласаўцаў вынікае, што час пустасловаў і лайдакоў мінае. Будучыня — для людзей дзейных, сумленных, бескарыслівых, якія паважаюць розум іншага чалавека і здольныя прынесці сваёй працай карысць краіне. Калі на пачатку спектакля маці мые галаву сыну, рыхтуючы яго да выхаду ў свет, дык у фінале ініцыятыву бярэ сама прырода. Чуецца, як нарастае грукат грому, пачынаецца навальніца. Залева спыняе марныя сваркі між “мудрацамі”, якія, раскрыўшы парасонікі, спалохана глядзяць удалячынь. Пасля ачышчальнага дажджу выпростваюцца іх плечы і позіркі з надзеяй ды верай звяртаюцца ў залу. А бой гадзінніка абвяшчае адлік іншага часу — часу новых людзей і актыўных перамен.

Вячаслаў ГРЫБАЙЛА,
тэатральны крытык

Фота аўтара

## Ад рэдакцыі

Да нядаўняга часу гадаванцы Віцебскага дзяржаўнага універсітэта імя П. М. Машэрава зусім не былі прадстаўлены ў лімаўскім “Крытычным практыкуме”. Аднак хоць і невялікая, але несумненна сур’ёзная “літаратуразнаўчая заяўка” Ганны Навасельцавай дае падставы спадзявацца на тое, што і віцебская “галіна” маладой літаратуразнаўчай навукі будзе рэпрэзентаваная на старонках тыднёвіка з размахам не меншым, чым, напрыклад, гомельская.

Пасля заканчэння аспірантуры Г.Навасельцава працуе на кафедры беларускай літаратуры ВДУ імя П. М. Машэрава, даследуе айчынную гістарычную прозу XIX — XX стагоддзяў на прыкладзе творчай спадчыны Яна Баршчэўскага, Вацлава Ластоўскага, Уладзіміра Караткевіча з прыцягненнем славянскага (чэшскага і балгарскага) літаратурнага кантэксту. Пачатак вывучэння мастацкай творчасці названых пісьменнікаў быў пакладзены яшчэ падчас студэнцтва: у 2004 годзе яна атрымала дыплом I катэгорыі на Рэспубліканскім конкурсе навуковых работ студэнтаў ВНУ Рэспублікі Беларусь, у 2006 годзе на гэтым жа конкурсе — дыплом лаўрэата. Натхненне Г.Навасельцавай стае і на ўласную творчасць: у часопісе “Маладосць” друкаваліся яе міфалагічныя апавяданні, аповесць “Створаныя першым Трыглавам”.

# Падарожжы па лабірынтах веры і душы



## Хрысціянскія матывы ў мастацкай творчасці Уладзіміра Караткевіча і Эміляна Станева



У юбілейны 2010 год для пачынальніка сучаснай беларускай гістарычнай прозы Уладзіміра Караткевіча асаблівую актуальнасць набывае праблема новага бачання яго мастацкай спадчыны. Відавочна, што ў час стварэння рамана “Хрыстос прызямліўся ў Гародні” ў грамадскай свядомасці панавала атэістычнае бачанне свету. Аднак творчую думку кожнага вялікага пісьменніка жывяць вялікія традыцыі і, думаецца, не будзе перабольшаннем сказаць, што для У.Караткевіча такой знакавай традыцыяй стала выкарыстанне хрысціянскіх духоўных здабыткаў. У гэтым сэнсе яго можна назваць наступнікам Яна Баршчэўскага, для якога мінулае ўяўлялася мастацкай гісторыяй маральна-этычных учынкаў герояў рэальнага свету, інтэрпрэтаваных у хрысціянскім ключы ў чатырнаццаці навелах асноўнай сюжэтнай лініі кнігі “Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях”.

Хрысціянскія матывы набываюць ідэйную значнасць не толькі ў айчыннай мастацкай літаратуры, звернутай да асэнсавання мінулага, але і ў гістарычных жанрах іншых славянскіх літаратур. Напрыклад, прайшла доўгі шлях станаўлення і развіцця гістарычная проза ў балгарскім прыгожым пісьменстве, для якога, дарэчы, як і для беларускага літаратурнага працэсу, была ўласцівая паскоранасць.

Сёння агульнавядома, што У.Караткевічам пры напісанні рамана “Хрыстос прызямліўся ў Гародні” шырока выкарыстоўваліся біблейскія тэксты. Таксама вядома, што твор мае пэўную дакументальную аснову: гістарычны факт пра чалавека, які ў пачатку ўладарання Жыгімонта I, назваўшыся Хрыстом, прыцягнуў грамадскую ўвагу, узяты пісьменнікам з “Хронікі...” Мацея Стрыйкоўскага. Як красамоўна сведчыць выбраны ў якасці эпіграфа да рамана ўрывак з “Хронікі Белай Русі...”, “...і на пачатку панавання таго Жыгімонта Першога быў нейкій... который з легкості якой умысліў або рачэй з роспачы імя із зверхность Хрыста господа собе прыпісаў і прівлашчаў”. А. Верабей, характарызуючы твор як “раман-прытчу, раман-легенду пра жыццё на Беларусі ў XVI стагоддзі, напоўнены горкай іроніяй, драматызмам і адначасова гумарам, весялосцю, аптымізмам”, пра галоўнага героя заўважае, што той з махляра і валацугі паступова ператвараецца ў мысліцеля, пакутніка, праўдашукальніка, змагара і народнага абаронцу. Так, як і першы, сапраўдны Хрыстос, Юрась Братчык знаходзіць вучняў, здзяйсняе шэраг цудаў. Аднак вучні з’яўляюцца на самай справе выпадковымі сустрэчнымі, якім падабаюцца выгоды, што прыносіць ім іх “апостальскі” статус. Цуды ж тлумачацца звычайным чалавечым махлярствам. Згадаем, напрыклад, біблейскі цуд пра тое, як Хрыстос пяццю хлябамі і дзвюма рыбінамі накарміў вялікую колькасць людзей. Хрыстос-Братчык таксама ратуе ад голаду многіх, але для гэтага выкарыстоўвае запасы багацеяў — хлебніка і рыбніка. Адрозна ад хрысціянскай традыцыі У.Караткевіч інтэрпрэтуе і гісторыю пра здраду Хрысту: не адзін вучань — Іуда — прадае настаўніка за трыццаць срэбранікаў, а дзесяць апосталаў прадаюць Хрыста, і толькі двое — Іуда і Фама — яму не здраджваюць. Здавалася б, змест рамана сведчыць, што айчыннае мінулае інтэрпрэтуецца са значным пераасэнсаваннем хрысціянскай традыцыі, тым больш, што гэта падкрэслівае і падзагаловак твора — “Евангелле ад Іуды”, аднак у У.Караткевіча не ўсё так проста...

Думаецца, варта весці размову пра спецыфічна караткевічаўскі тып персанажа, які адлюстраваны не толькі ў рамане “Хрыстос прызямліўся ў Гародні”. У аповесці “Сівая легенда”, навеле “Кніганошы” галоўныя героі здзяйсняюць святую справу, становяцца сапраўднымі пакутнікамі, свядома ахвяруючы сваім жыццём дзеля іншых. У прыватнасці, у аднайменным творы апавядаецца пра славутага кніганошу па мянушцы Корч, сапраўднае імя якога — Кірыла Туравец. Паводле слоў самога героя, “амаль як святы Кірыла Тураўскі... Толькі таго за кнігі хвалілі”. Учынкі Тураўца раскрываюць яго “амаль як святога”. Ён з прароцкай адданасцю служыць кнізе ўсё жыццё і працягвае сваю справу нягледзячы на смерць сына. Становіцца “мужыцкім Хрыстом”, які едзе на белым кані з залацістымі вачыма і ўвасабляе надзею на лепшую будучыню, Раман Ракутовіч. Ён даруе народу ўсё тое, што б дараваў “мужыцкі Хрыстос”: “Праваслаўныя, усё бярыце! Зямля — ваша, хлеб — ваш, вера — ваша! І дубоўні — вашы!”. Хрыстос-Братчык трызніць ад катаванняў і ў трызненнях бачыць Саваофа, якому распавядае пра пакуты людзей на зямлі: “Пра справу веры і святую службу, пра дзікае прыніжэнне годных і заціскане рота, пра бессаромную ліслівасць і высокую мужнасць, пра ярасць і мяцеж, пра дзікі боль і высокую журбу...”. Братчык пытаецца ў Бога, ці варта гінуць за такіх людзей, на што атрымлівае адказ: “І за такіх, сынок... І за такіх, якія яны будуць”. Як бачым, кожны з герояў праяўляе вышэйшую хрысціянскую дабрыню, спагадаючы як бліжнім сваім усім людзям, і з гэтага вырастае вялікая караткевічаўская вера ў чалавека і чалавечнасць.

Здзейсненыя “святым” Кірылам Тураўцам і абодвума “мужыцкімі Хрыстамі” — Раманам Ракутовічам і Юрасём Братчыкам — патрыятычныя подзвігі паказваюць герояў як пазачасавых персанажаў. Пісьменнік, адлюстроўваючы, у прыватнасці, асобы Рамана Ракутовіча і Юрася Братчыка ў гістарычным працэсе, раскрываючы іх ролю ў беларускім мінулым, імкнецца сцвердзіць выключнасць маральна-этычных прынцыпаў. Ва ўсіх трох творах учынкі галоўных герояў асэнсоўваюцца і надзвычай высока ацэньваюцца іх сучаснікамі — носьбітамі гуманістычнай аўтарскай думкі. Гэтым У.Караткевіч даводзіць, што здзяйсняльнікі вялікіх учынкаў не толькі твораць гісторыю, вылучаюцца сярод іншых і вядуць іх за сабой. Чалавек, які пераўзыходзіць звыклыя ўяўленні пра дабрыню, смеласць, ахвярнасць, набліжаецца да спасціжэння найвышэйшага сэнсу жыцця на зямлі, далучаецца да Боскай думкі. І такі чалавек не можа проста памерці, нават калі ахвяруе сваім жыццём. Мабыць, караткевічаўскі гуманізм і трэба бачыць у тым, што той, хто здзяйсняе вялікае дзеля іншых, атрымлівае права на духоўную бессмяротнасць — права навечна застацца ў гісторыі як прыклад для нашчадкаў.

Сёння агульнавядома, што У.Караткевічам пры напісанні рамана “Хрыстос прызямліўся ў Гародні” шырока выкарыстоўваліся біблейскія тэксты. Таксама вядома, што твор мае пэўную дакументальную аснову: гістарычны факт пра чалавека, які ў пачатку ўладарання Жыгімонта I, назваўшыся Хрыстом, прыцягнуў грамадскую ўвагу, узяты пісьменнікам з “Хронікі...” Мацея Стрыйкоўскага.

Традыцыя хрысціянскага асэнсавання гісторыі ў балгарскай літаратуры яскрава выяўляецца ў спадчыне Эміляна Станева, у прыватнасці, ў яго рамане “Антыхрыст” (1970), які дэманструе шмат тыпалагічных сыходжанняў з караткевічаўскім творам “Хрыстос прызямліўся ў Гародні”. Калі беларускі пісьменнік у аповесці “Сівая легенда” і рамане “Хрыстос прызямліўся ў Гародні” рэпрэзентуе мінулае на аб’ектыўна-дакументальнай, фактуальнай аснове і ў спецыфічна гістарычнай — легендарнай і летапіснай — форме ўвасаблення, то Э. Станеў шырока выкарыстоўвае прыём стылізацыі, абіраючы форму сярэднявечнага жыція, самакрытычнай споведзі манаха Тэафіла, у якім рэлігійныя ідэі змагаюцца з зямнымі ісцінамі і спараджаюць бунт у душы простага манаха-вершатворцы, сына іканапісца. У цэнтры ўвагі Э. Станева жыццё галоўнага героя, імя якога азначае “любоў да Бога” і які сапраўды любіць Бога: “Схаваная ўва мне ісціна знаходзіла сабе сілкаванне. Жывіла яе радасць ад нятленнасці зямлі, што квітнее кожную вясну і лета, божы вертаград дзівіў мяне і заміловаў, умацоўваў абяцаннем дабрыні; усведамленне, што цвёрды я воляй і непадатлівы злому, надавала мне адвагі. З кожным днём адчуваў я ў сабе ўсё большую ўпэўненасць і смеласць да добрага”. Тэафіл перакананы, што як бы чалавек ні жадаў чысціні, як бы ні ненавідзеў грэх, ён не можа нікому аддаць сваё сумленне, нават Богу. Кожны чалавек падобны да свечкі, якая апавіта кудзеллю грахоў, і, калі многа іх, яны засланяюць яе святло. У такім разе чалавек нешчаслівы і няма для яго радасці. А радасцю для самога героя з’яўляецца дапамога і ратаванне іншых. Праз цяжкія выпрабаванні ён узвышаецца да здзяйснення вялікіх чалавечых учынкаў.

Дзеянне ў рамане адбываецца ў другой палове XIV стагоддзя, калі Балгарыя і іншыя балканскія краіны пакутавалі ад феадальных міжусобіц, дынастычных разладаў, бясконцых нападаў асманаў, калі панавала агульнае пачуццё няўпэўненасці і страху. Тэафіл трапляе ў рабства і вачыма прыгнечанага суздрае нашэсце хана Баязіда на балгарскія землі. З асаблівым жалем сочыць ён за асадай Тырнаўграда, роднага горада, з якім звязана мноства ўспамінаў: “Пацягнуліся дні і ночы, калі чуў я столькі рыданняў і звярынага выцця, што глушылі яны галасы зямлі, без якіх не можа жыць чалавек”. Герой, ведучы ўяўны дыялог са сваім былым настаўнікам, пытаецца, як яму верыць у сілу Боскую і горні Іерусалім, калі ён бачыць людскія справы. “Даляціць крык нейкага, хто страціў розум, бразнуць дзверы, заплача жанчына, і зноў над чорнымі вежамі і зубчатымі сценамі страшная цішыня, нібы ў мёртвым горадзе, і, нібы Галгофа, узвышаецца званіца”. Тэафіл прызнаецца, што ўсё бліжэй яму бачыцца канец свету, аднак знаходзіць у сабе сілы змагацца дзеля іншых. Ён атаясамлівае сябе з народам і прыходзіць да ўсведамлення неабходнасці праліваць кроў “за сябе і народ свой”, а таму ўцякае з палону і ідзе шукаць вольнай балгарскай зямлі. У намерах таго, хто любіць Бога, а праз Бога і людзей, — сабраць такіх, як сам, рабоў, каб помсціць заходнікам і змагацца за свабоду.

Тэафіл падобны да караткевічаўскага Юрася Братчыка: ён гэтаксама канфліктуе з царкоўнай і свецкай уладай, спачувае і дапамагае простым людзям. Герой, які сам сябе лічыць антыхрыстам, выяўляе высокую чалавечую і хрысціянскую спагаду, нязменна імкнецца да прыгажосці, дасканаласці, мудрасці, але спасцігае толькі сумненні, пакуты і боль: “Вунь паляцела птушка. Куды ляціш, птушка? Звер бяжыць па лесе. Куды спяшаешся, звер лясны? Хто кліча вас, хто вядзе і куды? І куды ідзеш ты, чалавеча? Сказана ў Евангеллі — глянуць на таго, каго працялі яны, але хто гляне на мяне, зганьбаванага балгарына?”. І Юрася Братчыка, і Тэафіла можна назваць натхнёнымі вандроўнікамі, якія падарожнічаюць па лабірынтах чалавечай веры і душы, спасцігаючы сэнс чалавечага быцця на зямлі. Як бачым, у гістарычнай беларускай і балгарскай прозе ўвасабленне хрысціянскіх матываў атрымлівае філасофска-канцэптуальную заглыбленасць, яны з’яўляюцца не проста сродкам адлюстравання каларыту пэўнай эпохі, але ўваходзяць у сістэму анталагічных каштоўнасцей, вечна актуальных пытанняў, у святле якіх і паказваюцца здабыткі нацыянальнай мінуўшчыны.

Ганна НАВАСЕЛЬЦАВА

Генадзь АЎЛАСЕНКА

## А вы што падумалі?

Пародыя

> Душа — інтымны дужа орган,
> Яе не трэба агаляць.
> Вера Міхно
> "ЛіМ" № 30 за 2009г.

Адзін паэт
ці то ў запале,
Ці, мо, крыху паддаты быў,
Ды толькі ён
пры поўнай зале
Інтымны орган агаліў!



Ну, што вы ўсе зарагаталі?
Я ж ведаю, аб чым пішу!
Бо той паэт
пры поўнай зале
Інтымна агаліў… душу!



## За што штраф?

Пародыя

> Я — на "Ты". "Вы" — бар'ер,
> браканьер, бракаслоўе…
>
> …(на правах улюбёнай,
> якой усё даравана
> задарма: і магутнае слова Тваё, і пагляд).
> Ты жывеш рэчаіснасцю,
> я ад яе адарвана
> і ствараю з хаосу сэнсоўнасць,
> крыху неўпапад…
> Ярына Дашына
> "Маладосць", № 11 за 2007г.

Я — на "Ты". "Вы" — бар'ер, браканьер, бракаслоўе, —
я сказала інспектару, — блеф, бутафорыя Вы!
Вочы вылупіў ён на мяне ад такога шматслоўя,
казырнуў і прамовіў няўпэўнена: "Вашы правы!"
Ён жыве рэчаіснасцю, я ад яе адарвана,
я стваряю лірычнае слова Сваё і пагляд!
(Я, між іншым, паэт, а паэтам усё даравана,
нават тым, хто кіруе машынай крыху неўпапад.)
Ну, паехала я на чырвоны сігнал светлафора,
ну, не мела правоў… сутыкнулася з нейкім аўто…
Ну, стварыла хаос я з сэнсоўнасці іншых шафёраў!
Я ж з дарогай — на "Ты", разумееш?!
А штраф мне за што?!

## Лепш бы ўжо русалка!

Пародыя

> Хто малады,
> не хадзіў бы, аднак,
> Сцежкамі жытняга балю:
> Тут зацалуюць русалкі няўзнак
> Ці заказычуць без жалю.
> Будуць красуні цябе казытаць,
> Пэўна, сабе ж на пацеху.
> Будзеш адно рагатаць, рагатаць,
> Дый захлынешся ад смеху…
> Віктар Гардзей
> "ЛіМ" № 6 за 2008г.



Раз у падпітку ішоў я, аднак,
Сцежкай жытнёвай знаёмай,
Там, дзе цалуюць русалкі няўзнак
Хлопцаў каля вадаёма.
Выпіў я добра, хістала ў бакі…
Бачу: насустрач русалка!
Прама праз жыта імчыць напрасткі,
Ну, а ў руцэ ў яе — палка!
Не, каб мяне казытаць, цалаваць
Сярод жытнёвага балю…
Палкаю стала мяне лупцаваць
Без усялякага жалю!
І не схавацца мне, і не ўцячы…
Лупіць, сабе ж на пацеху!
— Ты ўжо, — крычу ёй,
— дык лепш казычы,
Каб захлынуўся ад смеху!
А, яшчэ лепш – зацалуй ты мяне!

…Глядзь: гэта ж жонка Альбіна!
А яна знойку мне хрась па спіне!
— Што ўжо, дапіўся, дубіна?!

Шаржы
Алега Карповіча

Міхась СЛІВА

## Дыялогі

**Не мог абагнаць**

Начальнік робіць заўвагу супрацоўніку, што той спазніўся на работу.
— Дык жа перада мною ішла модна апранутая маладая дзяўчына, — апраўдваецца той.
— Ну й што? — не можа зразумець начальнік.
— Яна ішла вельмі павольна.

**Гуляць дык гуляць**

Да Апанаса з раніцы завітаў сябра, з якім яны даўно не бачыліся. Жонка стала збіраць на стол.
— Нясі ўсю гарэлку адразу, — гаворыць Апанас, — каб мы цябе ноччу не будзілі!

**Ён табе не пара**

Размаўляюць сяброўкі:
— Нашу Тамару пакінуў муж. Учора сышоў з дому…
— А я ёй даўно казала: "Кідай першай, ён табе не пара!"

Ігар КАНАНОВІЧ

- Калі вы чуеце сірэну "хуткай" — працэнтаў 90, што яна не па вас.
- Талент — гэта неданошаны геній.
- Мой сённяшні мільён — дывідэнды ад слушна ўстаўленых учора "пяці капеек".
- Герояў вырошчваюць добрыя людзі на глебе дрэнных сітуацый.
- І дыпламат, і паэт восем з дзесяці разоў няшчырыя. Але, каб застацца пры сваім, першаму трэба змяніць і астатнія два разы, а другому — наадварот.
- Страх уратаваў не адно жыццё, але ніводнага, па сутнасці, не палепшыў.
- Назіраючы за некаторымі, бачыш: гэтыя людзі жывуць ужо ў XXI стагоддзі. Але па іх ну ніяк не скажаш, што цывілізацыя развівалася 2 тысячы гадоў!
- Сафізм — гэта вузел пятлі, у якой канчаюцца недалёкія.
- З крывадушных эгаістаў паэт — самы шчыры.
- Большасці выпускнікоў сярэдняя школа дае сярэднія веды.
- У Вавілонскай вежы было нямала выдатных дойлідаў, але прарабы, як заўжды, кралі…
- Прырода жыве па законах шоу-бізнесу: тайфун — гэта раскручаны цыклон…

Уладзімір ЦАНУНІН

## Аб'ява

Вісяць на шыбіне варотнай
Аб'явы белыя лісты:
"Прапаў кабель чыстапародны.
Руды, высокі і таўсты.

Яго асобыя прыкметы
Зусім звычайныя якраз —
Дублёнка модная адзета,
Красоўкі фірмы "Адзідас".

Ён асабліва брэша часта,
Калі гуляе па двары.
Зусім не голены, вушасты
І жрэ не толькі "Педзігры".

Калі вось гэткая парода
На вочы трапіцца каму?
Прашу таго за ўзнагароду
Адразу знішчыць як чуму".

Зміцрок МАРОЗАЎ

* * *

Крычаў наш "класік":
"Я — прарок,
Хрэстаматыйны
майстра слова!.."
Пачуўшы гэта,
Пушкін змоўк,
А Дастаеўскі зрокся мовы.

* * *

Свабоды моляць людзі ў Бога,
Хоць ёсць вышэйшыя
дар зямны —
Свабода ад сябе самога!..
Пасля жыцця…
Пасля труны…

Барыс КАВАЛЕРЧЫК

## Вытрымкі з кандыдацкай дысертацыі «Аптымальныя ўмовы для рэалізацыі кахання ў шлюбным саюзе»

Статыстычныя даныя сведчаць, што мужчыны і жанчыны не толькі ахвотна ўступаюць у шлюб, але і даволі часта разводзяцца.

Але разумныя людзі кажуць, што не трэба журыцца: лік разводаў ніколі не перавысіць колькасць заключаных шлюбных саюзаў.

Аднак і не дурні сцвярджаюць, што радавацца пакуль няма чаго: усё больш і больш цешчаў штогод расстаецца з любімымі зяцямі, што, безумоўна, вельмі засмучае.

Падзяляючы меркаванні і тых, і другіх, аўтар дысертацыі лічыць, што шлюб у жыцці чалавека — падзея вельмі сур'ёзная. Нездарма з любою не жартуюць нават гумарысты. Ды і які ўжо тут смех, калі справа можа заканчвацца і разводам. Кожны мужчына марыць насіць сваю каханую ўсё жыццё на руках альбо хаця б правесці яго з ёю побач. Але многім прадстаўнікам моцнага полу зрабіць гэта, на жаль, не ўдаецца.

Навуковыя даследаванні, выкананыя дысертантам, дазволілі зрабіць вывад, што распад шлюбнага саюза залежыць ад многіх прычын.

Пры падрыхтоўцы дысертацыі быў вывучаны сямейны вопыт грамадзяніна Іванова І. Д., які пяць разоў жаніўся і столькі ж разоў разводзіўся. Грамадзянін Іваноў І. Д. адзначыў, што скасаванне шлюбу нярэдка адбываецца вельмі ўжо будзённа, шэра. Калі пры жаніцьбе яму і яго жонкам шматкроць і захоплена крычалі: "Горка!", дык пры разводах ніхто нават шэптам не сказаў: "Салодка!"

Па думцы Іванова І. Д., калі б скасаванне шлюбу не ператварылася ў радавую, ардынарную падзею, а адбывалася ва ўрачыстых, святочных абставінах, дык уражанняў нават ад аднаго хапіла б на ўсё жыццё.

Дысертант поўнасцю згодзен з грамадзянінам Івановым І. Д., але лічыць неабходным дадаткова звярнуць асаблівую ўвагу на наступнае. Усе важнейшыя падзеі ў жыцці людзей адбываюцца абавязкова, як правіла, з музычным суправаджэннем. Пры рэгістрацыі шлюбу — гэта марш Мендэльсона, на пахаванні выконваецца пахавальны марш, ды і хіба можна ўявіць, каб хто-небудзь скакаў ці танцаваў без музыкі. Таму трэба абавязкова правесці адкрыты конкурс на стварэнне велічнага марша, які будзе выконвацца пры разводах і надаваць ім бязмерна журботны і незабыўны характар.

Неабходна таксама, прымяняючы навуковы падыход, распрацаваць рытуал скасавання шлюбу, які б прадугледжваў у тым ліку і ўрачысты памінальны абед па сямейным жыцці ў рэстаране. Калі разводы перастануць быць звычайнасцю, іх колькасць значна паменшыцца.

Зразумела, што гэтаму, безумоўна, будзе садзейнічаць і ўменне выбіраць жонку і асабліва цешчу. Але як гэта рабіць — прадмет асобага дэталёвага разгляду ў доктарскай дысертацыі, над якой зараз узмоцнена працуе дысертант.

Заўвага: дадзеная публікацыя ажыццяўляецца па ўзгадненні з аўтарам дысертацыі.

## Гусіным пяром



Ладысь БАРАБАНАЎ. Нарадзіўся ў Круглянскім раёне на Магілёўшчыне. Скончыў Магілёўскі дзяржаўны універсітэт імя А. Куляшова. Працаваў лесарубам, аўтарам-выканаўцам песень у Мінскім абласным музычным таварыстве, займаў пасаду ў школе.

Выдаў кнігі прозы "Першая струна", "Бейс", "Над", а таксама зборнікі вершаў "Маўчана" і "Выслухай вецер", "Ганарар".

У выдавецтве Кнігазбор" выйшла кніга прозы "Пад зоркай су…".

Жыве на малой бацькаўшчыне.



# «Зіхатлівая кропля расы» і «Дух праўды»

Зайшоў у рэдакцыю адзін паэт са сваім таварышам і нагадаў-папрасіў: вось, маўляў, у калегі выйшаў першы вершаваны зборнік у салідным выдавецтве і на яго ўжо напісана для "ЛіМа" станоўчая рэцэнзія, хацелася б нейк хутчэй яе выдрукаваць, бо аўтара неўзабаве будуць прымаць у члены Саюза пісьменнікаў… Кажу, што і сам я маю гэты зборнік, таму мог бы адгукнуцца на яго ў сваёй рубрыцы "Гусіным пяром"… О, як устрапянуўся той... Ды ты што, кажа, ні ў якім разе, ты ж там пішаш пра самадзейных правінцыйных аўтараў, а тут паэт сур'ёзны…

Вядома, такая рэакцыя мяне ў глыбіні душы зачапіла, ды і тых, думаю, пра каго я пісаў у згаданай рубрыцы, таксама не пакінула б спакойнымі. Аднак, паразважаўшы, адкашляў і гэты асцюк… А тут прынеслі ў падарунак ад Ладыся Барабанава з выдавецтва "Кнігазбор" новую кніжку прозы "Пад зоркай Су…"

Буду шчыры, азнаёміўшыся са зместам, я прачытаў толькі аповесць "Дух праўды" на зачыне кніжкі і своеасаблівую публіцыстычную эсэістыку напрыканцы. Пакольні не так даўно я пісаў пра паэтычны зборнік гэтага ж аўтара, то не мае сэнсу паўтараць характарыстыку яго творчасці. Ды і ў згаданых тэкстах не натыкнуўся я на нешта новае ў яго падыходах да літаратурнай працы. Ён па-ранейшаму загіпнатызаваны сваёй творчасцю і ўласнай літ-персонай. А паколькі ён сам і з'яўляецца гіпнатызёрам, то і выйсця з самастворанага стану ў яго няма (пры жаданні можна назваць гэта выракам, што карэнным чынам сітуацыі не мяняе). Безумоўна, нельга заставацца неспагадлівым, калі табе цягам дзесяткаў гадоў даводзяць пра сваю адзіноту, бясхлебнасць, безганарарнасць, няшчаснасць, забытасць і пакінутасць па-за агульным кантэкстам літаратурнага працэсу… Шкада. Хоць іншым разам гэтае слова выклікае асабіста ў мяне пачуццё прыніжэння.

Не дзіўна, што Барабанаў абсалютна ігнаруе крытыку (я мог бы паказаць яму кіпу колішніх адказаў з рэдакцый, за якія і сёння ўдзячны сваім у меру строгім літкансультантам Я. Янішчыц, У. Някляеву, Л. Філімонавай, В. Тарасу, Ю. Свірку, П. Макалю). А вось выпрымка з Барабанава: "Крытык-жанчына, празвішча якой не ў памяці, выказалася артыкулам у "Літаратуры і мастацтве", што аповесці многа бракуе, не хапае філасофічнасці, глыбокай унутранай псіхалогіі, не хапае таго, што ёсць у К. Чорнага, М. Зарэцкага, І. Мележа. Не хапае і не хапае… На тое і крытыка, каб казаць, чаго "не хапае". Крытыкі рэдка хваляць. Крытыкі не пакутуюць ад уласнага суб'ектывізму ў ацэнцы твора. Часгось не хапае — вось і строчыць артыкул, спадзеючыся, што калі крытыку не хапае, значыць, і ўсім. Затое маім землякам, круглянскім абывацелям, аповесць спакою не давала..."

Дык чаго ж жаліцца, тады і пішы для правінцыйных малаадукаваных вяскоўцаў, а не прэтэндуй на высокаадукаванага інтэлігентнага ды інтэлектуальнага чытача, а ў дадатак яшчэ і на высокі рэгулярны ганарар… Не падлабуньвайся, прабачаюся за рэзкасць, пад Шамякіных ды Мележаў… Чытаючы Барабанава, не магу пазбавіцца ад адчування, што колішнія ганарары вядомых пісьменнікаў і паэтаў не даюць яму спаць да гэтай пары. А яны ж, паверце, не вінаватыя ў яго творчых і жыццёвых праблемах. Нават Леў Талстой без пашаноты ставіўся да тых, хто "землю попашет, попишет стихи". А са слоў Ладыся, то ён і "пахарь" не надта каб (паехаў быў на заробкі ў Падмаскоўе ў 1990-м, як сам піша, а праз тыдзень ужо стаміўся ад самоты па хаце пакінутай і з'ехаў ад сваёй брыгады гастарбайтэраў). Выпрошваць грошы на выданне кніжак у раённых кантора значна лягчэй. Але трэба прызнаць, што Барабанаў, жывучы на бясхлеб'і, усё ж удаецца знаходзіць сродкі на свае кніжкі, якія выдаюцца даволі рэгулярна. Яшчэ б знайсці якія сродкі на крытыкаў! І быў бы поўны "гешэфт". Праз зубы іранізую, бо недзе ўнутры мяне ёсць і піетэт да гэтага Ладыся. З той прычыны, што ён змагар за ўласную годнасць. Вядома, у кожнага чалавека яна мае сваю характэрнасць. Што тычыцца Барабанава, дык ён хоча пачуваца беларускім творцам без прыгону і прыніжэння. Прэтэндуе на тое, каб павага і ўвага былі яго пастаянннымі спадарожнікамі ў беларускім грамадстве. А што ж ён сам? Што пакладзена ўласна ім на алтар духоўнасці і нацыянальнага краснага пісьменства? Якія мастацкія вартасці ён прапанаваў у абмен на вышэй згаданае?

Адказ правісае. Хоць зразумець Ладыся, як чалавека збыткаваўшага сваё жыццё на ўласную ж літаратуру, можна. І я спрабую гэта зрабіць. Бо, зрэшты, і сам мог апынуцца ў падобнай сітуацыі і быў ужо блізкі да таго, каб не цвярозае ўсведамленне незваротнасці аблуднага шляху ды не страчаная сіла волі. На жаль, Барабанаў да гэтай пары так і не мае пэўнасці ў сваім жыцці… Толькі напышлівыя словы звіваюць метафарычны вянок славы на драматычным чале яго лёсу... Але пра тое ён ведае адзін у сваіх тужлівых начных мроях. Ну, мажліва, яшчэ я, раз-пораз узнікаючы перад яго вачыма назойлівапалахлівым чортам… Жорстка? Відаць, так. Інакш паразумецца цяжка. Ну, вось, да прыкладу, сам творчы працэс апісаны Барабанавым: "Калі пішу вершы, яны ствараюцца адзін за адным, і не паспееш адзін закончыць, а ўжо другі просіцца на паперу. Час таксама ляціць непрыкметна — пяць гадзін праляцяюць, як дзве хвіліны! Дзіўны гэты творчы стан. У той жа дзень сядаю за пішучую машынку, друкую. Клею канверт, бягу на раённую пошту."

Не раўнуючы вытворчы канвеер…

А ў дадатак да ўсяго сам сабе пры гэтым стварае праблемы, — піша так, што "з цяжкасцю разбірае свае каракулі, адбівае на машынцы слова за словам у нервовай напружанасці, нехаценні гэта рабіць, а то і злосці". Во як! А ў рэдакцыі ж нехта павінен гэта чытаць. Праўда, і надрукаванае на машынцы ў Ладыся не больш чытэльнае, чым ад рукі напісанае. І чаму б яму ў такім разе, каб не мучыць сябе і рэдакцыйных супрацоўнікаў, замест чарговай кніжкі не набыць які патрыманы камп'ютэр? Але я ведаю, што скажа на гэта Барабанаў: такі ўжо я, хлопцы, урадзіўся… Але ж нават калі залічыць Ладыся да шэрага "выклятых паэтаў", то трэба памятаць, што ў тых чамусьці заўсёды дабрадзеі знаходзіліся (дапамагалі, перадрукоўвалі, па рэдакцыях рассылалі): у Купрэева — Галубовіч, у Гадульні — Сахарчук, а за Сысом увогуле цэлая каманда хадзіла, кожнае не тое што пісьмовае, вуснае слова занатоўвалі…

Не зразумела, навошта наш аўтар штораз абірае новыя псеўданімы для сваіх кніг, ды яшчэ якія (Вычур, Барабанаў), тым больш, што на апошніх старонках усё адно фігуруе яго сапраўднае прозвішча. Аказваецца, на знаёмыя літаратурныя прозвішчы ў яго алергія.

"Цяпер, калі чытаю вершы ў газеце ці часопісе, гляджу на партрэт аўтара, на прозвішча. Пазнаю, бо меў стасункі. Гэты казку скарацігу так, што казка не стала казкай. Гэты на ўсю рэспубліку ў артыкуле зняважыў, ачарніў. Гэты грэбліва паставіўся да маёй навелы, абсмяяў. А гэтая кабета два гады аповесць у друк не пускае, хоць які ганарар меў бы — на хлеб. Паўстаюць перад вачыма ў памяці нядобрыя ўчынкі калег па пяры. І праз іх учынкі, як праз бруднае шкло акна электрычкі, глядзіш і чытаеш тое, што пішуць. Ці слухаеш іх выступленні па радыё, дзе размова толькі аб творчасці, яе смакаванне, а не пра тое, што пісьменніцкая праца для некаторых зрабілася дармавой. І няма цэльнага, чыстага ўспрымання паэта і яго вершаў, празаіка і яго прозы.

А вось раней, калі я быў малады, было…"

І гэта, шаноўныя калегі, не мастацкая "плынь свядомасці" літаратара Барабанава, а яго эсэістыка, заснаваная на ўласнай біяграфіі. Чытаючы такое, думаеш: ну, калі пісьменнік так успрымае сваіх братоў па творчасці, то што чакаць ад яго ўласнай літаратурнай працы?

Светлым і зычлівым яму падаецца толькі тое, што ён згадвае з маладосці ў сваім артыкуле "Зіхатлівая кропля расы". Аднак кроплі расы ўражваюць нас ненадоўга. Зазвычай летнім ранкам на ўзыходзе сонца. Пасля іх крышталёвы бляск выпарваецца і прападае з нашых зачараваных вачэй. А вось "дух праўды"… З гэтым складаней. Магчыма, ён і лунае над намі. А можа, Барабанаў меў на ўвазе мастацкую праўду, таму і падвесіў над ёй німб духоўнай метафары? Але, на жаль, з яго прозы падобнага не вынікае, там праўда — надзённая, сярмяжная, штораз рознaя, хоць сустракаюцца і адмысловыя месцы, як вось гэтае з зачыну ўпомненай аповесці "Дух праўды": "Лісты на старых крывых таполях ля жалезнага моста праз цёхмяную гарадскую раку ў бетонных берагахсценах шамацелі глухімі галасамі, нешта гаварылі адно аднаму. Бляск на лістах быў халодны, ртутны. І ствалы старых таполяў былі мокрыя, нібы таполі плакалі. І цяпер, раніцай, па ствалах цяклі слёзы, і яны прытоена блішчэлі, як слёзы на тварах старой бабулі. Гаркавы спелы пах падымаўся, плыў ад лісця па вуліцы, як яшчэ адзін доказ, што на дварэ пануе восень. Чалавек у светла-шэрым плашчы, мокрым, і таму цёмным, капелюшы з трамвайнага прыпынку, уладкаванага ля моста, паглядаў на раскіданае бляклa-жоўтае лісце, на мокрыя ствалы таполяў. У яго прымружаных вачах дадалося суму. Ён яшчэ вышэй прыўзняў плечы, нібы адчуў новы наплыў холаду. З прыўзнятымі плячыма падаваўся яшчэ больш хударлявым. Выглядаў састарэлым юнаком, яму можна было даць гадоў сорак. Жоўта-попельны колер звялай скуры на твары казаў аб тым, што мужчына заўзяты курыльшчык. Ягонае аблічча з тых, якое цяжка падаецца апісанню: паўнаватыя шчокі, прамы нос, шырокі рот, тоўстыя вусны. Верхняя губа – большая за ніжнюю. Нібы тварэц аддаў ёй больш увагі. Мудрая добразычлівая ўсмешка, што нібыта хавалася ў вуснах, надавала абліччу большай жыццярадаснасці. Яна то бачылася выразна, то атухала."

Чым благая проза як для асобнага ўрыўка? Чаго, здавалася б, тут "крытыкам не хапае"? Таленавіты чалавек з прафесійна не пастаўленым літаратурным голасам. Ці не таму ў самім цэласным творы не хапае сюжэтнай і фабульнай скроенасці і стройнасці? Надта ж прачытваецца зацыкленасць на "ущербности" герояў, галоўны сярод якіх, вядома ж, літаратар, чый вобраз часцей за ўсё спісваецца з уласнай натуры. Бесперапынная нэндза, сноўданне ў пошуках хлеба і ганарару, ды праклінанне рэдакцыйных супрацоўнікаў і кіраўнікоў розных раённых рангаў дастаюць да нетрывання… Дзеі ў аповесці развіваюцца так, як уздумаецца неўраўнаважанаму літаратару, а не як вынікае з папярэдняга іх развіцця… Хутказменлівы час і становішча ў ім немаведама адкуль на кароткі час узнікаючых герояў размываюць аснову магістральнай тэмы твора. Таму і бессэнсоўнае зверскае забойства сучаснымі пашавэлкамі літаратара Дняпровіча, які вёз дахаты дзвесце асобнікаў сваіх свежавыдадзеных кніг, падаецца глыбока сімвалічным вобразам нашага часу…

Але нават пры такім раскладзе жыцця, ці трэба забіваць творцу ў сабе?..

ЛеГАЛ

## Памяць пра легенду



22 сакавіка 2010 года памёр вядомы беларускі пісьменнік Кастусь Тарасаў. З творчасцю гэтага чалавека ў мяне звязана багата светлых успамінаў дзяцінства і юнацтва.

…Кнігарня на вуліцы Бялінскага, куды заходжу з бабуляй. Яна бачыць на верхняй паліцы кнігу Тарасава "Памяць пра легенды" і набывае — мне ў падарунак. Летняя раніца дома, калі, уладкаваўшыся на канапе, забываюся пра ўсе справы і ў чарговы раз перачытваю "Тры жыцці княгіні Рагнеды" ці "Пагоню на Грунвальд"...

Для мяне, сённяшняга, Тарасаў не проста адзін з любімых аўтараў юнацкіх часоў, не толькі адзін з самых лепшых настаўнікаў гісторыі, ён чалавек, які адыграў вельмі значную і, магчыма, яшчэ не цалкам асэнсаваную ролю ў развіцці нашай літаратуры. Паспрабую яе акрэсліць.

Беларуская гістарычная літаратура ў той час, калі ў яе прыйшоў Тарасаў, здавалася амаль некранутай і мала каму вядомай прасторай. За выключэннем У. Караткевіча, нямногія пісьменнікі звярталіся да гістарычнай спадчыны. Але нават Уладзімір Сямёнавіч не ўсё мог сабе дазволіць. Калі не лічыць раман "Каласоў пад сярпом тваім", дзеянне ў якім адбываецца ў XIX ст. (у перыяд адсутнасці ў беларусаў сваёй дзяржаўнасці), ва ўсіх астатніх творах Караткевіч арыентаваўся на негістарычных, народжаных фантазіяй герояў. Рэальных палітычных асобаў (князёў, каралёў, буйных магнатаў ВКЛ ці Рэчы Паспалітай) у яго гістарычнай прозе амаль няма. Вядома, на ўсё былі свае прычыны, бо ў часы існавання Савецкага Саюза галоўным героем і літаратуры, і гісторыі лічыўся народ ці яго прадстаўнікі.

Караткевіч падараваў беларусам нацыянальную ідэю. Тарасаў першы ўвёў у гістарычную літаратуру носьбітаў гэтай ідэі: у 1980 годзе выйшаў яго славуты раман "Дзень рассеяння", які потым быў выдадзены пад назвай "Пагоня на Грунвальд". Кастусь Тарасаў стаў першым, хто здагадаўся скарыстацца ў беларускіх умовах "залатым правілам" прыгодніцкай літаратуры — увёў у раман прастага чалавека, які сваімі дзеяннямі ўплывае на ход гісторыі. Так, яго герой Андрэй Ільініч арыштоўвае князя Свідрыгайлу, удзельнічае ў вандроўцы Вітаўта да імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі і спрыяе перамозе над крыжакамі.

Пры гэтым Тарасаў зрабіўся адным з нешматлікіх пісьменнікаў, які знайшоў у сваіх творах ідэальны баланс паміж прыгодніцкімі і гістарычнымі элементамі. Вітаўт, Ягайла, магістр Тэўтонскага ордэна выглядаюць у яго такімі ж натуральнымі героямі, як і простыя шляхціцы.

Нарэшце, пісьменнік стаў, па сутнасці, рухавіком цэлай плеяды талентаў нашай гістарычнай прозы другой паловы 1980-х — і пачатку 1990-х гадоў. Менавіта тады з'явіўся шэраг твораў, якія па часе ахоплівалі падзеі ад глыбокай старажытнасці (часоў Полацкага княства) да сучаснасці (падзеі пачатку XX ст., утварэнне беларускай дзяржаўнасці). Зрэшты, творчасць Леаніда Дайнекі, Вітаўта Чаропкі і іх таленавітых калег, якая атрымала велізарны грамадскі рэзананс, была ўжо працягам і развіццём гэтага накірунку.

Кастусь Тарасаў здолеў пабудаваць мост і перакінуць яго ад залатога часу Караткевіча да прадаўжальнікаў яго справы. Кнігі пісьменніка — "Памяць пра легенды", "Пагоня на Грунвальд", "Тры жыцці княгіні Рагнеды", "Апошняе каханне князя Міндоўга" — сталі адной з вяршыняў беларускай гістарычнай прозы. Таму асобе пісьменніка і яго творам наканавана даўгавечная памяць нашчадкаў і чытацкая ўвага…

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

Калектыў РВУ «Літаратура і Мастацтва» глыбока смуткуе з прычыны смерці пісьменніка Канстанціна ТАРАСАВА (Матусевіча) і выказвае шчырыя спачуванні родным, блізкім, сябрам і калегам нябожчыка.

# У чаканні вясны вечна новай



Аповесць "Служу Радзіме" М. Фядосіка з'яўляецца прыкладам твора, новага па тэматыцы для беларускай літаратуры, але дастаткова вядомага па сучаснай медыйнай прасторы. Маю на ўвазе твор "пра салдат", іх службу-дружбу, розныя здарэнні і сітуацыі, звязаныя з вайсковай службай, гумарыстычныя падрабязнасці і спецыфічныя яе асаблівасці.

Працяг цыкла балад "Балады крыві і любові" В. Шніпа прысвечаны постацям Усяслава Чарадзея, Мікалая Крыштафа Радзівіла (Сіроткі), Юрыя Алелькавіча, І. Храптовіча, Ю. Нямцэвіча, А. Незабытоўскага, Р. Траўгута, Я. Карскага, М. Доўнар-Запольскага, К. Каганца, П. Крачэўскага, Я. Дылы, І. Дварчаніна, Ю. Лістапада, У. Жылкі. Працяг рамана А. Брытуна "Пах мускусу" ўсё больш наладжвае на разуменне таго, што твор застанецца наборам сітуацый і не складзецца ў цэльную карціну. Усё-такі аўтару не хапіла майстэрства сілай свайго таленту і сваёй асобы прымусіць рухацца эстэтычную рэальнасць па арбіце свайго творчага "здумлення". Не хапае аўтару, яго магнітнай і магутнай, усюдыіснай і нябачнай прысутнасці. Ёсць апісанні, ёсць назіранні, пэўны жыццёвы досвед, але сабраць усё гэта ў адно не атрымалася — кантрапункт адсутнічае.

Тое самае ды з пэўнымі агаворкамі можна сказаць і пра апавяданне А. Макоўскага "Гора горкае". Бо твор, як больш кампактны і лаканічны — атрымаўся. Але дзе тая багдановічаўская "хваля пачуцця", якою мусіць набрыняць апавяданне (ці верш — жанр тут значэння не мае) з дапамогай аўтара? Тым не менш, апавяданне сярод лепшых публікацый гэтага месяца ў жанры малафарматнай прозы.

Нізкі вершаў Л. Кебіч і А. Легастаевай — лірычныя занатоўкі, разнастайныя па рытміцы і строфіцы.

Вершы Ю. Сапажкова "Смак чарэшні" ў перакладзе М. Мятліцкага набылі слоўную (лексічную) згушчанасць, урэшце, не ўласцівую арыгіналу, а хутчэй перакладчыку. У падборку, у адрозненне ад нёманаўскай публікацыі ўвайшлі вершы з больш разгорнутай вобразнасцю, буйнейшыя па фармаце.

У раздзеле навуковых публікацый — артыкул Т. Аляшкевіч "Гук і сэнс у паэтычным космасе Алеся Разанава". "Школьныя далягляды" прапануюць працу Т. Шамякінай "Беларуская літаратура ў кантэксце". М. Кенька публікуе свае развагі наконт перакладчыцкай справы і яе стану ў сучаснай Беларусі, успамінае пра часы, калі творцы краін-суседак актыўна перакладалі адзін аднаго. З публіцыстыкі — і нарыс А. Марціновіча "На сінім Бабры ў бары…" пра культурніцкую працу ў Крупскім раёне. Г. Чарказян у эсэ "На хвалях Вечалля" распавядае пра сваё сяброўства з народным паэтам Беларусі Рыгорам Барадуліным, чыё 75-годдзе днямі святкавалі ўсе прыхільнікі творчасці знанага паэта. С. Андраюк разважае пра жыццёвы і творчы шлях Міколы Кусянкова.

Чытацкая і проста "экстралітаратурная" перапіска М. Лынькова з фондаў Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва апублікаваная ў лютаўскім "Полымі" С. Нікіценкам. З малавядомых старонак — і заканчэнне працы П. Шпілеўскага "Мазыршчына" ў перакладзе А. Вашчанкі. Завяршаецца нумар традыцыйным "Календаром памятных дат".



Другі фрагмент аповесці У. Караткевіча "Перадгісторыя" знаёміць з працягам прыгодаў Яна і іншых вядомых персанажаў. Алегарычнасць твора не дае магчымасці пераносіць дзеянне на пэўны гістарычны перыяд нацыянальнай гісторыі, але нельга і не суадносіць "Перадгісторыю" з "беларускім шляхам". Быць можа, гэта самы зашыфраваны і самы "смелы" твор пісьменніка. Тое, што ён напісаны па-руску, па-свойму тлумачыцца пісаннем Янам вучоных трактатаў пра родны народ на мове захопнікаў.

Падборка вершаў Ю. Сапажкова "Перад сумленнем сваім…" — да 70-гадовага юбілею аўтара, з чым яго шчыра і віншуем. Вершы — афарыстычныя, трапныя, лаканічныя, часам — альбомныя; з уменнем назіраць не толькі за сабой (як гэта сёння робіць пераважная большасць лірыкаў), але і "за светам", скажам так. Простыя і чалавечныя вершы.

Колькі апавяданняў А. Жука ў аўтарскім перакладзе з беларускай (адно з іх друкавалася летась у "ЛіМе"), безумоўна, прыцягнуць увагу чытача адвостраным стылем, самотным прачытаннем чалавечага жыцця, на што, вядома, заўсёды знойдзецца водгук.

Вершы М. Пазнякова ў перакладзе Г. Кісялёва амаль непазнавальныя. Танальнасць і аўтарскі стыль кардынальна змяніліся. І атрымалася, як на мой погляд, някепска. Як быццам М. Пазнякоў якраз па-руску ўсё жыццё і піша. Мусіць, так і павінен гучаць добры пераклад.

Асабіста для мяне "Тры апавяданні пра шчасце" У. Васіленкі сталіся маленькім адкрыццём. А можа, і не маленькім, як гэта сказаць? Апавяданні кароткія, імпульсіўныя, па-добраму асацыятыўныя і наогул — добрыя. Ні на каго не падобныя — у нашых "шыротах". А гавораць яны ўсё пра тое ж — пра мужчыну і жанчыну, пра дзіцячы свет, пра шчасце. Добра чытаецца такая проза ў чаканні вясны…

Нізка І. Катлярова "Нябесная вестка" гаворыць пра смерць, а гэтая тэма ніколі не састарэе. Вершы вытрыманы ў межах традыцыйнай аўтарскай паэтыкі.

Апавяданні В. Ершовай "Краіны расчараванняў" — інтэрнэт-гісторыі пра сайты знаёмстваў і што падчас гэтых знаёмстваў адбываецца. Яно і цікава адно-два гэткіх аповеды пачытаць, а пасля трохі надакучвае. Стыль гладкі, зрэшты. Іранічны.

Вершы А. Несцерава — нешта апалінэраўскае, размашыстае ў параўнаннях, метафарах і асацыяцыях. Можна было б і без косак?

Навелы Н. Пархімовіч нагадваюць класічныя "непрыдуманыя" гісторыі з невялікім працэнтам празаічнай аблямоўкі.

Лірыка Н. Алейнікавай — самахарактарыстыкі лірычнай гераіні, экспрэсіўныя і насычаныя вітальнай энергіяй.

У аддзеле "Сусветнай літаратуры" надрукавана заканчэнне рамана М. Дзюгена "У Францыі шчаслівы, як бог", а таксама падборка вершаў вядомага ўкраінскага паэта Д. Паўлычкі ў перакладзе В. Зубаравай. Раман Дзюгена, перайшоўшы з ваеннага ў найноўшы час шмат што страціў — найперш у сюжэтнай дынаміцы. Таму канцоўка атрымалася нейкай "змазанай". А пачыналася ўсё не горш за Рамэна Гары…

Рубрыка "Дакументы. Нататкі. Успаміны" ўключае ў сябе эсэ А. Ждана, прысвечанае 80-годдзю з дня нараджэння В. Тараса і фрагменты з дзённіка В. Грышкаўца розных гадоў.

"Да 65-годдзя Вялікай Перамогі" прапануецца матэрыял В. Бурдыкі "Гонар маёй брыгады — мой гонар" пра гісторыю 111-й артбрыгады і аднаго з афіцэраў гэтага падраздзялення — Фёдара Патаніна.

Рубрыка "Асоба" публікуе нарыс-гутарку Н. Саветнай "Пахне чабор", прысвечаны вядомаму педагогу-метадысту М. Яленскаму.

Цікавым падаўся матэрыял К. Ладуцькі, дзе зроблены партрэт былой мінчанкі Алены Говар, аўстралійскага гісторыка і наогул чалавека неардынарнага лёсу.

У крытычным аддзеле "Нёмана" — нарыс К. Камейшы "Раўняючыся на век" пра творчасць В. Макарэвіча, агляд паэтычнага даробку Т. Лейка робіць у артыкуле "Душа славянская разліву" Н. Сенатарава. Я. Каршукоў рэцэнзуе новы раман А. Сульянава "Чорны Мерседэс". Замыкае крытычную рубрыку "Кніжны агляд" А. Базылевіча.



Падборка вершаў Н. Грышчук "Анёлы вучацца лятаць" (а можа, усё-ткі "лётаць"?) — удалы дэбют: класічнасць, добрая мова і тэхніка. Адзначым вершы "У ноч калядную Дзяды…" і "Вёска. Лёгкі дым над камінамі".

Два кароткія апавяданні (першае — лепшае) дэбютанткі Д. Максімавай — змрачнаватыя замалёўкі, не пазбаўленыя, трэба скзаць, арыгінальнасці мыслення ("ад палёгкі і нават ад агіды, а зусім не ад раптоўнага надыходу зімы, скінулі клёны лісце"). І такое трэба. Супакойвае і ўсмешлівае фота аўтаркі – не ўсё яшчэ, маўляў, "дало душок", нешта сярод агіды, гвалту і тлуму такі засталося чыстым. Ды хаця б гэтая ўсмешка. Магчыма, неўзабаве замалёўкі разрастуцца ў апавяданні.

Нізка вершаў А. Сузіня "Горад" — назве адпавядае: урбаністычная лірыка, арытмічная, але без "лесвіцы", хоць і з арыентацыяй на яе; скрыгатлівая, дэкларатыўная, як фабрычная труба…

Фэнтэзі С. Мінскевіча "Рок@нат" з'яўляецца кангламератам розных мастацкіх практык, мастацкіх ідэалогій. Бадай, што гэта твор "без традыцыі". Прынамсі, з падкрэсленым адрывам ад класічнай фантастыкі. Ён як быццам склеены з асобных кавалачкаў, але гэтая стракатая сюжэтная мазаіка нечакана складваецца ў дзіўную цэльную карціну. Фэнтэзі без псіхалагічных раскладак герояў (г.зн. па сутнасці пазбаўлены "героя" і "характару" ў літаратуразнаўчым сэнсе слова), але (пера)насычаны нечаканымі экскурсамі ў псіхааналіз і тэасофска-містычныя аналогіі.

Вершы В. Бубнава "Вышыня" неяк разбаўляюць гэтае маладзецкае эксперыментатарства часопіса традыцыйным падыходам і немітуслівасцю. Адзначым верш "Адгушкала дзяцінства на арэлях…" Працягваецца публікацыя перакладу хронікі Я. Длугаша "Грунвальдская бітва" (што праўда, больш лагічна было б паставіць гэтую працу паміж літаратурным і публіцыстычным блокамі нумара, бо гэтая "разбіўка" — толькі на шкоду).

Вершы К. Макарэвіч з падборкі "Цеплыня тваіх рук" — дасціпныя замалёўкі, добрыя цёплыя верлібры, трохі іранічныя, дастаткова эмацыянальныя, каб не стаць халоднымі штабелямі метафар.

Пачатак публікацыі аповесці Г. Пацыенкі "Пакуль куля ляціць" (у перакладзе з рускай мовы Г. Васільчанкі), акрамя таго, што назва твора з'яўляецца ўзорам здвоенага збегу зычных, дае надзею на цікавы працяг. Стыль, прынамсі, неблагі. Трошкі падзабыты, савецкі — але з "паветрам", з шасцідзесятніцкай свабодай… Аповесць пра "абпаленае вайной дзяцінства", ды, як пісаў бы "шасцідзесятніцкі" крытык — з новай распрацоўкай тэмы, бо сярод вясковай дзятвы перад вайной з'яўляецца гарадская дзяўчынка, жыхарка "іншага" свету…

Паэма А. Дуброўскага-Сарочанкава "Новае неба" — з'ява унікальная ў многіх адносінах. Хаця б у тым, што абраны аўтарам жанр сёння, мякка кажучы, не ў пашане. Як і ўзнёслая патэтыка, якою працяты твор. Твор на мяжы класічнага і новага мыслення, што аднак не наважыўся перайсці пэўную мяжу, якая б аддзяліла яго і ад першага, і ад апошняга. Зрэшты, магчыма, гэтае спыненне аўтара — таксама знак? У кожным разе, паэма таленавітая і — важна! — цэласная.

У аддзеле публіцыстыкі — інтэрв'ю з У. Мазго, нарыс Я. Вітчанкі, прысвечаны культурніцкай працы ў Валожынскім раёне. "Дыскус-клуб" "Маладосці" гэтым разам задаецца пытаннем — "як пачаць размаўляць па-беларуску?" І. Клімковіч у рубрыцы "Мая прафесія" знаёміць чытачоў з установамі, дзе можна набыць сэрэдне-спецыяльную адукацыю. У лютаўскім нумары І. Клімковіч прапануе разгорнутую гутарку з дырэктарам Мінскага дзяржаўнага прафесійна-тэхнічнага каледжа гандлю У. Гапоненкам. К. Ладуцька публікуе нарыс пра ўраджэнца Беларусі, выдатнага вучонага-астранома Г. Ціхава. М. Міршчына ў артыкуле "Душа адкрытая…" коратка распавядае пра кнігу ліставання Р. Барадуліна з маці, прыводзячы ўрыўкі з гэтага выдання. Працягваецца публікацыя краязнаўчага даведніка "Літаратурныя мясціны Беларусі" Д. Крывашэя і А. Мальдзіса. А вось уласна крытычных матэрыялаў у нумары, па сутнасці, і няма. Шкада.

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ



# Для творчасці няма правінцыі

У кожным з нас жыве імкненне да прыгажосці, але выяўляецца яно па-рознаму. Адны працуюць над творамі, прыносячы ў свет хараство, другія — захапляюцца шэдэўрамі мастацтва, вынікамі творчых задум таленавітых людзей. Наталля Ермаловіч, ураджэнка і жыхарка горада Дзяржынска, належыць да першай катэгорыі людзей. Архітэктар паводле адукацыі, па прызванні — педагог, яна на працягу некалькіх гадоў працавала ў Дзяржынскай школе мастацтваў разам з мастаком Уладзімірам Шчарбіным. Дзякуючы іх намаганням, з многіх выпускнікоў школы атрымаліся вядомыя цяпер майстры, у тым ліку Андрэй Мяцельскі, пра якога расказваў "ЛіМ". Выхаванцы школы са сваімі творамі ўдзельнічалі ў шматлікіх замежных і айчынных выстаўках і паўсюль атрымлівалі ўзнагароды. А ў гонар трох таленавітых вучняў, у тым ліку лаўрэата Спецыяльнага фонду пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі Максіма Мяснікова, у далёкім Іерусаліме, у Біблейскім садзе, нават пасадзілі тры дрэўцы.

Пра тое, наколькі вядомае ў свеце імя Наталлі Ермаловіч, сведчыць просты пералік краін, дзе яна ўдзельнічала ў выстаўках як педагог і адкуль разам са сваімі выхаванцамі прывозіла ўзнагароды: Расія, Літва, Македонія, Партугалія, Славенія. Зразумела, было нямала выставак у розных гарадах Беларусі.

У дзяцінстве Наталля пераняла асновы выяўленчай культуры ад свайго бацькі Мікалая Антонавіча, а таксама ад траюраднага брата — Юрыя Карачуна, мастака, мастацтвазнаўцы, які на працягу двух дзесяцігоддзяў быў дырэктарам Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі. Архітэктурная адукацыя дала Наталлі Ермаловіч асаблівае разуменне прасторы і аб'ёму ў ёй, цікавасць да рукатворнай адчувальнай формы выклікала захапленне лепкай з гліны, а любоў да дзяцей прывяла яе да педагагічнай працы. Аўтарская кераміка мастачкі вызначаецца свабодай лепкі, глыбінёй мастацкіх асацыяцый. І не дзіўна, што лепшыя творы Наталлі Мікалаеўны разляцеліся па ўсім свеце і цяпер знаходзяцца ў прыватных калекцыях у ЗША, Францыі, Ізраіля…

Шчасце Наталлі Ермаловіч у творчасці і ў творчых задумах. Непадалёк ад Дзяржынска знаходзіцца вёска Вялікае Сяло, дзе мастачка марыць стварыць асветніцкі культурна-экалагічны цэнтр. Шмат што з задуманага ўжо зроблена. Побач са старэйшай на Дзяржыншчыне сярэдняй школай у драўляным будынку месціцца музей народнай творчасці, гаспадыня якога — Наталля Ермаловіч. У музеі шмат унікальных рэчаў даўняга вясковага побыту: старажытныя абразы, прылады працы, куфар сярэдзіны XIX стагоддзя, калаўроты, мастацкія вырабы мясцовых народных умельцаў… Збіраць экспанаты актыўна дапамагаюць мясцовыя жыхары. З цягам часу тут з'явіцца і печ для абпальвання керамічных вырабаў. У добраўпарадкаванні музея мастачцы дапамагае і вядомы ў Беларусі майстар-гадзіншчык Андрэй Мартынюк.

Тэрыторыя, прылеглая да музея і школы, аздобленая ландшафтнай кампазіцыяй з па-мастацку апрацаваных валуноў. Стварыў яе вядомы мастак, скульптар Віталь Чарнабрысаў. Дарэчы, ён жа высек з каменя і ўсталяваў у цэнтры вёскі крыж на месцы разбуранай у 1930-я гады царквы. У Наталлі Ермаловіч ёсць задума пабудаваць побач з крыжам невялічкую каплічку ў памяць продкаў (незалежна ад іх веравызнання), загінулых у часы мінулых войнаў. Але на гэта пакуль няма сродкаў, і задума застаецца толькі марай…

Марыць Наталля Ермаловіч і пра тое, каб з цягам часу гэтая мясціна з цудоўнымі краявідамі і культурна-экалагічным цэнтрам зрабілася прыцягальнай для турыстаў, тым больш, што побач — зона зімовага адпачынку "Якуцкія горы", адсюль рукой падаць і да найвышэйшай кропкі Беларусі — гары Дзяржынскай (Святой), побач з вёскай — насаджэнні рэдкай у Беларусі карэльскай бярозы, шматлікія крынічкі з гаючай вадой выбіваюцца з-пад зямлі, наталяючы смагу рэчкі Перакуль, што цячэ праз вёску.

Калісьці, у 1990-х гадах, Наталля Ермаловіч ездзіла разам са скульптарам В. Чарнабрысавым у Гомель на пленэр, дзе пазнаёмілася з выдатным мастаком-педагогам Васілём Сідарэнкам. Гэты таленавіты мастак, глухі з дзяцінства, атрымаў нядрэнную мастацкую адукацыю ў С.-Пецярбургу, і цяпер з'яўляецца кіраўніком узорнай студыі пры Доме культуры глухіх, а таксама выкладчыкам мастацкай школы Гомеля, у класе для глухіх і вучняў з праблемамі слыху. З таго часу, ужо некалькі гадоў запар, гэтыя апантаныя мастацтвам дзеці разам са сваім настаўнікам Васілём Сідарэнкам прыязджаюць у летні час у Вялікае Сяло на мастацкія пленэры, дзе іх шчыра прывячае мастак-педагог Наталля Ермаловіч. У маляўнічых мясцінах таленавітыя госці адточваюць сваё майстэрства, малююць навакольныя краявіды. І ў гаспадыні для кожнага з гэтых дзяцей заўсёды знойдзецца ласкавае слова, добрая парада, душэўная цеплыня. Што раз падчас правядзення пленэру таленавітых дзетак у Вялікім Сяле наведваюць госці з Мінска, артысты аматарскага тэатра з каларытнай назвай "Крывы тэатр", у пастаноўках якога выкарыстоўваюцца і лялькі, і пантаміма…

Працуючы на вёсцы, Наталля Ермаловіч упэўненая, што для творчасці, мастацтва няма правінцыі. І яна мае рацыю.

Лявон ЦЕЛЕШ





На здымках: адна з работ мастачкі; Наталля Ермаловіч у музеі народнай творчасці; вучаніца мастачкі.

Фота аўтара

## У наступным нумары

У Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце пачалі распрацоўваць новы вучэбны курс — мастацкага перакладу. І вывучаць замежныя мовы праз беларускую.

Гэта — толькі некаторыя з апошніх напрацовак лінгвістычнага універсітэта, вядомага раней як Інстытут замежных моў.

Выкладаюць у ВНУ беларускую мову і для замежных грамадзян. Ёсць такія ахвотнікі ў Германіі, у ЗША, у Канадзе, Францыі, нават у Паўднёвай Амерыцы. А гэта значыць, носьбітаў нашай роднай мовы ў свеце стане значна больш.

Пра набыткі ўстановы па пашырэнні роднай мовы нашаму карэспандэнту Ірыне Тулупавай распавядзе рэктар МДЛУ Наталля БАРАНАВА.

З глыбінкі

## Не горш, як у філармоніі

Кампазітар Фрэдэрык Шапэн (1810—1849), чый юбілей па рашэнні ЮНЕСКА адзначаецца як культурная падзея года, нарадзіўся ў Польшчы. Воляю лёсу ў 20 год пакінуў радзіму, але сваёй творчасцю ўславіў яе ва ўсім свеце. Бліскуча дэбютаваўшы як піяніст у Венскай оперы, хутка пераехаў у Парыж. Большасць твораў маэстра напісаў для фартэпіяна. Сэрцам дакранууца да музычных шэдэўраў дапамагла вечарына ў Лунінецкай дзіцячай школе мастацтваў, падрыхтаваная да 200-годдзя кампазітара.

Камерная зала была запоўнена вучнямі, якія радаваліся рэдкай магчымасці даць ацэнку сваім настаўнікам. Вядучая Ірына Гольдзіна правяла своеасаблівы адкрыты ўрок і для дарослых гледачоў, сярод якіх пераважалі бацькі. Выкладчыца адрасавала аўдыторыі пытанні: якім танцам-шэсцем адкрываюцца балі? Для якога танца характэрны пункцірны рытм і акцэнт на слабую долю? Дзеці дакладна называлі нацыянальныя польскія мелодыі, у якія кампазітар удыхнуў новае жыццё. Чароўнымі гукамі захаплялі паланез ля-бемоль мажор і мазурка ля мінор.

На жыццё Шапэн зарабляў і ўрокамі ігры на фартэпіяна, таму пісаў творы спецыяльна для развіцця тэхнікі пальцаў. Уплыў на суайчынніка аказаў другі слынны эмігрант — паэт Адам Міцкевіч, што занатавана ў чатырох баладах кампазітара. З якім моцным пачуццём выканала баладу соль мінор Галіна Яскевіч! Такія ж шчырыя ўражанні, якія выказаліся ў сапраўдных авацыях слухачоў, выклікала скерца сі-бемоль мінор у выкананні Валянціны Савінкінай. Загадчыца фартэпіяннага аддзялення стрымана прымала словы ўдзячнасці:

— Зразумела, у нас — не філармонія, але стараліся ад душы...

Упрыгожаннем амаль дзвюхгадзіннай сустрэчы стала выступленне Наталлі Мурко з песняй на музыку Шапэна "Жаданне" на польскай мове.

Тацццяна КАНАПАЦКАЯ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі"
РВУ "Літаратура і Мастацтва"

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ

Рэдакцыйная калегія:
Анатоль Акушэвіч
Лілія Ананіч
Алесь Бадак
Дзяніс Барсукоў
Святлана Берасцень
Віктар Гардзей
Уладзімір Гніламёдаў
Вольга Дадзіёмава
Уладзімір Дуктаў
Анатоль Казлоў
Алесь Карлюкевіч
Анатоль Крэйдзіч
Віктар Кураш
Алесь Марціновіч
Мікола Станкевіч (намеснік галоўнага рэдактара)
Юрый Цвяткоў
Мікалай Чаргінец
Іван Чарота
Іван Штэйнер



Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-82-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнеце: www.lim.by
Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 3072
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 25.03.2010 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 1370
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4666